Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 48 (4592) 3 снежня 2010 г.

## У нумары:





# На далонях Лунінскай восені

**Сёмы ўжо год Лунінеччына, як ніякі іншы куточак нашай Беларусі, высокім мастацкім словам ухваляе не толькі восеньскае харство і не толькі душэўную прыгажосць тутэйшых людзей, іх надзеі і спадзяванні. Глыбокая, шчодрая, урачыста сцішаная ў прадчуванні першага бялюткага снегу Лунінская восень ушаноўвае найперш таленавітых творцаў. І ў гэтай сваёй справе сёлета яна знітавала тры літаратурныя святы: уласна сам творчы фестываль, паэтычнае свята ў Лунінскай агульнаадукацыйнай школе і святкаванне юбілею Уладзіміра Караткевіча.**



Правядзенне фестывалю "Лунінская восень" і прымеркаваная да яго цырымонія ўручэння літаратурнай прэміі Брэсцкага абласнога выканаўчага камітэта імя Уладзіміра Калесніка цяпер ужо падзея пазнавальная і чаканая. Гонар стаць лаўрэатам прэміі надае асаблівае адчуванне таго, што адбываецца ў творчым асяродку менавіта гэтага рэгіёна, сваёй малой радзімы. Узвышаецца не толькі ўласна літаратурная праца творцы — яна арганічна ўпісваецца ў кантэкст падзей ва ўсёй Беларусі. Свята як быццам стварае, выштукоўвае на агульнанацыянальнай літаратурнай канве непаўторныя рэгіянальныя ўзоры. Лаўрэатамі прэміі, якая ўручаецца чацвёрты год запар, за час яе існавання сталі каля паўтара дзясятка творцаў Берасцейшчыны. Знакавыя кнігі з'явіліся і апошнім часам. Сёлетнія пераможцы — паэты Надзея Парчук (за кнігі "Раскрыліўся бусел над хатай" і "Зарунее жыта зноў") і Віктар Вабішчэвіч (за кнігу "Уражанне"), празаік Аляксандр Валковіч (за кнігі "Алеся. Белавежскія сны" і "Бяроза чорная. Бяроза белая"), дзіцячая пісьменніца Алена Савосціна (псеўданім Зоя Гарадзецкая) за кнігу п'ес "Казкі навагодняга лесу". Зусім не дарэмна з высокай трыбуны чуліся падзякі кіраўніцтву рэгіёна за спрыянне ў творчасці і высокую ацэнку працы. "Без перабольшання, наш фестываль з'яўляецца важнай падзеяй у духоўным жыцці вобласці. Ён у значнай ступені садзейнічае развіццю як літаратурнага мастацтва Берасцейшчыны, так і наогул спрыяе захаванню, а таксама развіццю мовы і культуры беларускага народа", — падкрэсліў на ўрачыстасцях намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леанід Цупрык.

На цырымоніі ўручэння літаратурнай прэміі прысутнічалі і маладыя творцы. Дарэчы, поруч з такім вялікім літаратурным конкурсам існуюць заснаваныя ў рэгіёне і конкурсы для пачаткоўцаў. Сёлета падчас фестывалю распаўсюджвалася найкаштоўнейшая кніжка — на жаль, накладам усяго 150 асобнікаў, — дзе сабраныя лепшыя вершы і першыя празаічныя творы ўдзельнікаў літаратурных конкурсаў "Пагляндзі на Брэст над Бугам, колькі хараства" і "Мы рождены для вдохновенья". Кніга мае назву "Адкрыццё-2009", яе ўкладальнікі — старшыня Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Крэйдзіч (ён жа — ініцыятар заснавання самой прэміі і старшыня савета па яе прысуджэнні, а таксама старшыня журы дзіцячага літаратурнага конкурсу, які сёлета меў назву "Доблесць продкаў — нашчадкам у спадчыну") і яго намесніца пісьменніца Любоў Красеўская. Да правядзення творчага спаборніцтва сярод маладых спрычыніліся разам з абласным пісьменніцкім аддзяленнем кафедра беларускага літаратуразнаўства філалагічнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. С. Пушкіна і Брэсцкае аддзяленне РГА "Русское общество". "Творчы конкурс акрыляе", — заўважыў добрую прыкмету літаратурнага поля Берасцейшчыны намеснік старшыні Лунінецкага раённага выканаўчага камітэта Андрэй Мазько. Ён браў слова на паэтычных чытаннях у Лунінскай агульнаадукацыйнай школе. — Разам з тым мы атрымалі і адказ на пытанне, а што ж робіць улада для развіцця літаратуры. На Брэстчыне гэты адказ станоўчы: многае. І з кожным годам адбываецца нешта новае, але галоўнае — адкрываецца шмат імёнаў".

Пра агульнаадукацыйную школу Луніна — асаблівыя згадкі. Менавіта яна стала першым прыпынкам на шляху ўдзельнікаў свята "Лунінская восень". Тут добра ведаюць пра літаратурны фестываль, і ў школе надоўга прапісаліся восеньскія матывы: яе лесвіцы распісаныя кляновымі, дубовымі лісткамі, на сценах — выявы родных краявідаў. На першым паверсе разгорнута (мяркую, пастаянная) "Алея дзіцячай фантазіі" — адмысловая выстаўка мастацкіх твораў школьнікаў — дзе яшчэ ўбачыш такую? А на другім паверсе ніяк не прамінеш асобны пакойчык — беларускую хатку. Тут сабраныя старадаўнія рэчы-экспанаты: тканыя ручнікі, чыгункі, збаны, шматлікія вышыванкі. У школе, дырэктарам якой з'яўляецца Сяргей Курак, арганізавана навучанне спецыяльным дысцыплінам харэаграфічнай і мастацкай скіраванасці. І канцэрт-сустрэча прадэманстраваў: увага да літаратуры тут самая непасрэдная, рознабаковая. У раёне, да прыкладу, праводзіўся конкурс чытальнікаў паэзіі і прозы Уладзіміра Караткевіча "Зямля пад белымі крыламі". Дыпламант конкурсу вучань сярэдняй школы в. Вулька-2 Васіль Кузьміч прадэкламаваў вялікі ўрывак прозы У. Караткевіча. Чытаў, быццам сваё, радзіннае, вельмі яму блізкае.

Удзельнікі свята дзівіліся: колькі цікавых ідэй прыходзіць з Брэстчыны! Добрым дарадцам і краязнаўцам, і літаратарам, і навукоўцам даўно стала Брэсцкая абласная бібліятэка імя А. С. Пушкіна, якая і падчас фестывалю на Лунінецкай зямлі разгарнула выстаўку з твораў сваіх землякоў, а таксама Брэсцкі дзяржаўны універсітэт, без прадстаўнікоў якога не абыходзіцца ніводнае літаратурнае мерапрыемства, у тым ліку і гэтае.

Пра тое, што па традыцыі кожны год робіцца адмысловы берасцейскі нумар часопіса "Маладосць", распавяла яго галоўны рэдактар, ураджэнка Брэсцкай вобласці Раіса Баравікова. Пастаянны ўдзельнік фестывалю — часопіс "Нёман", галоўны рэдактар якога — ураджэнец Ляхавіччыны Алесь Бадак. У фае кінатэатра, дзе праходзіла цырымонія ўганаравання лаўрэатаў прэміі імя Уладзіміра Калесніка, выставіў свае творы мастак Янка Рамановіч. Сабраліся людзі, якія працуюць дзеля развіцця літаратуры ў гэтым рэгіёне, дзе клопат пра духоўны стан суайчыннікаў лічаць не менш важным, чым матэрыяльныя даброты.

Між іншым, праект стварэння і выдання "Літаратурнай карты вобласці", які ініцыіравала абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і здзейсніла яго разам з філалагічным факультэтам Брэсцкага дзяржуніверсітэта імя А. С. Пушкіна пры істотнай падтрымцы аблвыканкама, апраўдаў сябе: яе плануецца перавыдаць да Дня беларускага пісьменства. У 2011-м гэта агульнарэспубліканскае свята пісьменнікаў, кнігавыдаўцоў і кнігараспаўсюджвальнікаў будзе святкавацца таксама на Брэстчыне — у Ганцавічах.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымку: падчас фестывалю "Лунінская восень" намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама Леанід Цупрык уручае Дыплом лаўрэата прэміі імя У. Калесніка паэту Віктару Вабішчэвічу.

Фота Аляксандра Шаблюка

Калаж Віктара Калініна

## Пункцірам

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў калектыў Рэспубліканскай гімназіі-каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі з 75-годдзем навучальнай установы. "Няхай і надалей ваша паўсядзённая творчая праца па пошуку талентаў і раскрыцці іх здольнасцей выклікае шчырую павагу і ўдзячнасць", — пажадаў Прэзідэнт.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Генадзя Хазанава з 65-годдзем. "На працягу дзесяцігоддзяў вы з'яўляецеся адным з самых папулярных артыстаў. Ваша творчасць дорыць весялосць і смех, адыгрывае вялікую сацыяльную ролю, узнімаючы шматлікія і важныя праблемы сучаснага грамадства", — гаворыцца ў віншаванні.

• Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванне родным і блізкім Бэлы Ахмадулінай у сувязі са смерцю паэтэсы. "Бэла Ахмадуліна пакінула след у гісторыі культуры як яркі прадстаўнік пакалення "шасцідзясятнікаў", бліскучы майстар мастацкага слова і чалавек з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй", — гаворыцца ў спачуванні.

• Прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь "Аб стварэнні Рэспубліканскага савета па справах культуры і мастацтва пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь". Мэта новага грамадскага фарміравання — абмяркоўваць і выносіць на разгляд урада прапановы па ключавых праблемах развіцця культуры і мастацтва, па падтрымцы канкрэтных грамадска значных культурных праектаў.

• Адкрыццё замкавага комплексу "Мір" пасля рэканструкцыі адбудзецца 10 снежня. Унікальны помнік архітэктуры, уключаны ў 2000 годзе ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА, расчыніць свае дзверы для наведвальнікаў напярэдадні калядных свят, і таму тут чакаецца вялікі наплыў турыстаў, у тым ліку і з далёкага замежжа.

• У рамках Года культуры Беларусі і Расіі ў Маскве прайшлі Дні беларускага кіно. Масквічы атрымалі магчымасць пабачыць найноўшыя фільмы, створаныя беларускімі кінематаграфістамі, і ацаніць узровень сучаснага беларускага кінематографа. У праграму мерапрыемства трапілі мастацкія стужкі "Масакра", "Дастыш фантастыш", "Ваўкі"; дакументальныя — "Мама прыйдзе!", "Мінск вячэрні", "Полацк"; анімацыйныя — "Жылабыла апошняя мушка", "Птушка", "Было лета".

• Адразу два помнікі студэнтам з'явіліся сёлета ў Беларусі. Скульптура юнака з ноўтбукам у руках і з рукзаком за плячыма паўстала на тэрыторыі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі. А ў Полацку ля сцен былога кадэцкага корпуса, дзе цяпер размяшчаецца факультэт інфармацыйных тэхналогій Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, узведзены бронзавы школяр. Скульптуры стануць своеасаблівымі сімваламі навучальных устаноў.

• Фінскі Санта-Клаўс, альбо, як яго называюць, Ёлупукі, напярэдадні навагодніх свят пабывае ў Мінску. Штогод гэты казачны персанаж выбірае для свайго візіту розныя гарады Еўропы. Гэтым разам яго выбар прыпаў на беларускую сталіцу. Ёлупукі ўжо аднойчы наведваў Беларусь — ён прыязджаў да Дзеда Мароза і Снягуркі ў Белавежскую пушчу. Цяпер фінскага Санта-Клаўса цікавілі спартыўныя пабудовы Мінска і тое, ці шмат беларускіх дзяцей займаецца спортам.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Не толькі словам

**У памяшканні Славянскай бібліятэкі прайшоў справаздачна-выбарчы сход Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі. У спісе членаў Гомельскай абласной арганізацыі сёння 41 пісьменнік, прычым 30 з іх былі прыняты ў саюз у перыяд з 2007 па 2010 год (за гэты час саветам аддзялення было разгледжана каля 80 заяў прэтэндэнтаў на званне прафесійных літаратараў).**

Дакладчык — старшыня абласнога аддзялення СПБ Уладзімір Гаўрыловіч — падкрэсліў, што гомельскім пісьменнікам аказваюць вялікую дапамогу галоўнае ўпраўленне ідэалагічнай работы і ўпраўленне культуры Гомельскага аблвыканкама. Аналізуючы справаздачны перыяд са снежня 2005 года па лістапад 2010 года, Уладзімір Гаўрыловіч адзначыў, што перш за ўсё пісьменнікі заявілі пра сябе яркімі, цікавымі сустрэчамі з чытачамі.

За першы год існавання арганізацыі было праведзена 317 разнастайных мерапрыемстваў. Былі сярод іх і міжнародныя: "Дружба-2006", "Над Дняпром, Дзясной і Сожам", бранскае свята "На Зямлі Баяна" (з 2006 года гомельскія творцы бяруць у ім удзел штогод), Шаўчэнкаўскія дні на Украіне.

Распачаўся выпуск літаратурных старонак у мясцовых перыядычных выданнях. У 2007 годзе выйшаў першы справаздачны выпуск калектыўнага зборніка "Натхненне" і першы нумар газеты "Літаратурныя абсягі" — яна стала веснікам аддзялення. Творы гомельскіх пісьменнікаў друкаваліся ў часопісе "Форум", заснаваным Міжнароднай асацыяцыяй фонду міру ў Маскве, у альманаху "Славянские колокола", які аб'ядноўвае творцаў Беларусі, Украіны і Расіі, у альманаху "Міжрэчча".

У сувязі з юбілеямі Янкі Купалы і Якуба Коласа ў кожным рэгіёне вобласці сумесна з рэдакцыямі раённых газет былі праведзены літаратурныя конкурсы, у якіх прынялі ўдзел 1112 чалавек. 89 пераможцаў былі адзначаны дыпломамі, атрымалі каштоўныя падарункі. Падтрымана ідэя стварэння школы юнага літаратара — за гэтую справу ўзялася паэтэса Ніна Шклярава. Дарэчы, дзесяць выхаванцаў гэтай школы ўжо сталі пераможцамі рэспубліканскіх і нават міжнародных літаратурных конкурсаў.

Пісьменнікі прымаюць актыўны ўдзел у абласных літаратурных конкурсах імя Кірылы Тураўскага (ён праводзіцца штогод). Заснавана кніжная серыя "Бібліятэка Гомельскага абласнога аддзялення". Адметным было свята "Літаратурныя дажынкі", у межах якога адбыўся "вянок прэзентацый" кніг гомельскіх аўтараў — іх было трынаццаць.

Значнай падзеяй стала Міжнароднае свята "Славянскія літаратурныя дажынкі", у якім прынялі ўдзел пісьменнікі Беларусі, Украіны і Расіі. Падчас правядзення гэтага мерапрыемства праходзілі прэзентацыі выданняў пісьменнікаў Беларусі, Браншчыны, Чарнігаўшчыны, Куршчыны і Сумшчыны, былі выпушчаны два альманахі "Літаратурная Гомельшчына". Адбыўся таксама паэтычны конкурс маладых аўтараў, прысвечаны 70-годдзю паэта Анатоля Грачанікава. Праведзены літаратурны конкурс, прысвечаны 65-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў і арганізацыі рэгіянальнага конкурсу чытальнікаў "Зорка над Сожам".

У першым паўгоддзі 2010 года наладжана 470 сустрэч з чытачамі. Сярод самых адметных акцый — абласны дзіцячы конкурс чытальнікаў, прысвечаны 65-годдзю перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне і свяце беларускага пісьменства ў Хойніках.

За фактамі і лічбамі, прыведзенымі ў дакладзе старшыні абласнога аддзялення СПБ — самаадданая праца неабыякавых людзей. Таму падчас выбараў старшыні арганізацыі пісьменнікі зноў аднагалосна назвалі імя Уладзіміра Гаўрыловіча. Савет аддзялення таксама застаўся ў ранейшым складзе — пісьменнікі Яўген Калашнікаў, Тамара Ключэнка, Лілія Вялічка, Міхал Болсун і Юрый Фатнеў. Гэтыя творцы, а таксама Васіль Ткачоў, Ніна Шклярава і Валянціна Кадзетава абраны дэлегатамі на з'езд Саюза пісьменнікаў Беларусі ад Гомельскай вобласці.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Прынятыя ў СПБ

### Галіна Пятроўна ЗАГУРСКАЯ, паэтэса



Нарадзілася 5 студзеня 1945 года ў в. Лявонпаль Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. У 1967 годзе скончыла фізіка-матэматычны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута імя П. М. Машэрава. Працуе метадыстам у Віцебскім будаўнічым ліцэі. Творы друкаваліся ў абласной і рэспубліканскай прэсе, а таксама ў калектыўных зборніках і альманахах. Аўтар дзвюх кніг вершаў — "З далоняў сэрца" (2007), "Да зямлі прытуліцца" (2009).

### Андрэй Леанідавіч МУРАЎЁЎ, празаік



Нарадзіўся 27 верасня 1976 года ў г. Міёры Віцебскай вобласці. Скончыў Беларускую дзяржаўную палітэхнічную акадэмію па спецыяльнасці "Эканоміка і кіраванне ў будаўніцтве". Жыве ў Мінску, працуе менеджарам па рэкламе. У літаратуры заявіў пра сябе як аўтар, які піша фэнтэзі. Выдадзены раманы "Меч на ладонях" (2007), "Паладины" (2008), "Гроза тиранов" (2009).

## IV Усебеларускі народны сход



**У шэрагу дэлегатаў Усебеларускага народнага сходу, які адбудзецца 6-7 снежня 2010 года, — вядомая паэтэса, старшыня Віцебскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Беларусі Тамара Краснова-Гусачэнка, пісьменнік з Оршы Канстанцін Нілаў. Мы размаўляем з імі напярэдадні адказнага для ўсёй краіны форуму.**

### Дабіцца росквіту роднай краіны

— Ці трэба паэту браць удзел у вырашэнні дзяржаўных пытанняў?

— Марына Цвятаева сцвярджала: "Паэт не можа служыць уладзе, таму што ён сам — улада". Але я ўсё ж аддаю перавагу пазіцыі вялікага рускага паэта Мікалая Някрасава: "Паэтам можаш ты не быць, але грамадзянінам быць абавязаны!". Думаю, што сапраўдны паэт — заўжды грамадзянін, і таму не можа — сумленне яму не дазволіць — аддаліцца ад вырашэння важных для Айчыны праблем, якія, як правіла, знаходзяцца ў кампетэнцыі дзяржаўных органаў кіравання.

— Ці здольнае паэтычнае слова годна супрацьстаяць прагматызму сучаснага грамадства?

— Паэтычнае слова — а вышэй за паэзію толькі малітва — і ёсць тая зброя, якая здольная і якой належыць вырашаць пытанні духоўнага адраджэння грамадства і асобы. Менавіта паэзія заклікана выкрыць і паказаць, што ўзбагачэнне свету прагматыкаў зусім нічога не вартае ў параўнанні з сапраўдным багаццем духоўным. Паэзія вядзе асобу да асэнсавання таго, што галоўная каштоўнасць — гэта Чалавек.

— Каб вам далі адну мінуту для звароту да свайго народа, да чаго б вы заклікалі суайчыннікаў?

— Працаваць. Працаваць на дабро сваёй дзяржавы нястомна, аддаючы ўсе свае сілы, усе здольнасці, усё сваё сэрца, праяўляючы максімум вытрымкі ў складаных абставінах, цярпення, мудрасці, вынаходлівасці пры вырашэнні нават такіх задач, якія падаюцца невырашальнымі. Іншага спосабу зрабіць шчаслівым сябе і сваіх блізкіх, дабіцца росквіту роднай краіны — няма і не можа быць.



### Адказнасць перад чытачом

— Ці можа адзін чалавек істотна паўплываць на грамадскую думку?

— У першую чаргу гэта залежыць ад чалавека: хто ён, які аўтарытэт мае ў грамадстве? Які яго практычны вопыт і што ён ужо зрабіў для суайчыннікаў? Калі гэта вядомы і паважаны чалавек, ён будзе ўспрыняты грамадствам і зможа ўплываць на грамадскую думку.

— Палітычны імідж, эканамічная стабільнасць, духоўнае адраджэнне, — што з гэтага сёння найбольш важнае для грамадзян Беларусі?

— Усё гэта важна. Хаця на першае месца я паставіў бы эканамічную стабільнасць. Сёння вельмі важна замацаваць перамены, якія адбыліся ў эканамічнай сферы. Калі ў краіне будзе эканамічная стабільнасць, тады сусветным грамадствам будзе ўспрыняты належным чынам яе палітычны імідж. І на духоўнае адраджэнне сёння ўплывае эканамічная стабільнасць. Увогуле лічу, што ўсе гэтыя тры складнікі маюць паміж сабой цесную дыялектычную сувязь.

— Ці здольны пісьменнік навучыць людзей любові да Айчыны?

— Гэта, напэўна, першае, што патрабуецца ад пісьменніка. Нават калі пісьменнік піша пра нешта складанае, мінулае і горкае, любоў да Айчыны павінна ахінаць яго твор. Ды ці знойдзеце вы хоць аднаго беларускага класіка, які б да свайго імя ці ад імя сваіх герояў не гаварыў пра вялікую любоў да сваёй краіны! Максім Багдановіч, Янка Купала, Якуб Колас, наш славуты зямляк Уладзімір Караткевіч… На іх творах вучыліся нашы бацькі, мы самі і сёння вучацца нашы дзеці. Пісьменнікам-калегам трэба памятаць, што пісьменнік — гэта ў першую чаргу грамадзянін, адказны перад часам і сваім чытачом.

Запісала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## Стасункі

# Разам!

### Да гадавіны ўтварэння Саюза пісьменнікаў Расіі і Беларусі

Пры канцы 2010 года падсумоўваюцца вынікі дзейнасці грамадскіх пісьменніцкіх арганізацый. Роўна год таму быў створаны Саюз пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы, сустаршынямі якога сталі Мікалай Чаргінец і Валерый Ганічаў.

"Галоўны шанц у сумеснай творчай працы прадаставіла нам сама гісторыя і грандыёзная падзея XXI стагоддзя — 65-годдзе Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне", — адзначыў у лісце да старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Валерый Ганічаў. — Менавіта ў гонар гэтай значнай падзеі Саюз пісьменнікаў Расіі сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі правялі выязны пленум у Курску "І дарогі тыя нельга нам забыць"".

Сёлета адзначалася 825 гадоў "Слову пра паход Ігараў". З гэтай нагоды была наладжана сумесная экспедыцыя рускіх і беларускіх пісьменнікаў па гарадах Бранск — Трубчэўск — Ноўгарад-Северскі — Гомель.

Прыкметным стаў агульны літаратурна-мастацкі конкурс для дзяцей і юнацтва "Грэнадзёры, уперад!", які з'яднаў моладзь расійскіх гарадоў і школьнікаў Мінска і Пінска.

Прыкметна актывізавалася цікавасць расійскіх літаратурных часопісаў да сучаснай беларускай літаратуры. Беларускія пісьменнікі сталі пастаяннымі аўтарамі ў часопісах "Наш современник", "Новая книга России", "Роман-журнал XXI век".

Знамянальныя даты адзначаліся і ў саміх грамадскіх аб'яднаннях. Саюзу пісьменнікаў Расіі споўнілася 50 гадоў, абноўленаму Саюзу пісьменнікаў Беларусі — 5 гадоў, а новастворанаму Саюзу пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы — год. Нагадаем: аб'яднаны творчы саюз асноўнаю сваёю мэтаю лічыць агульную дзейнасць па ўмацаванні гістарычнага братэрства і яднанні славянскіх народаў, умацаванні духоўных літаратурных сувязей, падтрымцы намаганняў па стварэнні агульнай Саюзнай дзяржавы.

Ул. інф.

## Літ-абсягі

У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адбылася прэзентацыя падарункавага выдання — знакамітай аповесці Уладзіміра Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха", выдадзенай на беларускай, рускай, украінскай і англійскай мовах. Кніга выпушчана ў свет грамадскім аб'яднаннем "Беларускі фонд культуры" пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

# На Беларусі… Караткевіч жыве!



Адкрыў вечарыну… сам Караткевіч! Кажуць, што паэты не ўмеюць чытаць свае творы, таму выкананне імі ўласных вершаў звычайна расчароўвае. У той вечар прысутныя пераканаліся ў адваротным. Голас Уладзіміра Сямёнавіча, у чыім запісу прагучаў класічны верш "Быў. Ёсць. Буду", стаў самым яркім уражаннем вечарыны і фактычна задаў ёй тон.

У выступленнях часта прысутнічала апеляцыя да гісторыі, зварот да мінулага. Досыць прынцыпова, што ўсе праводзілі мяжу паміж развіццём нашай краіны да з'яўлення Караткевіча і часам пасля гэтага. Міністр культуры Павел Латушка падкрэсліў, што для дзяржавы, якая сёння завецца Рэспубліка Беларусь, пісьменнік зрабіў галоўнае — даў беларусам свядомасць, разуменне таго, што мы — народ, які мае глыбокія карані і багатую гісторыю еўрапейскай краіны. Паводле меркавання Паўла Паўлавіча, творы пісьменніка заслугоўваюць быць перакладзенымі на шмат якія мовы свету.

Старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп прывёў прыклад, як Уладзімір Сямёнавіч уплываў нават на далёкіх ад беларускай ідэі людзей. Паводле яго слоў, Пётр Машэраў папрасіў, каб для членаў Бюро ЦК КПБ была праведзена экскурсія па гістарычных помніках у ваколіцах Мінска. Адзіным, хто падыходзіў на ролю экскурсавода, быў Караткевіч. Трэба было бачыць, — працягваў Уладзімір Аляксандравіч, — як масцітыя чыноўнікі слухалі творцу. Фактычна той спяваў гістарычную песню пра мінулае. Даследчык Адам Мальдзіс адзначыў, што ініцыятары выдання "Дзікага палявання караля Стаха", безумоўна, трапілі ў "дзясятку". На думку Адама Іосіфавіча, найлепшым творам Караткевіча з'яўляецца раман "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", найбольш значным — "Каласы пад сярпом тваім". Але каштоўнасць "Дзікага палявання" ў тым, што твор быў напісаны з рамантычным запалам. І, нягледзячы на сваю знешнюю займальнасць, нацэлены на выхаванне нацыянальнай годнасці.

Прысутных чакалі і выступленні дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Рамана Матульскага, пісьменнікаў Анатоля Бутэвіча і Навума Гальпяровіча, а таксама кампазіцыя кіраўніка Беларускага паэтычнага тэатра аднаго акцёра "Зніч" Галіны Дзягілевай, створаная на музыку Алега Залётнева.

Досыць сімвалічна, што імпрэза, якая сабрала ў сценах бібліятэкі прыхільнікаў творчасці пісьменніка, адбывалася ў атачэнні мастацкай выстаўкі "Краіна пад белымі крыламі". Яна складалася з твораў беларускіх мастакоў, прысвечаных Уладзіміру Караткевічу, і стала яшчэ адным сведчаннем неўміручасці творцы, што назаўсёды застаўся ў мастацтве.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

На здымку: Уладзімір Гілеп, Міхась Будавей, Галіна Дзягілева, Алег Залётнеў, Анатоль Бутэвіч падчас прэзентацыі.

Фота Кастуся Дробава

## З-пад пяра

Пісьменнік з Узды Дзмітрый Вінаградаў стаў лаўрэатам Міжнароднага літаратурнага конкурсу "Золотое перо Руси", які праходзіць у Маскве. Конкурс лічыцца адным з самых прэстыжных і элітарных у пісьменніцкім асяроддзі. У гэтым годзе ён адзначыў свой 10-гадовы юбілей. Удзел у ім прынялі больш як тысяча літаратараў з 32 краін свету. У кожнай намінацыі на адно лаўрэацкае месца прэтэндавалі ад 25 да 55 саіскальнікаў. У склад журы ўваходзілі кіраўнікі ўсіх пісьменніцкіх саюзаў Расіі, выкладчыкі Літаратурнага інстытута, вядомыя пісьменнікі. У намінацыі "Літаратурны пераклад" дыпламантамі сталі таксама ўдзельніцы з Гомеля Юлія Мельнік і Вольга Раўчанка.

Леанід ДЗМІТРЫЕЎ

На базе філасофскага факультэта Карлавага ўніверсітэта ў Празе адбылася VI Канферэнцыя маладых славістаў. У ёй узялі ўдзел студэнты, аспіранты і навукоўцы ва ўзросце да 35 год з розных краін. На працягу двух дзён шырокай аўдыторыі былі прадстаўлены больш як 40 дакладаў з Аўстрыі, Германіі, Польшчы, Расіі, Славакіі, Славеніі, Сербіі, Украіны, Харватыі, Чэхіі. Беларусь у гэтым годзе прадставілі Алена Губкіна (БДУ) і Марына Аммон (ГДУ імя Ф. Скарыны).

Амелія МАРЫНІНА

Адбылася сустрэча супрацоўнікаў часопіса "Полымя" са студэнтамі факультэтаў беларускай і рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка. Галоўны рэдактар выдання — паэт Мікола Мятліцкі — распавёў пра гісторыю часопіса, які стаіць на варце мастацкага слова ўжо 88 гадоў. З выступленняў супрацоўнікаў рэдакцыі Уладзіміра Мазго, Рагнеда Малахоўскага, Вадзіма Спрынчана студэнты даведаліся пра планы выдання, крытэрыі адбору твораў для друку і, між іншым, пра тое, што часопіс заўжды рады даць магчымасць таленавітай моладзі пабачыць свае творы на старонках "Полымя".

Тацццяна ВЫСКВАРКА

Пісьменнікі Анатоль Крэйдзіч і Надзея Белавус сустрэліся з вучнямі Іванаўскай гімназіі. Госці распавядалі пра сваю творчасць, захапленне літаратурай, чыталі ўласныя творы. А пасля свой падарунак зрабілі пісьменнікам дзеці. Юныя аўтары гімназіі Алёна Малеж і Насця Дарагакупец чыталі свае творы. Гімназісты выказалі падзяку гасцям, якія дапамаглі ім яшчэ больш палюбіць Іванаўшчыну, зямлю, дзе жывуць людзі з прыгожай душой і непаўторным талентам.

Кацярына МАСЮК

Украінская грамада Брэста сумесна з навукова-педагагічным таварыствам "Берагіня" адзначыла Дзень украінскага пісьменства. Ініцыятыву свята падтрымала Генеральнае консульства Украіны ў Брэсце. Перад пачаткам імпрэзы можна было пазнаёміцца з выстаўкай кніг, якую арганізавала абласная бібліятэка імя М. Горкага. Побач працавала экспазіцыя майстрыхі-вышывальшчыцы Тацяны Гладкоўскай. Больш як дзве гадзіны сваё майстэрства перад слухачамі дэманстравалі ансамблі "Калінавы гурт" з Валыні, "Камертон" з Кобрына, "Галасы Палесся" і "Бярэсце" з Брэста.

Уладзімір БАРЫСЮК

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ глыбока смуткуюць з прычыны смерці паэта і публіцыста ТОКАРАВА Міхаіла Дзмітрыевіча і выказваюць шчырыя спачуванні яго блізкім і родным.

## Арт-лінія

Апошнімі днямі лістапада Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі парадаваў гледачоў першай балетнай прэм'ерай сезона — аднаактовым спектаклем "Трыстан і Ізольда" на музыку Рыхарда Вагнера. Аўтар лібрэта і музычнай рэдакцыі, харэограф і пастаноўшчык — народны артыст нашай краіны Юрый Траян, дырыжор-пастаноўшчык — заслужаны дзеяч мастацтваў Мікалай Каляда, мастак-пастаноўшчык — Аляксандр Касцючэнка. З гэтай адметнай нагоды ў тэатры адбылася прэс-канферэнцыя.

# Першая прэм'ера сезона



Дарэчы, да "Трыстана і Ізольды" беларускі балет звяртаўся неадночы: першая пастаноўка, харэаграфічныя мініяцюры "Шалёны Трыстан", была ажыццёўлена пасля вызвалення Мінска ў 1944 годзе, "Трыстан" — у 1958-м. Апошняя — балет "Трыстан і Ізольда" — датавана 1971 годам. Роля Трыстана была першай сольнай партыяй, якую дарычылі сямнаццацігадоваму танцоўшчыку Юрыю Траяну, які толькі прыйшоў у тэатр. Гэта была першая сумесная работа з Людмілай Бржазоўскай. Іх першы сумесны спектакль — і першы сапраўдны поспех. Балет карыстаўся попытам у гледачоў, ішоў некалькі год, а потым знік з рэпертуару.

Успаміны пра спектакль засталіся глыбока ў душы Юрыя Траяна, і з'явілася выдатная магчымасць рэалізаваць даўнюю мару ў харэаграфіі да музыкі Вагнера і ўвасобіць у харэаграфіі сваё бачанне музыкі і сюжэта. Рэпетыцыі пачаліся яшчэ ў верасні, але артысты былі вымушаныя зрабіць перапынак з-за гастроляў па Мексіцы. Зноў да работы над балетам прыступілі толькі ў пачатку лістапада.

Аднаактовы спектакль уключае Пралог і тры карціны, музыка — аркестравыя уступы да трох дзей аднайменнай оперы. Сюжэт сярэдневяковай кельцкай легенды пра Трыстана і Ізольду — адначасова рамантычны і трагічны аповед — не выкладаецца падрабязна, узяты пэўны зрэз гісторыі: ужо адбылося забойства Трыстанам Марольта, выратаванне Трыстана ад смяротнай раны, сватанне Трыстана ад імя караля Марка і любоўнае зелле. Расповед знаходзіцца ў той стадыі, калі пра каханне Трыстана і Ізольды ўжо ўсім вядома і дзею вызначаюць адносіны асноўных персанажаў — каралевы, караля Марка, Трыстана і світы, якая маніпулюе сітуацыяй.

У балеце задзейнічаны чатыры склады салістаў. У адным з іх ролі закаханых выконваюць Дзяніс Клімук і Вольга Гайко — муж і жонка ў рэальным жыцці. Адна з адметнасцей спектакля ў тым, што ў ім танчыць толькі адна дзяўчына — Ізольда, а ўсе астатнія — мужчыны, якім прыходзіцца не вельмі, у літаральным сэнсе, лёгка з-за цяжкавагатых сярэдневечных касцюмаў з натуральнай скуры і з металічнымі ўстаўкамі.

Балет "Трыстан і Ізольда" доўжыцца каля паўгадзіны, таму яго прадстаўляюць разам з вернутай у мінулым сезоне "Шапэніянай" і балетам у адной дзеі "Пахіта".

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Юрый Траян.

Фота аўтара

## Повязі

# Бурштын з залатымі промнямі…

Таварыства "Беларусь — Літва" запрасіла аматараў паэзіі на вечар, прысвечаны памяці выдатнай літоўскай паэтэсы Саламеі Нерыс. Ён не быў прымеркаваны да нейкай юбілейнай даты і не адрозніваўся пампезнасцю. Проста ў дзень, калі паэтэса з'явілася на свет, у сталічным Доме дружбы сабраліся прыхільнікі тонкай і пранікнёнай вобразнасці верша "літоўскай Ахматавай", каб узгадаць лепшае, што было ёю напісана, і паразважаць пра нялёгкі лёс чалавека, творцы, жанчыны, чыё жыццё прыпала на пераломны для яе народа гістарычны перыяд.



Калісьці Саламея Нерыс у нашым уяўленні была паэтычным сімвалам Літвы, гэтаксама як гістарычным — Гедымін, а музычным — Чурлёніс. Пра паэтэсу шырока вядома было тое, што паходзіла яна з сялянскай сям'і; уласнымі намаганнямі і талентам заслужыла права на вышэйшую адукацыю; сказала сваё важкае слова ў збіранні, захаванні і адаптацыі для дзяцей літоўскага фальклору; паверыла ў камуністычныя ідэалы і стала ў шэрагі змагароў за светлую будучыню, у якой усе роўныя, нягледзячы на нацыянальнасць і паходжанне, усе — браты і сёстры. Паэтэса была сярод тых, хто хадайнічаў за прыём Літвы ў склад Савецкага Саюза.

Па-за школьнай і ўніверсітэцкай праграмамі па літаратуры заставаліся самота паэтэсы, горкія расчараванні, неразуменне суайчыннікаў-літоўцаў, з якіх некаторыя лічылі яе дзейнасць недапушчальнай і нават здрадніцкай. Падчас нямецка-фашысцкага нашэсця Саламея Нерыс ледзь не аднойчы заклікала літоўцаў да барацьбы. Калі стала зразумела, што яе заклік не будзе падтрыманы шырокімі масамі, паэтэсу, ратуючы яе жыццё, разам з сям'ёй апошнім цягніком вывезлі ў Маскву, а пасля яшчэ далей — у Пензу. Яна пакутавала, апынуўшыся ўдалечыні ад Літвы, марыла пра вяртанне і любоў на радзіме. Але памерла 7 ліпеня 1945 года ў маскоўскай бальніцы ад невылечнай хваробы.

Саламея Нерыс была ўдастоена найвышэйшых для савецкага пісьменніка ўзнагарод. Яна стала народнай паэтэсай Літоўскай ССР, лаўрэатам Сталінскай прэміі. Але — пасмяротна. І гэта выпадак унікальны, можа, адзіны ў гісторыі савецкай дзяржавы.

Дык як жа ставіцца сёння да жыцця і творчасці Саламеі? Пра гэта таксама спрабавалі разважаць тыя, хто сабраўся на вечарыну ў яе памяць. Час прайшоў, сціраючы з памяці людской усё несапраўднае і памылковае. Засталіся паэтычныя радкі пра каханне і натхнёную працу, паэма пра Сталіна. Але лірыка пачуццяў Саламеі Нерыс, яе вершы пра каханне, пра "сонца, якое забылталася ў вяршалінах елак", пра "празрыстую красу Балтыі", пра "бурштын з залатымі промнямі" прайшлі ўсе выпрабаванні і атрымалі права застаца сярод найлепшых паэтычных твораў, напісаных у ХХ стагоддзі. На вечарыне шчодра гучалі вершы Саламеі ў перакладзе на беларускую мову, а таксама — прысвечаныя ёй і напісаныя пад уплывам яе творчасці. Асабліва ўразіла прысутных выступленне Валерыі Куставай, маладой беларускай паэтэсы, якая, як і Саламея, прысвячае сваю паэзію Літве і каханню. Вёў вечарыну пісьменнік, сябра Рады таварыства "Беларусь — Літва" Кастусь Цвірка.

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

На здымку: вечарыну вёў Кастусь Цвірка.

Фота Віктара Кавалёва

# Мова беларусаў багатая на дабрыню

Досыць шырока цяпер распаўсюджанае адвольнае меркаванне пра інфармацыйную дзейнасць. І ў масавай свядомасці, і ў прафесійным журналісцкім асяродку фактычна пастаўлены знак роўнасці паміж журналістыкай і піярам. Асабліва гэта становіцца відавочным, калі глядзець тэлеперадачы. У якім жа кірунку цяпер адбываецца эвалюцыя журналістыкі? Пра гэта сёння разважае першы намеснік старшыні Беларускага саюза журналістаў Рыгор САКАЛОЎСКІ.



## Журналісцкія расследаванні і заказныя матэрыялы

— Гэтая хвароба росту не толькі ў нас, расійская журналістыка таксама ад гэтага пакутуе. Што самае страшнае — пра гэта выказваюцца і такія вядомыя расійскія журналісты, як Міхаіл Нянашаў, старшыня Саюза журналістаў Усевалад Багданаў — і расійскі чытач, і асабліва глядач расчароўваюцца ў прэсе і тэлебачанні. Таму што там валадарыць адзін пункт гледжання. Ён сцвярджае: жыць трэба толькі так, а не інакш. Вось, купка багатых людзей — паказваюць шыкоўныя прыёмы, як яны адпачываюць на курортах. Але ж ёсць і іншая частка ў краіне — бедная, ды тая, на якой трымаецца дзяржава. Іх, гэтых людзей, не паказваюць. А яны не жадаюць глядзець. У 1990-я, дарэчы, выходзілі шыкоўныя артыкулы ў газетах і журналісцкія расследаванні на тэлебачанні. А пасля пачалі пісаць заказныя матэрыялы. Вось гэтая заказная журналістыка прынізіла нашу прафесію.

Думаю, што сапраўдная эліта ў нас, у Беларусі, сёння ў рэгіёнах. У многіх гарадах дыхтоўнае тэлебачанне, сур'ёзнае радыёвяшчанне, цікавыя раённыя газеты. Возьмем тыя ж "Віцьбічы". Пад 50 тысяч тыраж — больш, чым у некаторых абласных газет, альбо "Жодзінскія навіны" — там працуюць журналісты, якія выдатна ведаюць сваю справу і маральныя запаведзі нашай прафесіі.

## Заваражыць словам

У свой час Рыгор Сакалоўскі атрымаў прэмію за цыкл матэрыялаў пра знаных людзей Беларусі. У шэрагу творчых партрэтаў — Мікалай Яроменка, Эдуард Ханок, Ігар Лучанок, вядучая тэлебачання Кацярына Несцяровіч. Барыс Стральцоў дзякаваў яму за гэты цыкл: "за тое, што ў лёсах вядомых людзей знайшоў незвычайнае".

На думку Рыгора Васільевіча, менавіта аналітычныя ды мастацка-публіцыстычныя жанры забяспечваюць аўтарытэт журналістыкі ды складаюць гонар прафесіі.

— Напраўду, раней мы вучылі статут, маральны кодэкс журналіста. І хваляваліся перад уступленнем у Саюз журналістаў.

Мяне таксама прымалі ў Саюз у Віцебску на радзе абласной арганізацыі. Мікалай Дарафеенка быў рэдактарам газеты "Віцебскі рабочы" і старшынёй праўлення абласной журналісцкай арганізацыі. Калі я ўваходзіў — сядзяць рэдактар, яго намеснікі, прадстаўнікі тэлебачання. Я паўночы чытаў статут, глядзеў газеты. А яны са мною гутарылі, як з сынам: што вы закончылі, хто быў выкладчыкам, дзе друкаваліся, ці ведаеце мову. А я сам з Украіны — добра, кажуць, але ў гэтай зямлі трэба ведаць і беларускую, мы ж славяне! Украінская, руская, — гэта цудоўна. Калі яшчэ вывучыш і беларускую…

— Вывучылі?

— У Віцебску, дзе я на той час працаваў (1970-я), хацеў пайсці на курсы, але іх там, на жаль, не было. Хадзіў пастаянна ў Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа, усе спектаклі пераглядзеў. "Несцерку" вельмі любіў. Гэтым спектаклем адкрываўся кожны сезон. Іграў народны артыст СССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР Фёдар Шмакаў. І для ўкраінскіх газет, калі там працаваў, перакладаў Сяргея Панізніка. Цяпер тут, ужо ў Беларусі да 100-годдзя Петруся Броўкі меркавалася выдаць зборнік яго паэзіі на трох мовах: беларускай, рускай і ўкраінскай. Я перакладаў на ўкраінскую. Кажуць, нядрэнна атрымалася. Але зборнік па нейкіх прычынах так і не выдалі. Між іншым, рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў мне даваў Іван Шамякін. Дагэтуль захоўваецца лісток, дзе ён сваёю рукой пісаў.

> Думаю, што сапраўдная эліта ў нас, у Беларусі, сёння ў рэгіёнах. У многіх гарадах дыхтоўнае тэлебачанне, сур'ёзнае радыёвяшчанне, цікавыя раённыя газеты. Возьмем тыя ж "Віцьбічы". Пад 50 тысяч тыраж — больш чым у некаторых абласных газет, альбо "Жодзінскія навіны" — там працуюць журналісты, якія выдатна ведаюць сваю справу і маральныя запаведзі нашай прафесіі.

Калі мне выдалі журналісцкае пасведчанне, памятаю, я пісаў, і рукі дрыжалі — як жа я падпішу: "член Саюза журналістаў". І над кожным словам думаў — такая адказнасць была. І калі мы пісалі, ніколі не прыдумвалі, не прыхарошвалі. Загадзя рыхтаваліся да сустрэчы з чалавекам — хто ён, адкуль. Зараз усё робіцца бегам і правільна, каб было ўсё хутка і актуальна, але шмат і недапрацовак, "праколаў". Нават няправільна называюць прозвішчы ці няправільна ставяць націск! А для чалавека гэта вельмі важна.

І ў пісьменніцтве, і ў журналістыцы важная праца над словам. А журналісцкае слова ў залежнасці ад сітуацыі прамаўляе, заклікае, заваражвае, уражвае. Яно можа быць і добрым, і злым… Цяпер, на жаль, звузілася жанравая палітра, многія газеты — на адзін твар.

## Пра еўрапейскую прастору, альбо Жыццёвая акадэмія

— Раней на уступных экзаменах часта пыталіся ў абітурыентаў: каго з журналістаў можаце назваць, пра што пішa? Ці называюць цяпер такія імёны? Былі ж часы, калі нават на назву артыкула не глядзелі, а чыталі подпіс: ведалі таго, хто піша, і вызначалі для сябе: чытаць альбо не! Куплялі газету, таму што там працаваў знаёмы аўтар. Чытачы выдатна ведалі і асяроддзе, і журналістаў: гэты напіша праўду, той схітруе…

— Некалькі гадоў я быў старшынёй выпускной экзаменацыйнай камісіі ў Інстытуце журналістыкі. Запомніўся выпадак. Сядзяць у камісіі паважаныя людзі, прафесары. Адказвае дзяўчына, якая абараняецца на магістра. Вось, гаворыць яна, называючы прозвішча англійскага пісьменніка, ён рабіў так і так. І расказвае аб прыёмах яго працы. А я пытаюся: хіба ў нас вядомых журналістаў няма? Назавіце мне прозвішча якога публіцыста. Маўчыць. Але няўжо не ведае Барыса Стральцова, Міхаіла Шыманскага (працаваў у газеце "Известия" колькі гадоў), Рыгора Булацкага?.. Еўрапейская прастора — добра, але і сваіх трэба ведаць. Тых, на кім трымалася беларуская журналістыка. Любоў да прафесіі журналіста пачынаецца з павагі да тых, хто гэтую журналістыку стварае.

У гэтым, відаць, ёсць і наша недапрацоўка, і Інстытута журналістыкі. Вось у нас на конкурсе "Залатое пяро" ёсць прэмія імя Рыгора Васільевіча Булацкага. Мы праводзім форум маладых журналістаў і, напэўна, зробім яшчэ адну досыць неабходную пастаянную намінацыю. Можа, нават не важна будзе, ці з'яўляецца ён сябрам Саюза журналістаў — можа, маладыя не паспелі яшчэ ўступіць, бо існуе пэўны цэнз, трэба пяць гадоў працаваць у журналістыцы. Але каб маладыя адчулі сябе ў супольнасці. І ганарыліся!

Вось Васілю Пяскову — адзінаму з журналістаў лаўрэату Ленінскай прэміі — 85 гадоў. А ён яшчэ друкуецца ў "Комсомольской правде", і якія ў яго нарысы! Я помню, як ускалыхнула маю душу адна яго публікацыя — "Бацькаў суд": пра бацьку, які забіў сына-дэзерціра, і як ён жыў пасля гэтага ў душэўных пакутах, вымольваючы прабачэння ў жонкі… У Сібіры справа была — і Пяскоў, як толькі даведаўся, паехаў туды, за тысячы кіламетраў. Вось так пісалі раней! А якія артыкулы ды фельетоны былі! Адышлі лепшыя часы. Напісаць заметку — гэта ж не рост. І вось тое, што ў нас ёсць грамадская акадэмія журналістыкі, — выдатна! Тры факультэты ў ёй — ідэалагічны, эканамічны, спартыўны. І едуць вядомыя нашы журналісты ў абласныя цэнтры, вопытныя людзі аналізуюць матэрыялы, і гэта асабліва маладым дае вялікі плён.

## Творчае біяполе і псіхалогія

— Раней неяк зусім па-іншаму адчувалася журналісцкае брацтва, — працягвае свой роздум Рыгор Сакалоўскі. — Мы перасталі радавацца поспехам адно аднаго. Як у тым транспарце: нехта некага зачапіў, і пайшло далей зло… Псіхолагі тлумачаць гэта існаваннем біяполяў. У машыне яны сціскаюцца, але ж імкнуцца вырастацца! І пачынаецца таўкатня. Так і мы, журналісты. Сядзім блізка, адзін пры адным, ходзім па рэдакцыях, у кагосьці атрымліваецца, у кагосьці — не. Вось і назапашваецца адмоўная энергія. А радавацца трэба было б: хтосьці параўнанне цікавае знайшоў, у кагосьці выбудаваўся вобраз.

— Агульнае журналісцкае поле ў Беларусі адчуваецца?

— Бясспрэчна. Вось, Прэзідэнт Беларусі, выступаючы на адной нарадзе, пакрытыкаваў газету. І губернатар мяне прасіць: разбярыцеся. Я разам з Зіновіем Прыгодзічам паехаў у калектыў: страшэнная сітуацыя! Але ж была добрая газета. Хто там што зрабіў? Мы сустрэліся з людзьмі, праналізавалі, напісалі, не хаваючы, усё: адзначыўшы і недахопы, зразумела. І выпраўлялася становішча. Іншы раз паехалі — усё змянілася, людзі ўсміхаюцца! Страшна, калі ўвесь калектыў выходзіць з раўнавагі. І важна, які рэдактар. Калі слабы — газеты не выйдзе. Крызіс — няхай на яго! — і бязгрошша прымушаюць і нас, журналістаў, дзейнічаць так, што біяполе не заўсёды застаецца светлым. На жаль.

На ХІІ з'ездзе Беларускага саюза журналістаў нездарма выказвалася думка: у кадравай палітыцы трэба таксама шукаць новыя падыходы. І не лішне было б, прызначаючы на пасаду рэдактара, раіцца з творчай арганізацыяй: мы праводзім творчыя конкурсы, сустракаемся ў калектывах — ведаем усіх! Не кожны творца

> На конкурсе "Залатое пяро" мы праводзім форум маладых журналістаў і, напэўна, зробім яшчэ адну досыць неабходную пастаянную намінацыю. Можа, нават не важна будзе, ці з'яўляецца ён сябрам Саюза журналістаў — можа, маладыя не паспелі яшчэ ўступіць, бо існуе пэўны цэнз, трэба пяць гадоў працаваць у журналістыцы. Але каб маладыя адчулі сябе ў супольнасці. І ганарыліся!

стане рэдактарам. А, бывае, упраўленец пісаць не ўмее. А ёсць тыя, ў каго атрымліваецца і тое, і тое. Вось, пайшлі зараз у раённыя газеты настаўнікі. Нічога не маю супраць іх. Але ж журналістыка — іншая справа і веданнем мовы не абмяжоўваецца.

Аднак распрацоўка тэмы, погляд журналісцкі павінен быць. Тады і матэрыял загучыць па-дзяржаўнаму. А павінна валадарыць атмасфера інтэлектуальнай несупакоенасці, нязрымслівасці, сумленнасці і душэўнай чысціні.

Неяк гады тры таму мы былі ў Піцеры. Сярод іншага запісвалі і тэлеперадачу з водгукамі, як людзі ўспрымаюць нашу краіну. Адзін "рэспандэнт", даведаўшыся, што мы з Беларусі, пазначае коратка: "Беларусь — гэта партызаны, гэта горды народ, гэта Быкаў!" І пайшоў далей. Разумееце? Гэтым ён усё сказаў! Вось вам вобраз Беларусі ў піцерца. А калі гэта выразаць, не даўшы чалавеку назваць Васіля Быкава? Можа, нам на шкоду было тое, што нейкі час мы ішлі ў адным фарватары, дэманструючы аднабаковую кампліментарнасць. А павінны паказваць розныя погляды. Кожны народ мае свае традыцыі, свае карані. Мы ж, як тая шчодрая яблынька — усе галінкі з яблыкамі. Адно маленькае, другое — вялікае. А на адным дрэве, у адной дзяржаве.

Ды неяк мы перасталі гаварыць і пра іншае. Прапісная ісціна: для інтэрв'ю неабходна выбіраць цікавых людзей. Хтосьці можа падумаць: навошта мне шараговы чалавек? І адмаўляюцца ад цікавейшых сустрэч. Але ў гэтым чалавеку могуць увасабляцца тыповыя рысы, цікавыя факты. Калі ж рэдактар абавязвае цябе ўзяць інтэрв'ю ў некага, а ён табе не па душы, нічога не атрымаецца.

## …І жытнія каласы ў куце

Офіс сакратарыята Беларускага саюза журналістаў размяшчаецца на вуліцы Румянцава — амаль насупраць Дома літаратара. У невялікім па памерах асабнячку — два кабінеты: першага намесніка старшыні і сакратара. Шмат ідэй нараджаецца менавіта тут. У куце каля працоўнага стала — жытнія каласы.

— Нейкія асаблівыя, Рыгор Васільевіч?

— У мяне на Віцебшчыне цешча жыве, 88 гадоў. Еду да яе, а там поле вялікае, заўсёды збіраю і стаўлю. А ў іншым кабінеце беларускія каласы стаяць у вазе, выраблены з палтаўскай гліны. Прывёз вазу адтуль. А Палтаўшчына — своеасаблівая літаратурная Мекка Украіны. Вось, ва ўкраінскага класіка Андрэя Галўко твор ёсць — "Піліпко": "А ў яго вочы, як валошкі ў жыце. А з дзіравага картуза — чуб жытнімі каласамі. Цэ Піліпко". Вось вам і вобраз. Але… уражаны тым, як цяпер ва Украіне жывуць. Калі ёсць магчымасць, прыязджаю ў сваё сяло — Багданаўку (прыгожа гучыць, ці не так?). Сяло некалі даўно было падзелена напалам. Частка — калгасная. А там, дзе я нарадзіўся, — быў саўгас. У 1950-х у нас у сяле электрастанцыя была, святло, радыё. Усе працоўныя лічыліся рабочымі. Пякарня свая была, завод цагляны. Хлеб быў, зерне, мука і яшчэ плацілі добрыя грошы. Прыязджалі да нас нават сезонныя рабочыя. Ведаеце, адкуль? З Расіі і з Беларусі, з Брэсцкай вобласці. Пераджаніліся многія. Едзеш па вёсцы — украінская, руская, беларуская мовы. Дом культуры вялізны быў. Я нават некаторы час быў дырэктарам. Пасля пайшоў працаваць у рэдакцыю. У самім доме — ляпніна, дом з калонамі, бібліятэка цудоўная, паўсюль віселі аксамітныя фіранкі. Наш саўгас, памятаю, першае месца ўзяў па Украіне за збор зерня. Цяпер гляну — дрэвы з вокнаў растуць. Прайшоўся па вуліцы — нікога не сустрэў. Дамы развалены, зараслі бур'янам. Адчуванне жахлівае. У саўгасе ніводнага трактара няма. І наймаюць прыватнікаў, каб поле ўзараць.

Я туды сваё кнігі вязу, калі еду. Кажу, можа, не трэба вам гэта. Не, адказваюць, помнім, і кнігі вашыя любім. Вельмі паважаюць яны беларусаў. Між іншым, калі ў Львове навучаўся, мяне называлі "східняк" ("усходнік"). Тады яшчэ так гаварылі.

— Нам бы вывучыць іх досвед дэманстрацыі фільмаў з украінскімі субцітрамі ды вядзення перадач на роднай мове.

— Але цяпер гавораць, што Украіна адмаўляецца ад дзяржаўных СМІ. Нам жа трэба дзяржаўную падтрымку захаваць. Інакш ніяк нельга.

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Кастуся Дробава

# У падтрымку нацыянальнай культуры

Дынамічнаму развіццю культуры ў нашай краіне ўсяляк садзейнічае Беларускі прафсаюз работнікаў культуры. Самы буйны ў галіне — Мінскі гарадскі камітэт. Ён аб'ядноўвае 337 арганізацый культуры, інфармацыі, спорту і турызму агульнай колькасцю звыш 20 тысяч чалавек.



Пра надзённыя клопаты Мінскага гаркама Беларускага прафсаюза работнікаў культуры расказвае яго старшыня Віктар Маліноўскі.

Віктар Тадэвушавіч працуе на гэтай пасадзе толькі паўгода. Скончыўшы Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці "Рэжысура масавых свят", працаваў загадчыкам сельскага клуба на малой радзіме ў Нараўлянскім раёне, дырэктарам кінатэатра ў Нароўлі, загадчыкам раённага аддзела культуры, намеснікам старшыні Нараўлянскага райвыканкама, потым у Міністэрстве культуры, у Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь…

— Віктар Тадэвушавіч, што з'яўляецца галоўным клопатам галіновага прафзаюза?

— Мінскі гаркам прафсаюза работнікаў культуры вызначыў мерапрыемствы па рэалізацыі рашэнняў VI з'езда Беларускага прафсаюза работнікаў культуры на 2010 — 2015 гады, лейтматывам якіх з'яўляецца працяг працы па ўмацаванні адзінства арганізацыйнага складу прафсаюза, матывацыя прафсаюзнага членства, стварэнне новых прафсаюзных арганізацый.

З гэтай мэтай гаркамам праведзена больш як 40 сустрэч з прафактывамі раённых арганізацый прафсаюзаў, арганізаваны два выязныя навучальныя семінары на базе Салігорскага і Стаўбцоўскага раёнаў. Вядзецца актыўная праца з нашымі асноўнымі сацыяльнымі партнёрамі, падпісаны новыя пагадненні паміж упраўленнямі фізічнай культуры, спорту і турызму Мінскага гарвыканкама і аблвыканкама на 2010 — 2012 гады.

Усе найважнейшыя справы ў калектывах вырашаюцца сумесна з прафсаюзам. Добры старшыня прафсаюзнага камітэта — палова справы для кіраўніка.

Кожны дзень я сустракаюся з работнікамі культуры. Яны звяртаюцца да мяне са сваімі прапановамі, пытаннямі, просьбамі, праблемамі. Задача прафсаюза — дапамагчы ім: паспрыяць стварэнню добрых умоў для працы, абараняць іх сацыяльныя, працоўныя, юрыдычныя правы, вылучаць лепшых на грашовыя прэміі. Прафсаюз заўсёды стаіць на баку работнікаў культуры. Арганізацыя створана ў дапамогу, а не для кантролю. Старшыні гаркамаў, райкамаў, пярвічных прафарганізацый — аўтарытэтныя і паважаныя работнікі, большасць якіх на грамадскіх асновах выконвае свой абавязак па абароне правоў членаў прафсаюза. Спецыялісты гаркама заўсёды гатовыя аказаць дапамогу і старшыні, і калектыву. Асабліва апошнім часам стала запатрабаванай юрыдычная дапамога. У нашым гаркаме працуе юрысконсульт, які дае членам прафсаюза бясплатныя прафесійныя кансультацыі. Мы маем і кваліфікаванага інспектара па працы.

— Ці разглядаюцца пытанні па павелічэнні зарплаты членам прафсаюза?

— Заўсёды ўважліва аналізуецца ўзровень заработнай платы ў працоўных калектывах, менавіта не сярэдняй па галінах, а канкрэтна — якая катэгорыя атрымлівае нізкую заработную плату. Унесены прапановы ў абласныя аб'яднанні для далейшага інфармавання вышэйшых органаў улады і сацыяльных партнёраў. Гэтую справу мы заўсёды трымаем на кантролі і прымаем меры па яе выпраўленні. На з'ездзе федэрацыі прафсаюзаў Беларусі нас падтрымаў Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка. Ён выступаў і адказваў на пытанні больш як чатыры гадзіны. Галоўнай тэмай гутаркі была якраз абарона правоў працоўных на атрыманне належнай зарплаты.

— Прафсаюз сочыць і за ўмовамі працы?

— Безумоўна. Прававодзячай інспекцыяй па працы пастаянна ажыццяўляецца маніторынг кантрактнай формы найму. Ён дазволіў выявіць самыя распаўсюджаныя парушэнні заканадаўства пры заключэнні кантрактаў.

У першую чаргу гэта адсутнасць мер па стымуляванні працы ў выглядзе павышэння тарыфнай стаўкі ў працэнтным суадносенні да акладу да 50 працэнтаў і прадастаўленне дадатковага адпачынку да 5 каляндарных дзён, заключэнне кантракта на мінімальныя тэрміны. Аднак бывае, што заключэнне кантрактаў ажыццяўляецца без удзелу прафсаюза.

Удзел прафсаюза ў заключэнні кантрактаў дазваляе своечасова адстойваць правы работнікаў — членаў прафсаюза, а не змагацца з фактамі ўжо здзейсненых парушэнняў.

Адсутнасць дадатковых мер стымулявання працы пры заключэнні кантрактаў з'яўляецца самым распаўсюджаным парушэннем працоўнага заканадаўства ў нашых арганізацыях. З гэтым парушэннем прафсаюзы змагаюцца з дня ўвядзення кантрактнай формы найму. Прыняты ўказ Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 31 сакавіка 2010 года № 164 дазваляе пераводзіць добрага супрацоўніка пасля заканчэння кантракта на працоўны дагавор, які заключаецца на нявызначаны тэрмін.

— Віктар Тадэвушавіч, раскажыце, калі ласка, пра міжнародныя сувязі прафсаюза.

— Міжнароднае супрацоўніцтва прафсаюзаў з кожным годам развіваецца. Асабліва добра наладжаны стасункі з Севастопалем. Мы абменьваемся ведамі ў кірунках развіцця культуры і мастацтва. Цікава, што севастопальцаў вельмі ўразіў наш конкурс прафесійнага майстэрства "Мінскі майстар". У іх таксама праводзяцца такія праекты, але не так шырока. У Беларусі на гэты конкурс з'язджаецца шмат людзей, кіраўніцтва, тэлебачанне. Пры тым, што выявы майстроў потым з'яўляюцца на банерах у горадзе. Вось, напрыклад, пераможцам конкурсу прафесійнага майстэрства "Бібліятэкар Мінска-2010" стала Наталля Нікіціна. Прафсаюз вылучыў яе на прэмію, падаравалі тэлевізар, пра яе пісалі і пішуць у газетах. Ёй жа прыемна, што прафесію бібліятэкара заўважылі і прызналі. Гэты конкурс — сапраўдны стымул для работнікаў культуры.

— Якія пытанні культуры, на ваш погляд, павінны быць у цэнтры ўвагі на Усебеларускім народным сходзе?

— Лічу, што фінансавая падтрымка культуры з боку дзяржавы павінна быць крыху большай, а вось працэнт падаткаабкладання — меншым.

Усебеларускі народны сход — гэта найвышэйшая форма дэмакратыі ў нашай рэспубліцы. Наколькі я ведаю, у ніводнай краіне не праводзіцца такі форум. Прадстаўнікі культуры, адукацыі, прамысловасці, эканомікі і яшчэ шмат якіх галін збіраюцца, каб вырашыць агульнадзяржаўныя праблемы і скласці план на бліжэйшыя пяць гадоў па развіцці краіны ўвогуле. На такім сходзе павінна прысутнічаць паболей звычайных людзей, а не чыноўнікаў, каб яны па-сапраўднаму выказалі свае прапановы, узнялі хвалюючыя пытанні менавіта з нізоў. Гэта і ёсць найвышэйшая форма дэмакратыі, так званая размова на чысціню.

Гутарыў Уладзімір ПАДАЛЯК

Фота аўтара

## Водгалас

# Зямля пад белымі крыламі святкуе…

Дзяржаўны музей гісторыі беларускай літаратуры да 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча арганізаваў святочнае адкрыццё новай выстаўкі "Свет шчодры. Свет мяне пакутырыць…". Удзел бралі галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Святлана Гаўрылава, дырэктар Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Аляксандр Лукашанец, пісьменнікі Васіль Зуёнак і Анатоль Бутэвіч, сябры і родныя Уладзіміра Караткевіча.

Дзякуючы Адаму Мальдзісу, Анатолю Вераб'ю, пляменніцы пісьменніка Алене Сінькевіч, яго сястры Наталлі Кучкоўскай ды многім іншым, на выстаўцы ўпершыню былі прадстаўлены ўнікальныя матэрыялы. Сярод іх — асабістыя рэчы пісьменніка, яго фатаздымкі і малюнкі, макеты кніг, афішы да фільмаў, мастацкія палотны… Увагі заслугоўваюць і кнігі з уласнай бібліятэкі Уладзіміра Караткевіча, асабліва старадрукі, якія таксама прадстаўлены ў экспазіцыі.

Своеасаблівы настрой на вечарыне стварылі мастацкія калектывы цэнтра пазашкольнай работы "Ветразь": фальклорны калектыў "Мілавіца", рыцарскі клуб "Княжы Гуф" і танцавальны ансамбль "Чарлі".

Святочнае адкрыццё новай экспазіцыі запомнілася і падарункамі музею. Так, Алена Сінькевіч прэзентавала поўны збор твораў Уладзіміра Караткевіча, Васіль Зуёнак — верш, прысвечаны філфакаўскаму пакаленню, да якога і адносяць пісьменніка, і некалькі аркушаў навуковай бібліяграфіі, падпісаныя рукой Уладзіміра Караткевіча.

Усе прысутныя, а гэта больш як 100 чалавек, змаглі першымі пабачыць новую экспазіцыю, пачуць цёплыя словы пра Уладзіміра Караткевіча ад родных і прыхільнікаў яго таленту, падзяліцца ўражаннямі і апынуцца ў сапраўднай атмасферы беларускасці.

Кацярына БАГАМАЗ



На здымку: сваякі Уладзіміра Караткевіча перадаюць у дар музею поўны збор твораў пісьменніка.

Фота Кастуся Дробава



# На другі край вечнасці

Нейк раптоўна, як спуджаная птушка вечаровай парою, сышла з жыцця Бэла Ахмадуліна — таемная струна сучаснай рускай паэзіі… Таемнасць заўжды была ў яе вачах. Таленту? Знямога бяццця? Ці чагосьці яшчэ, што жыве ў падсвядомасці? Яе сэрца спынілася вечарам 29 лістапада пасля працяглай хваробы на семдзесят чацвёртым годзе жыцця. У думках адкручваю назад сорак чатыры гады і трапляю ў пачатак маскоўскай зімы 1966 года. Агромністы натоўп штурмаваў дзверы ЦДЛ. Яго стрымлівала конная міліцыя, а людзі ашалела прагнулі паэзіі. Імёны на афішах: Ахмадуліна, Еўтушэнка, Вазнясенскі, Акуджава — былі выключна магічнымі. Тады, у сярэдзіне шасцідзясятых, Паэзія перажывала свой трыумф і дзясяткі, сотні тысяч людзей жадалі стаць сведкамі гэтага трыумфу.

Мне тым вечарам пашчасціла прарвацца ў залу, дзе ўсё замірала ад чакання, калі ж выйдуць на сцэну славутыя паэты. І вось яны выйшлі. Я разглядвала Бэлу Ахмадуліну і пакуль бачыла ў ёй толькі прыгожую маладую жанчыну. Сапраўднае чарадзейства пачалося, калі яна падышла да мікрафона і загучаў яе голас… Гэта быў голас-птушка, ён трапятаў, як трапечуць крылы, і ўся яна сама трапятала, як крыло… Ці не ў Цвятаевай ёсць радок: "…Не знала я тогда, что я поэт", адчуванне апошняга з'яўляецца з тым самым трапятаннем, якое вымае цябе з цябе. Сілу гэтай энергіі адчуць і салодка, і страшна, гэта, напэўна, і ёсць адчуванне палёту душы… Потым мне неаднойчы здаралася прысутнічаць на літаратурных вечарах з удзелам Бэлы Ахмадулінай, і кожны раз у яе голасе чулася гэтае таемнае трапятанне крылаў. Энергія, што зыходзіла з голасу, перадавалася, і гэта было як гіпноз. Відаць, такою і бывае вялікая паэзія.

Дзесьці з год таму Бэла Ахмадуліна прыязджала ў Беларусь, у Мінску ладзіўся яе літаратурны вечар. Мяркую, што многія нашы пісьменнікі прысутнічалі на тым вечары. А я не пайшла, хацелася захаваць у сабе яе такой, якой яна ўражвала, ашаламляла. Пашкадавала пра тое толькі цяпер, калі сконччылася зямное жыццё Бэлы Ахмадулінай. Драматург Алена Папова сказала: "А ты ведаеш, я была на тым вечары. Месерэр (муж Ахмадулінай) дапамагаў ёй падысці да мікрафона, але, калі пачала чытаць вершы, голас не змяніўся. Гэта была ўсё тая ж Бэла Ахмадуліна!"

Была… У адносінах да творцаў не існуе гэтага дзеяслова ў мінулым часе. Адно калі дваццаць дзявятага лістапада дыктар паведаміў у тэлевізійных навінах: "Сёння не стала Бэлы Ахмадулінай…", гэта прагучала як удар маятніка. Яшчэ адзін непапраўны сыход у рускай паэзіі: Булат Акуджава, Рыма Казакова, Андрэй Вазнясенскі, і вось у жалобнай рамцы Бэла Ахмадуліна… Быццам распадаецца планета, што ўпрыгожвала тую ўжо далёкую эпоху. Эпоху "шасцідзясятнікаў" — так часта называюць гэтае магутна-таленавітае пакаленне, якое абазначылася непасрэдна ў нашай беларускай паэзіі яшчэ і як філалагічнае. Тады, у тыя далёкія гады "шасцідзясятнікі" былі ў німбе шырокай, сусветнай славы. Дарэчы, яны ж пасля так званай хрушчоўскай адлігі сваім талентам і абудзілі цікавасць да паэзіі ва ўсім свеце. Гэта, безумоўна, феномен нашай цывілізацыі. І гэты феномен, як бы жыццё ні рухалася, назаўжды застанецца ў гісторыі сусветнай літаратуры, як засталіся імёны Гамера, Катула, Петраркі, Шэкспіра… І няхай ніхто не бянтэжыць тое, што з розных эпох вырываюцца адзінкі, гэта ўсё непрадказальна… Але, безумоўна, з рускай паэзіі дваццатага-дваццаць першага стагоддзяў будзе выхаплена і імя Бэлы Ахмадулінай, каб назаўжды застацца ў неўміручай плыні прыгожага пісьменства.

Такі ўжо высокі лёс у паэтаў, у чыім голасе жыве спеўная птушка…

Раіса БАРАВІКОВА,
лаўрэат Дзяржаўнай прэміі
імя Янкі Купалы Рэспублікі Беларусь

Радуніца, як вядома, — гэты дзень памінання тых, хто пайшоў у лепшы свет. "Радуніца" — і кніга паэзіі Генадзя Мяцеліцы. Іншай назвы і быць не магло: яна выйшла акурат да гадавіны смерці. Сёлета Г. Мяцеліцу споўнілася б 50 гадоў. Генадзь пакінуў пасля сябе зборнік "Цяпло маіх завей", што некалі пабачыў свет у серыі "Першая кніга паэта", якую выпускае выдавецтва "Мастацкая літаратура".




# Зорная гронка і парушынка вечнага

З той першай кнігі "Цяпло маіх завей" адбылося маё знаёмства з Генадзем. Ужо і не памятаю, у якім годзе… Г. Мяцеліца, маючы ў сваім мастакоўскім набытку першы зборнік, а таксама шэраг іншых твораў, акурат заканчваў Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага ў Маскве. Было гэта тады, калі завейныя вятры "перабудовы" шмат добрага змялі на сваім шляху. Не мінулі яны і літінстытут, дзе фінансаванне жадала лепшага — таму і не знаходзілася ахвочых без аплаты рэцэнзаваць дыпломныя работы выпускнікоў. Выйсце кіраўніцтва знайшло ў тым, каб параіць шукаць рэцэнзентаў сярод землякоў. Мяркую, не можа таго быць, каб хто-небудзь не згадзіўся.

Так Г. Мяцеліца і выйшаў на мяне. Як прызнаўся пры сустрэчы, на радыё нехта параіў. Я згадзіўся. Хацелася дапамагчы маладому паэту, які апынуўся ў такім становішчы. Дый, трэба глядзець праўдзе ў вочы, падобная прапанова мне ўсё ж "льстила". У савецкія часы пра такое рэцэнзаванне і марыць не даводзілася. Такая адказная справа даручалася тым, хто меў многія і многія званні.

Рэцэнзію я напісаў і, як потым даведаўся, Генадзь паспяхова скончыў інстытут. Пасля гэтага ягоны след для мяне па сутнасці згубіўся. Трэба ж было так надарыцца, што ў пачатку верасня мінулага года, калі я ішоў у "ЛіМ", на выхадзе сутыкнуўся з маладым мужчынам. Той павітаўся і па ніякавасці на маім твары зразумеўшы, што я не здагадваюся, хто перада мной, дадаў: "Памятаеце, рэцэнзію дыпломную пісалі? Гэта я, Генадзь Мяцеліца я". Так і разышліся мы, абмяняўшыся толькі некалькі словамі. А праз пяць дзён да мяне дайшла вестка: "Раптоўна памёр Генадзь Мяцеліца!".

Ягоная жыццёвая біяграфія гэткая ж кароткая, як і творчая. Нарадзіўся ў вёсцы Прасці на Нясвіжчыне. Скончыўшы сярэднюю школу, працаваў, служыў у арміі. Быў рэдактарам на Беларускім тэлебачанні, супрацоўнікам Літаратурнага музея імя Максіма Багдановіча. Як ужо адзначалася, скончыў Літаратурны інстытут імя Максіма Горкага. Толькі нездарма кажуць, што біяграфія паэта — у яго творах…

Вершы ў кнізе "Радуніца" прадстаўлены ў чатырох раздзелах. Спачатку ідуць творы з кнігі "Цяпло маіх завей", потым тыя, што не былі выдадзены. Знайшлося месца тэкстам тэлевізійнага паэтычнага монаспектакля "Вобразы" сямі песням, дзве з якіх пакладзены на музыку С. Зеляннекевічам. Творчыя набыткі, як бачыцца, не такія і вялікія, але, як вядома, каб адчуць узровень паэта, шмат чытаць не трэба: часам дастаткова дзясятка вершаў, якія могуць многае сказаць і пра яго самога, і пра ягоны ўнутраны свет, і, увогуле, пра тое, чым ён кіруецца ці кіраваўся ў сваім жыцці…

Вершы, якія сведчаць, што Г. Мяцеліца як паэт адбыўся, у кнізе "Радуніца", безумоўна ж, ёсць, хоць, магчыма, сёй-той з літаратурных "эстэтаў", якія прывыклі выстройваць абоймы толькі са "сваіх" аўтараў — як жывых, так і тых, хто пайшоў з жыцця, з апошніх робячы ў прамым сэнсе гэтага слова класікаў, шматзначна пасміхнецца: "Знайшоў чым захапляцца!"… Няма ў мяне жадання разрываць паэтычныя абоймы, хоць, пры жаданні, зрабіць гэта не так і цяжка. Проста атрымліваю асалоду, чытаючы тое лепшае, што ёсць у Г. Мяцеліцы. Паглыбляючыся ў сэнс прамоўленага ім, міжволі пачынаю глядзець на свет яго вачыма, успрымаць ягонага лірычнага героя як чалавека, з якім нібыта ў сапраўднасці знаёмы. Хоць бы ў вершы " Увечары сціхне гамонка...", што стаіць у кнізе першым:

Увечары сціхне гамонка,
І хораша стане душы.
Скрозь шыбіны зорная гронка
Мігціць у нябеснай цішы.

Пакінуты справы, турботы
На час нетаропкай начы.
Бабуля памоліцца ўпотай,
Над тварам рукой трасучы.

Мне ўсё гэта змалку знаёма.
І доўга яшчэ не засну...
У сценах бацькоўскага дома
Паданні і казкі жывуць.

Пра бабулю ён пісаў з асаблівай цеплынёй і замілаваннем. Можа таму, што самому цяпла і спагады не заўсёды ставала, бо гадаваўся бязбацькавічам. Падобная акалічнасць, зразумела, не магла не адбіцца на ягоным характары. Больш за тое, гэта прымушала сляпіць у сэрцы сваю мару аб тым, што тое, што чакае наперадзе, будзе толькі сваё і ўрэшце атрымаецца стварыць свой мікрасусвет. І адначасова — няўпэўненасць:

Я абыходжу ўсе храмы
і буду сабе свой, цагляны.
Кожная цаглінка ў ім —
здабытак майго пошуку.
Кожная шчыліна ў ім —
вынік маёй няўпэўненасці.
Я няўпэўнены,
што калісь пабудую яго,
але веру, што ў ім будзе жыць
мой Хрыстос.

Прызнанне Г. Мяцеліцы ў адным з ранніх вершаў: "... хлусіць я не ўмею, // Бо праўду люблю аж да самых драбніц" — не паэтычная поза, як можа падацца спачатку, не жаданне паказаць свайго лірычнага героя толькі станоўчым, а ўся сутнасць паэта.

Праўдалюбы ад сваёй праматы часта пакутуюць. З-за бескампраміснасці ім нярэдка наканавана адзінота: "Не зразумець псіхолагу паэта, // Бо ён, паэт, заўжды зусім адзін". Што гэта — проста канстатацыя факта ці ўсё ж адчай, што вырваўся з грудзей?

Многае з таго, што напісаў кожны паэт, пасля яго смерці ўспрымаецца інакш, чым пры ягоным жыцці (Г. Мяцеліца — не выключэнне). Чытач пачынае звяртаць большую ўвагу на падтэкст, паэтычнае слова бачыцца становіцца дзеяннем, а тое, што некалі прамаўлялася, набывае больш глыбінны сэнс, і часам са здзіўленнем заўважаеш, што аўтар у нечым як бы прадбачыў свой лёс.

У прыватнасці, так успрымаецца цяпер верш Г. Мяцеліцы "А я лячу ў бясконцасці жыцця...":

А я лячу ў бясконцасці жыцця,
Як парушынка вечнага Сусвету,
Яго надзея і яго дзіця,
Ў бязмежжы зор
сваю знайшоўшы мэту.

Адзін скачок — і бездань праглыне,
Імгненні... у зямлю ўпадуць, бы росы.
І далягляд заранкаю мільгне,
Аддасць салют майму былому лёсу.

Мо гэта будзе водбліск добрых мар,
Маіх турботных думак супярэчнасць?
Праз дзень і ноч,
праз лёгкасць і цяжар —
Пакуль жыву —
я прадаўжаю вечнасць.

Генадзь Мяцеліца жыве, бо жывуць ягоныя вершы. Я, зразумела, далёкі ад думкі, што яны будуць запатрабаваны ўсімі аматарамі паэзіі, але той, хто прачытае кнігу "Радуніца", не сумняваюся, атрымае задавальненне. Як атрымаў яго і я.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# Чуллівасць, дапоўненая чуйнасцю

Пра сваё пакаленне, пакаленне дзяцей вайны, даволі ёмiста і дакладна сказаў паэт Уладзімір Паўлаў у вершы, прысвечаным памяці сябра Івана Калесніка:

Мы чэсна сваю
насыпалі сяўню —
І ў полі гайдае
і б'ецца жаўна.
А нас, ацалелых
ад мін і агню,
Часцей і часцей
насцігае вайна.

Наш высеў падаўся
у колас якраз,
Яго вы за нас
і спяліце і жніце.
І доўга і шчасна
жывіце за нас,
А мы праляцелі,
як вецер у жыце.

Вось што не давала і не дае паэту права гаварыць лёгкаважна, наспех. Сумленне і боль пакалення заўсёды пераважалі над іншым. "Жывіце за нас…", магчыма, гэтыя словы больш апраўдана гучалі б з вуснаў франтавіка. Ды не, сцвярджае аўтар, вайна цэліла, страляла і трапляла ў некалькі пакаленняў адразу.

Лірычнаму герою Уладзіміра Паўлава баліць за ўсё на свеце, і асабліва за тое, што датычыць дабрыні, шчасця, вечнасці, памяці. Ён памятае мінулае і добра разумее ўсе недарэчнасці, трывогі і беды для сённяшняга, ён гатовы на самаахвярнасць, толькі б адвесці бяду ад людзей. Нездарма адну са сваіх сталых паэтычных кніг паэт назваў "Сляза на вейцы". Там і прызнаецца ў прычыне сваіх зямных трывог:

Прыняць нявінных
мільёны смерцяў
Душа б прымела,
Каб аніхто на цэлым свеце
Так не балела.

> Лірычнаму герою Уладзіміра Паўлава баліць за ўсё на свеце, і асабліва за тое, што датычыць дабрыні, шчасця, вечнасці, памяці. Ён памятае мінулае і добра разумее ўсе недарэчнасці, трывогі і беды для сённяшняга, ён гатовы на самаахвярнасць, толькі б адвесці бяду ад людзей. Нездарма адну са сваіх сталых паэтычных кніг паэт назваў "Сляза на вейцы".

Мне заўсёды здавалася чамусьці, што ў яго ніколі не было ні наіўнага дзяцінства, пачатковага, хваробы росту, праз якія даводзіцца прайсці кожнаму творцу, праз якія прайшоў і я сам. Можа таму, што сустрэліся, пазнаёміліся і пасябравалі мы, калі ён быў ужо даволі стала сфармаваным чалавекам і ў жыцці, і ў творчасці, пачуваўся даволі ўпэўнена і быў здольны ўзважваць на шалях самой душы аднолькава дакладна і вялікае, і малое. Самога паэта бачыў і добрым, і гнеўным. Такая і яго паэзія. Яна заўсёды — адлюстраванне душы.

Пяшчотай, шчырым чалавечым разуменнем і спагадай надзелены ў творах У. Паўлава вобраз жанчыны. Жаночая любоў — ці не адзіны выток чалавечай дабрыні і цяпла, якія саграваюць чалавецтва? Менавіта над гэтым задумваецца паэт. І самыя пяшчотныя радкі прысвячае роднай маці.

Вобраз маці ў памяці і ў свядомасці паэта заўсёды лучыцца з вобразам роднай хаты. Згадка пра хату Уладзіміра Паўлава ў Замошшы заўсёды высвечвае для мяне светлы твар яго маці Марыі Андрэеўны. Памятаю адно вечаровае застолле ў тых утульных сценах. Пасля вясёлых і сумных размоў Марыя Андрэеўна нечакана заспявала. Нешта калляднае, шчымлівае. Я працаваў тады на Беларускім радыё і ў дарогу заўсёды браў з сабой рэпарцёрскі магнітафон. Незаўважна ўключыў яго…

Крыху пазней прачытаў у паэта такія радкі:

Баюся званка
нечаканага з дому,
Начной тэлеграмы.
Зазналі ў жыцці
вы вялікую стому,
Старэнькія мамы.
Хай поіць ад веку
вада дажджавая
І рэкі, і нівы.
Які я шчаслівы,
што мама жывая,
Да страху шчаслівы.

Усхвалявалі яны тады душу. Але сёння ўсё прачыталася зусім інакш, яшчэ больш балюча, нібыта токам праняла. Бо і сам нядаўна прайшоў праз тую ж страту.

Вобраз маці, працаўніцы і гаротніцы, ва ўсёй сваёй пайнаце паўстае і ў прозе Паўлава, у яго аповесці "Яжэліха", апавяданні "Бацечка".

Проза У. Паўлава патрабуе асобнай гаворкі, хоць у ёй аўтар застаецца тым жа паэтам, з уласцівымі яму чуллівасцю і чуйнасцю, з вялікай павагай да спеўнасці і водарнасці нароннага слова. Прозу Паўлава ў свой час высока ацаніў Іван Мележ. А гэта гаворыць пра многае.

Падаваць жыццёвыя факты ў аб'ёме рэальнасці і праўды, хай яны будуць і залішне суровымі, — гэта хутчэй не прыём, а адно з галоўных правіл у творчасці Уладзіміра Паўлава. І выпрацавана яно не сёння, у пару самую сталую ў жыцці і творчасці — як-ніяк пражыта сем з паловай дзясяткаў. Сённяшняга паэта лёгка пазнаць і ў яго ранніх паэтычных зборніках "Узлётная паласа", "Далягляд", "Светацені". Так, ёсць у паэта ступені росту, іх даволі лёгка прасачыць ад кнігі да кнігі, але ўсё гэта ступені адной лесвіцы, якая вядзе паэта ў жніўную ды ўмалотную пару яго сталасці.

Гартаю двухтомнік У. Паўлава, адзін том якога складае проза, перачытваю яго кнігі "Гадавое кальцо", "Сляза на вейцы", "Што было на Беларусі", праглядваю кнігі для дзяцей і шчыра радуюся плёну і працавітасці паэта. А ў думках ёсць і такое: "Мог бы быць і больш плён, калі б не аддаваў свой дарагі час на падтрымку маладых калег, дапамогу сябрам, не займаў яго самымі рознымі клопатамі, без якіх не ўявіць жыцця".

Згадваючы перажытае, паэт нібы з сумам прызнаецца:

Ёсць і дзень той і час,
Ён і будзе, я знаю.
Ды на ўсё другі раз
Я ўжо часу не маю.

Сапраўды, аднымі і тымі ж слядамі па жыцці двойчы не пройдзеш. А зрабіць яшчэ шмат на сваім творчым палетку паэту пад сілу.

Казімір КАМЕЙША

# Абрысы жаноцкасці

## Нататкі пра сімвалізм, літаратурныя пакаленні і каментарыі

Багдановічазнаўства атрымала і атрымлівае сталую ўвагу беларускай філалагічнай думкі. Нямала яно мае і здабыткаў: вечна маладому Максіму з самага пачатку шчасціла на даследчыкаў, бо сярод іх — Антон Луцкевіч, Іван Замоцін, Аляксандр Вазнясенскі, Уладзіслаў Чаржынскі, Адам Бабарэка, Ніна Ватацы, Рыгор Бярозкін, Алег Лойка, Міхась Стральцоў, Уладзімір Конан, Ала Кабаковіч і многія іншыя. Яны перш за ўсё ядналіся ў павазе і сімпатыі да паэта, што і дапамагала сумнаваты і не заўсёды захапляльны аналіз творчасці перватварыць у сапраўднае прызнанне. Працягваюцца гэтыя натхнёныя штудыі і сёння — супольнымі намаганнямі вучоных і музейных работнікаў. Сёе-тое выходзіць і з кніг. Напрыклад, параўнальна нядаўна пабачыў свет зборнік "Максім Багдановіч і яго эпоха" (Мінск, РІВШ, 2009), дзе былі змешчаны матэрыялы Міжнароднай навуковай канферэнцыі, што адбылася ўвосень 2007 года. Але гаворка не толькі і не столькі пра зборнік (які сам па сабе таксама заслугоўвае асобнай рэцэнзіі), а пра адну з тэндэнцый, якая заўважаецца ў сучасным багдановічазнаўстве.

Я маю на ўвазе тэму "Багдановіч і сімвалізм (дэкаданс)". Пры жыцці паэта адразу залічылі да дэкадэнтаў, пра што ўсе ведаюць з успамінаў Ластоўскага. У тым жа плане выказаўся і Янка Купала ў ліставанні з Л. Клейнбартам. Пазней, у савецкія часы, "ярлык" сімваліста (так парадаксальна гэта тады называлася) з Багдановіча то здымалі, то зноў навешвалі. Выглядае гэта даволі забаўна, шчыра кажучы, але такі ўжо "быў час, была эпоха" — эстэтычныя катэгорыі падмянялі этычнымі, а блытаць "плюс" і "мінус" было небяспечна. Сёння, безумоўна, да дэкадансу ставяцца спакойна, балазе па меркаванні некаторых вучоных і крытыкаў яго праявы і паўнапраўнае існаванне-развіццё не спынілася на 1910 — 1920-х гадах, але доўжыцца дагэтуль.

Цяпер тэма разглядаецца безадносна да былых стэрэатыпаў: сімвалізм як асноўны кірунак у мастацтве слыннага "рубяжа вякоў" адпрэчыць немагчыма, і Багдановіч — непасрэдны жыхар гэтага самага рубяжа — не мог не ведаць пра яго, не суадносіцца з ім, не ўваходзіць у дыялог ці дыялектычны супраціў. Тут можа падасца грубым слова "супраціў", але, агульнавядома, якраз у супраціве сімвалізму пакаленне Багдановіча і вырастала, бо на пачатак ХХ стагоддзя сімвалісцкі запал і ягоны пазітыўны новы ўнёсак здрабнеў, выдыхнуўся. Тое пакаленне пасля назвалі акмеістамі (гл. у згаданым зборніку артыкул В. Максімовіча "М. Багдановіч і акмеізм"), ды гэта была хутчэй віна Гумілёва, ягоная прага да маніфестацыі. Бо, сапраўды, пакаленне Багдановіча (з рускіх лірыкаў) — гэта Гумілёў, Ахматава, Цвятаева, Мандэльштам, Пастарнак, Маякоўскі. Усе яны, абсалютна розныя паэты, растуць у аднолькавых умовах панавання сімвалізму, але кожны "пераадольвае" яго па-свойму, ва ўмовах уласнага светабачання. Ці, калі ўжо адасобіцца ад занадта прамалінейнай формулы Жырмунскага (з класічнага артыкула "Преодолевшие символизм"), кожны па-свойму з сімвалізмам кантактуе. Для Багдановіча агульнае кола, унутраны кантэкст — названае пакаленне, а тое, што ўжо для яго становіцца знешнім кантэкстам, адчуваецца як мінулае, як памяць культуры — гэта сімвалізм, народніцтва, рускі "залаты век", Фет, Верлен, Блок, Буало праз рускіх класіцыстаў — усё, што ўваходзіла ў свядомасць і выявілася ў тэкстах. Для кантэкстуальнага вывучэння творчасці Багдановіча варта перш за ўсё дакладна вызначыць кола тых кантактаў, у якія ўваходзіць спадчына маладога класіка (гэта неабходна перш за ўсё для стварэння сістэмнага рэальнага каментарыя да спадчыны паэта). Калі такога дакладнага, эмпірычна пацвярджальнага кола не існуе, то існуе рызыка гіперінтэрпрэтацыі.

Адной з такіх дабрадайных для інтэрпрэтацыі сфер з'яўляецца праблема "жаноцкасці" ў творчасці Багдановіча. У прыватнасці, спынім увагу на цыкле "Каханне і смерць", які не ўвайшоў у аўтэнтычны "Вянок" 1913 года, хоць аўтар таго і жадаў (у складзе "Вянка" ён апынуўся толькі ў замоцінскім двухтомніку). Думаецца, што не апошнюю ролю пры вырашэнні пытання "уключаць-не ўключаць" адыграла пазіцыя рэдакцыі "Нашай Нівы", для якой паэзія Багдановіча агулам была задужа "небеларускай", а выдаваць кнігу з вершамі пра "семя бурнае, мускае" зусім не ўваходзіла ў яе адраджэнцкія планы. З той жа прычыны застаўся (дзякуй Богу, што застаўся) у рукапісе Багдановічаў пераклад эратычнага верша Верлена "Ракаўкі" — спісаны той жа рэдакцыяй у сутарэнні рэдакцыйнага архіва. Пра "Каханне і смерць" таксама ўжо моўлена дастаткова, але вось з'явіліся і новыя артыкулы па гэтай тэме, якія ў пэўным сэнсе і ўносяць імкненне да іншых кантэкстаў, — працы Наталлі Пыско "Увасабленне ідэі вечнай жаноцкасці ў творчасці Максіма Багдановіча", "Паэзія Максіма Багдановіча ў асноўных канцэптах сімвалізму" і інш. Даследчыца рухаецца ў кірунку пошуку новай прасторы для суаднясення з творчасцю Багдановіча. Трэба адразу сказаць, што робіцца гэта на вельмі высокім прафесійным узроўні. Але, зноў жа, падаецца, тут мы маем справу з тым, што Міхаіл Бахцін называў "далёкімі кантэкстамі". Патлумачу. Праблема "вечнай жаноцкасці" вырашаецца Н. Пыско ў судакрананні з ідэямі У. Салаўёва, якія, гэта агульнавядома, моцна паўплывалі на эстэтыку малодшых сімвалістаў — перадусім А. Блока і Вяч. Іванава (з апошнім Салаўёў быў знаёмы асабіста; Блок жа толькі аднойчы бачыў філосафа). Вось жа, думаецца, што выхад на Блока і Вяч. Іванава — надзвычай прадуктыўны. Асабліва на апошняга, чыя паэтычная практыка доўгія гады была вядомая і даступная толькі рэдкім спецыялістам, а ў багдановічазнаўстве і пагатоў не закраналася (тэматычная пераклічка Багдановіча з Блокам асветлена ў працах Р. Бярозкіна, але ён адзін, зразумела, не мог вырашыць усе нюансы). Іншая справа, што, калі ўзяць за фундамент першаснасць у Багдановіча салаўёўскай ідэі "вечнай жаноцкасці", гэта б перакрэсліла ўсё тое плённае, што прадумана Р. Бярозкіным, М. Стральцовым, А. Лойкам па гэтай тэме. Бадай, "жаноцкасць" і "сафіялогія" Салаўёва не павінны ўспрымацца як першасны чыннік, але як другасны — які трансліраваўся праз паэзію сімвалістаў, асэнсоўваўся Багдановічам і пераствараўся ім у адпаведнасці з уласнымі перакананнямі, што і павінна будзе адлюстравацца ў дапоўненым варыянце каментарыя да збору твораў класіка (як культуралагічны яго складнік).

> Пакаленне Багдановіча (з рускіх лірыкаў) — гэта Гумілёў, Ахматава, Цвятаева, Мандэльштам, Пастарнак, Маякоўскі. Усе яны, абсалютна розныя паэты, растуць у аднолькавых умовах панавання сімвалізму, але кожны "пераадольвае" яго па-свойму, ва ўмовах уласнага светабачання. Ці, калі ўжо адасобіцца ад занадта прамалінейнай формулы Жырмунскага (з класічнага артыкула "Преодолевшие символизм"), кожны па-свойму з сімвалізмам кантактуе.

Калі ж перайсці да канкрэтыкі, то можна заўважыць наступнае. У лютаўскім нумары сімвалісцкага часопіса "Весы" за 1909 год была надрукаваная кніга (альбо цыкл) Вячаслава Іванава "Каханне і смерць", якая пасля склала чацвёртую частку ягонага зборніка "Cor ardens" (1911 — 1912). Улічваючы, што канкрэтна гэты нумар часопіса Багдановіч мог і не бачыць (хаця, паводле ўспамінаў сучаснікаў, Максім Адамавіч выдатна ведаў усю палітру тагачаснай паэзіі, чытаў сталічную літаратурную перыёдыку і нават выступаў з лекцыяй пра стан і кірункі рускай паэзіі), трэба сказаць, што другі том згаданага іванаўскага зборніка, дзе змешчаны патрэбны нам цыкл, выйшаў якраз у 1912 годзе. У жніўні-кастрычніку 1912-га Багдановічам і быў напісаны аднайменны цыкл (з класікаў сімвалізму можна яшчэ прыгадаць В. Брусава і ягоную "Баладу пра каханне і смерць", але гэты верш напісаны толькі ў 1913 годзе і, цалкам магчыма, інспіраваны Вяч. Іванавым). Спынімся на параўнанні гэтых творчых "спарышоў".

"Каханне і смерць" беларускага паэта ўяўляе сабой лінейнае ланцужковае развіццё аднаго сюжэта, аб'яднанае адной сістэмай вобразаў. Не названыя і не абвешчаныя, персанажы сапраўды, як піша Н. Пыско, успрымаюцца як абагуленыя, архетыповыя. Але гэтая архетыповасць грунтуецца выключна на вышэйзгаданай адсутнасці іменаў. У астатнім цыкл насычаны канкрэтнымі падзеямі, якія лёгка ўкладаюцца ў сюжэт. Трэба адзначыць гэтую падкрэсленую цыклавасць, якая, можа, і не заўсёды ідзе на карысць мастацкасці. Падобная схематычнасць у Багдановіча апраўданая — адзін з першых ён задаваў тон, распрацоўваў сам фармальны матэрыял паэзіі на беларускай мове, але ў гэтым выпадку трэба гаварыць пра гіперцыклавасць, бо ўсе астатнія вядомыя нізкі вершаў з "Вянка" не валодаюць падобнай эпічнай насычанасцю, лінейнасцю, паўтаральнасцю персанажаў. Узмацняе "раскадроўку" сам характар Багдановічавага верша — ён, як вядома, імкнецца да лаканічнасці, да ператварэння ў кароткую замалёўку ("Чэліні статуй не рабіў…"); з такіх выразных фрагментаў складаецца і "Каханне і смерць", дзе галоўным аб'ектам адлюстравання з'яўляецца, зразумела ж, жанчына, але выяўленая як "Ты" поглядам мужчыны (такім чынам, іх узаемаадносіны тут пакідаюцца на другі план). Як заўсёды ў Багдановіча, цыкл прадстаўляе ўсе магчымыя страфічныя варыянты лірычных замалёвак у выглядзе вершаваных памераў, тыпаў рыфмоўкі і г. д.

> Калі прыняць за гіпотэзу інспіраванне багдановічаўскага цыкла (ці, прынамсі, яго назвы) Вячаславам Іванавым, то беларускае "Каханне і смерць" выглядае дыялектычным супрацьпастаўленнем сімвалізму. Багдановіч, маніфестуючы сваё бачанне, як бы адштурхоўваецца ад містычнай трактоўкі пары "Эрас / Танатас", пераводзячы яе ў канкрэтны, рэчыўны, наяўны — чалавеч(н)ы, урэшце, аспект.

Цыкл "Каханне і смерць" Вяч. Іванава, у жыццёва-канкрэтным плане, — водгук паэта на смерць жонкі, літаратаркі Лідзіі Зіноўевай-Анібал. Прыкметай паэтыкі Іванава, поруч з наследаваннямі класікам антычнасці і схільнасцю да цвёрдых формаў верша, з'яўляецца ўскладненая паэтычная мова, што ператвараецца ў спляценне метафар, кантамінаваных спасылак да іншых твораў і вобразаў, складаных і шматкампанентавых эпітэтаў. У той жа час, яго "Каханне і смерць" (канцоны і санеты) таксама грунтуецца на рэальных падзеях, яшчэ свежай страце. Але выяўленне канкрэтыкі ў Іванава заўсёды пераплаўлена ў тыглі шматслойных абстрактна-метафарычных вобразаў, рэлігійна-філасофскіх тэрмінаў і сюжэтаў. Палярныя ў цыклах менавіта "кадзіроўкі", спосабы шыфроўкі вобраза. І ў іх параўнанні — сэнс адрознення Багдановіча ад сімвалістычнай паэтыкі. Калі прыняць за гіпотэзу інспіраванне багдановічаўскага цыкла (ці, прынамсі, яго назвы) Вячаславам Іванавым, то беларускае "Каханне і смерць" выглядае дыялектычным супрацьпастаўленнем сімвалізму. Багдановіч, маніфестуючы сваё бачанне, як бы адштурхоўваецца ад містычнай трактоўкі пары "Эрас / Танатас", пераводзячы яе ў канкрэтны, рэчыўны, наяўны — чалавеч(н)ы, урэшце, аспект. Разам з тым, не жадаючы міфалагізаваць, ён сапраўды праз адасабленне цэнтральнага персанажа гэтага фрагментаванага аповеда ў свядомасць лірычнага героя дасягнуў сапраўднага сінтэзу лірычнасці і эпічнасці.

Нельга сказаць, што ў сваёй містычнай трактоўцы пары "каханне/смерць" Іванаў быў тады адзіным і непаўторным. Такія матывы ёсць, як ужо казалася, і ў В. Брусава, а таксама М. Гумілёва, Л. Эліса, З. Гіпіус. Будучаму аўтару кантэкстуальнага аналізу багдановічаўскага цыкла абавязкова трэба будзе згадаць і казку блізкага сям'і Багдановічаў М. Горкага "Дзяўчына і смерць". Шырока выяўляюся гэты пракаветны матыў і ў тагачасным жывапісе (адзін з узораў — прыведзеная тут аднайменная карціна Густава Клімта). Але антымістычная скіраванасць Багдановіча — гэта складнік, ад якога не ўцячы. Не я першы гэта кажу, зразумела. Ледзь не адзінае выключэнне, мабыць, — верш "Цемень" (гл. "Загадку Багдановіча" М. Стральцова). Ён услаўлены сёння "хрыстацэнтрычным" літаратуразнаўствам, але зусім не характэрны для паэта і сваёй адзінкавасцю хутчэй абавязаны таямнічай асобе Кіціцынай. Хрысціянства ж Багдановіча, думаецца, выявілася не ў згадванні "вобраза Хрыста", "касцёла Ганны" ці "грудзей Пана Бога", але перш за ўсё ў яго адмаўленні сваёй паэтычнай значнасці: ці не адзіны з вялікіх, ён быў Моцартам, які сціпла лічыў сябе Сальеры…

Фундаментальнае даследаванне па суаднясенні Багдановіча з сімвалісцкай паэтыкай (ды і наогул рускай паэтычнай традыцыяй), бясспрэчна, наспела і, ёсць спадзевы, будзе выконвацца. Асобныя фрагментарныя знаходкі варта аб'ядноўваць дзеля таго, каб мы чыталі Багдановіча шчыра і з разуменнем таго, што ён хацеў сказаць насамрэч.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ


Клімт. "Каханне і смерць".



Янка ЛАЙКОЎ

* * *

у чырвоным чорным залатым
вобраз твой растаў нібыта дым
пульсаваў дрымотны далягляд
адчуваючы адчайны мой пагляд

быццам залатыя караблі
ля мяне аблокі праплылі
праплылі і зніклі ў чорных днях
у чырвоных і забойчых снах

штосьці мільгацела і тады
калі несліся наўскач гады
непрытомная туга жыла
пільнавала за вуглом імгла

ты нібыта сон нібыта боль
ты была цябе не будзе больш
у далёкім успаміне тым
у чырвоным чорным залатым

## Паляванне

выехалі на паляванне
тры вершнікі

бязлітасны час
міласэрны час
абыякавы час

гудзе паляўнічы рог
коні панура брыдуць праз вечнасць
напяты слых

кропка ў небе
тры стрэлы

бязлітасны час параніў
міласэрны час забіў
абыякавы час
пусціў сабе кулю ў сэрца

на пустэльнай зямлі
сцякае крывёй
мёртвая памяць

* * *

ты блукаў
у замкнёных снах
ты шукаў
улюбёны прах
але ў чорных вірах
напаткаў адно
непрытомны страх

* * *

Твой апошні сон трымціць на вейцы,
затрымацца хоча як мага.
У чаканні сціхнуў нават вецер,
змоўклі і трывога, і туга.

Вечна чуць хачу тваё дыханне,
захлынацца ў хвалях валасоў.
Не мінай, маё апошняе каханне!
Не мінай, майго юнацтва сон!



Віктар БУБНАЎ

## Касец

Не кожны ўсё-такі наклепле
Аднойчы збітую касу,
Кляпаць хто ўмее — й косіць лепей
І першым зведае расу,

І той не дасць сабе паблажку,
Хоць часу ранняга стае.
Ізноў шурпатая мянташка,
Так, як душа яго, пяе…

А жонцы ўжо сняданак несці…
Маўчаць шчэ пчолкі і чмялі,
Касцу ж, здаецца, што й паесці
Пакуль раса — няма калі.

Касой махае гэтак гонка…
І толькі ў думцы бы прысеў…
Ды нечакана прыйдзе жонка —
Зару з сабою прынясе.

## Баяніст

Хлапец, што з вёсачкі Траянава,
Калі баян у рукі браў,
То светлай музыкай баянавай
Усіх у клубе захапляў.

Кружыліся дзяўчаты ў танцы,
А я, слабы яшчэ танцор,
Глядзеў адно на тыя пальцы,
Што ўмелі танчыць перабор…

Трохрадка змоўкла галасістая,
Бо час настаў і адпачыць.
Ніхто не можа баяніста,
Хоць на хвілінку, замяніць.

А ён з сяброўкаю гаворыць
На клубным ветраным двары,
Дзе клавішы высокіх зораў
Таемна свецяцца ўгары.

* * *

Як пад калькай, не адбіўся
Дзень былы ў наступны дзень.
Я і сам не паўтарыўся,
Хоць на свеце шмат людзей.

Непраторанай сцяжынай
Па жыцці сваім іду.
Маю ў ім і каляіну,
І няўдачу, і бяду.

Ды жыву без пэўнай злобы
І вітаю новы дзень,
Не двайнік ступае побач,
А ўсяго мой шэры цень.

* * *

Дзесьці ў зыбкіх пясках
Мае ўвязлі б сляды…
І адчуў бы свой крах
Я, знямоглы, тады.

Абступаюць камлі
Зблізку постаць маю…
Я на цвёрдай зямлі,
Як заўсёды, стаю.

Ў шлях пайду спакваля,
І не будзе трывог,
Днём і ноччу зямля —
Нібы мой абярог.



Фота Кастуся Дробава



Ірына ХАМРЭНКА

Дэбют

Ірына Хамрэнка — студэнтка І курса філфака БДУ. Пераможца Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове. З вершамі ў "ЛіМе" выступае ўпершыню.

* * *

(Ноч і дождж, глухі лістапад.
Настойваў, каб не прыязджала.
А цягнік а чацвёртай гадзіне)

Ногі свае ледзь стрымала —
Так цягнулі ў бок вакзала
А чацвёртай гадзіне.
Тонкія рукі ламала
За тое, што апранали
А чацвёртай гадзіне.
Цела, мозгу пакорнае,
Кінула спаць пад коўдру
А чацвёртай гадзіне...

Толькі сэрца — не цела!
Не стрымалася, паляцела.
Сустрэнеш?..
А кожнай гадзіне.

## Першаснегавая імпрэсія

Абноўлены свет
вяртае надзею на шчасце.
Глядзі, як аддана снег ахінае зямлю!
Хай звонку халодна,
але расчынюю вокны насцеж:
Сягоння я ўсё навакол утрапёна люблю!

Хай нават каханне маё
не патрэбна нікому —
Не будзе пятлі, а пампу —
дык ужо ж не ў журбе.

І вечнай бляюткасці
гэтаму снегу святому!
І — любаму, роднаму —
вечнага шчасця табе!

## Ёдка

Дай вам Божа
ніколі не зведаць
як выгрызае знутры самота
ніколі не чуць
нямога енку
ніколі не бачыць
сухія слёзы
дрыжачыя рукі
ёлкасць адчаю
глухія ночы
пустэчу ўсярэдзіне
пакіньце
мне
жыццё
гэта
шчасце.

## Зімовая дарога

Мяце.
І нашто нам такія сумёты?
У Афрыцы столькі народу
можна гэтай вадою выратаваць.
А я тут паўзу
па калена ў снезе.
Я рыбка
па гараскопе —
люблю ваду.
Ды толькі не замерзлую!
За спінай — гітара.
У завеі я — згорблены прывід.
Атрутныя слёзы.
Не проста халодна — ёдка.
(зноў "ёдка", улюбёнае слоўца...)
Смерць зімою — дык ля батарэі.
І гэта яна лічыла,
што стала аптымісткай.
Ха!
Напаўтрупам
прыцягнуся ў вясну.
Ну, праўда, аптымістычна?
Аджыву.

## Надзея стомы

Сквер Купалы. Цішыні зімовай
не руйнуе гул нядальніх вуліц.
Мёртвае ракі не збудзяць качкі.
Мроі дрэваў сонца не прагоніць.
Не відаць нідзе на коўдры снежнай
лёгкіх нітак-сцежачак птушыных.
Сінтэтычна звонкае паветра.
Ні галінкі вецер не кранае.

Нерухома, глуха стыне сцюжа
ў цягавінні шэрых дзён заспаных.
Цяжка ўзімку заставацца дужым...
Прыйдзе сакавік.
Саб'е кайданы!

## Надзея не спраўдзіцца

Смеючыся, сказаць: "Шчаслівая!".
Паклаці слухаўку.
Зараўці.
Дастаць марозіва з лядоўні —
Надзею на радасць.
Сысці у Сартра.
Збегчы.
Ад самоты не збяжыш.
Знікнуць.
Але з сабой застанешся.
Забыцца.
Я не хачу кахаць.
Я хачу кахаць.
Няма каго кахаць.
Мне нельга кахаць.
Мяне нельга кахаць.
Лепш бы я
Знікла.
Меней болю было б
У свеце.

* * *

Я пачынаю губляцца ў прасторы.
Свядомасць сплывае
папяровым чоўнам вясновым.

Вясна...
Я там сустрэну цябе.
Сустрэну сябе, ранейшую —
песню птушыную.

Мы будзем лятаць
над рэкамі, па вяршалінах!..
Я вершамі, вершамі
цябе закатую:
Любым маім Караткевічам,
звонкім маім Барадуліным!
І зорную сінь Багдановіча
я буду спяваць уночы...

І ты нарэшце збяжыш,
бо мой рамантызм невыносны.

Мяне не турбуюць рыфмы:
Хочуць — прыходзяць, а не —
Яны шмат губляюць.
Да чорта рамкі,
няхай я не ўмею вершыць,
ды кожны крок — паэтычны!
Я бачу,
як ліст кляновы да сонца цягнецца,
і хочацца танчыць
ад шчасця,
бо адчуваю, як промні
кожны выгіб яго ны лашчаць!..
Вось паэзія найвышэйшая —
ў дасканаласці свету Божага.

І вясною зноў буду бясконца,
бясконца любіць
і адно Любоўю бачыць, спяваць і дыхаць.

А покі штодня пасля
восеньскай стомы
наплываюць хвалі
такой шэрай самоты,
што, глухая, трызнячы,
па вуліцы пнешся ў кедах
лютага дзесь чатырнаццатага.
Ці такой чорнай нянавісці,
што хочаш разнесці дашчэнту
на плошчы пачвару з глухімі шыбамі
і застацца нязнойдзенай
пад тымі руінамі.
І кажаш: не веру ў каханне.
Хоць ведаеш: проста знясілела.
І шал вершаў
ападае гэтак жа хутка,
як пена шампанскага, якім ты ў Новы год
першы раз напілася ў абсалютнай самоце.
Вось і зараз — апаў...

Але побач ужо Вясна, Ірынка.
І ты зноўку станеш некаму радасцю.

* * *

Прыхаваю вар'яцкія вочы —
Бо заўважаць жа мінчукі! —
І ціхенька за вершам крочу
Па зламаным крыле страхі.

Ледзь бачны намацваю водар
І — хапаю верш, і — рывок!..
І ўжо даху не чуюць ногі,
І — апошні вясны глыток.

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

3 снежня 2010 г. Выпуск 25

# Нечаканы Караткевіч

**Выстаўка "Рыцар зямлі беларускай", прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча, якую прапануе Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, прадстаўляе разнастайныя дакументы з рукапіснай спадчыны пісьменніка і знаёміць з асноўнымі этапамі яго жыцця і літаратурнай дзейнасці.**



На стэндзе чытальнай залы акадэмічнай бібліятэкі — кнігі Караткевіча, якія сталі гонарам нашай літаратуры. Выдадзеныя пры яго жыцці і пасля таго, як ён сышоў. За шклом рукапісныя старонкі, з якіх пачыналіся сусветна вядомыя аповесці, раманы, вершы... Сур'ёзныя, трагічныя, у якіх гучанне высокай ноты любові да роднай зямлі. І лёгкія, жартоўныя — напісаныя падчас адпачынку з сябрамі ў Піцундзе. Побач шматлікія фота з сямейнага архіва — маці і сястра, пісьменнік з жонкай, на фоне неабсяжнага Чорнага мора, у Ялце на магіле Багдановіча, з выпускнікамі Кіеўскага ўніверсітэта, на чытацкай канферэнцыі па рамане "Каласы пад сярпом тваім".

Акуратны дробны почырк, на палях рукапісаў — малюнкі. Сяброўскія шаржы на Караткевіча і яго ілюстрацыі да ўласных твораў. Дакументы часоў вучобы ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце, запісныя кніжкі пісьменніка, лісты да знаёмых. Фотаздымкі, на якіх застаўся працэс работы на кінастудыі "Беларусьфільм". Большасць экспанатаў дэманструецца ўпершыню.

Таццяна Жук, загадчык сектара рукапісаў аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў на ўрачыстым адкрыцці прадстаўляла экспазіцыю: "Выстаўка, прысвечаная юбілею нашага славутага пісьменніка, прапануе дакументы з рукапіснага архіва Уладзіміра Сямёнавіча, якія захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі. Частку з іх ён сам перадаў пры жыцці, астатняе — яго сястра Наталля Кучкоўская ў 2000 годзе. Вельмі цікавыя фотаздымкі, не менш каштоўныя рукапісы 1960-х гадоў — у асноўным вершы, чарнавыя накіды, аўтографы, малюнкі на палях. Уладзімір Караткевіч вельмі добра маляваў. Стэнд з яго малюнкам сведчыць — ён мог бы сам ілюстраваць свае творы.

> Акуратны дробны почырк, на палях рукапісаў — малюнкі. Сяброўскія шаржы на Караткевіча і яго ілюстрацыі да ўласных твораў. Дакументы часоў вучобы ў Кіеўскім дзяржаўным універсітэце, запісныя кніжкі пісьменніка, лісты да знаёмых. Фотаздымкі, на якіх застаўся працэс работы на кінастудыі "Беларусьфільм". Большасць экспанатаў дэманструецца ўпершыню.

Таленавіты паэт, празаік, драматург, публіцыст, перакладчык, кінасцэнарыст. Адказны чалавек, які планаваў сваю дзейнасць. Яго запісныя кніжкі з разважаннямі і задумамі захавалі і запіс: "Здаць у выдавецтва заканчэнне рамана "Каласы пад сярпом тваім" з указаннем дакладнага тэрміну".

На пытанне, ці адкрылі для сябе супрацоўнікі бібліятэкі пры падрыхтоўцы выстаўкі нешта новае ў творчасці Уладзіміра Караткевіча, Таццяна Іванаўна адказвае: "Безумоўна! Мы ведалі, што Уладзімір Сямёнавіч пісаў вершы, раманы, дэтэктывы, але ўся шматграннасць яго таленту адбілася ў гэтых рукапісах. Не ўсё ведае той, хто бярэ кнігу: па-за яго ўвагай застаецца, як той твор ствараўся, колькі было адмоўных рэцэнзій, як балюча рэагаваў на іх аўтар. Асабіста для мяне стала адкрыццём, што зусім маладым, у 1950-я гады, Караткевіч пісаў вершы, якія выказваюць пазіцыю сталага чалавека, з вялікім вопытам роздуму над глабальнымі пытаннямі — пра беларусаў, пра рысы іх характару, пра тое, як трэба любіць родную зямлю.

Паэт звяртаецца да гісторыі, узгадвае выпрабаванні, што выпалі на долю беларусаў, расказвае, колькі крыві праліта на нашай зямлі. У такія гады так усведамляць сваё прызначэнне!"

Больш дэталёва зазірнуць у творчую лабараторыю Уладзіміра Караткевіча, дадаць новае ўражанне ад усприманне маштабнай асобы з дапамогай гэтай экспазіцыі зможа кожны яе наведвальнік. Работа выстаўкі працягнецца да 30 снежня.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: на ўрачыстым адкрыцці выстаўкі — выкладчык БДПУ імя Максіма Танка Святлана Сычова і намеснік дырэктара Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Сяргей Гаранін.

Фота Кастуся Дробава

Прэзентацыя

# Казкі і вершы пра народныя інструменты

> У кнігарні "Кнігачэй", філіяле ААТ "Белкніга", прайшла прэзентацыя кнігі "Незвычайная энцыклапедыя беларускіх народных інструментаў", што пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура". На сустрэчу з чытачамі прыйшлі галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп і аўтары кнігі — музыка, гісторык, калекцыянер музычных інструментаў Яраш Малішэўскі і пісьменніца Аксана Спрынчан.



Упершыню кніга пра беларускія музычныя інструменты напісана ў выглядзе энцыклапедыі. У прадмове да яе аўтары пішуць: "Кніга створана для тых, хто ведае алфавіт і хто ўпэўнены, што нічога звычайнага насамрэч не існуе. Мы не сумняваемся, што яна створана для цябе. А калі ты яшчэ любіш музыку, казкі і адну з найпрыгажэйшых моў у свеце — беларускую, дык мы зусім не памылімся, калі скажам, што гэтая кніга будзе шчаслівa жыць у тваёй хаце".

У кожным з 32 інструментаў, прадстаўленых у кнізе, аўтары пабачылі своеасаблівую сутнасць, душу і часцінку нашай краіны. Артыкул пра музычны інструмент складаецца з казачнай гісторыі (але ўсе звесткі, пра якія распавядаецца ў казках, цалкам праўдзівыя), верша, пададзена тут "інфармацыя для вундэркінда" і "пытанне для маленькага разумніка". Арыгінальная форма прадстаўлення інструмента дапамагае дзецям з цікавасцю ўвайсці ў свет беларускай музыкі.

Усім, хто прыйшоў на сустрэчу, пашчасціла не толькі пазнаёміцца з цікавымі аповедамі пра гісторыю стварэння кніжкі, але і пачуць у выкананні Яраша Малішэўскага гучанне рэдкіх інструментаў: акарыны, варгана, дуды, пішчыка, а таксама прыняць удзел у музычнай віктарыне.

Раіса ГАНЧАРЫК

На здымку: Яраш Малішэўскі і Аксана Спрынчан падпісваюць кнігі для маленькіх чытачоў.

Фота аўтара

Час чытаць



# Руская класіка як падмурак таленту

**Госць Мінскага міжнароднага кінафестываля "Лістапад-2010" славуты сербскі рэжысёр Эмір Кустурыца падчас прэс-канферэнцыі адказаў на нашы пытанні.**

— Скажыце, калі ласка, якія мастацкія творы паўплывалі на станаўленне вашага светапогляду?

— Мне дапамаглі ўбачыць свет творы рускай класічнай літаратуры. Вядома, я чытаў іх у перакладзе на сербскую, але сербская і руская — даволі блізкія мовы. Любімыя пісьменнікі — Гоголь, Лермантаў, Булгакаў, Талстой, Дастаеўскі.

Як рэжысёр сфарміраваўся пад уплывам рускіх фільмаў. Па стужках Даўжэнкі я навучыўся рабіць кампазіцыю фільма і знаходзіць метафару. А менавіта наяўнасць метафары адрознівае мастацтва ад не-мастацтва. Ствараючы свае фільмы, намагаўся паяднаць непаяднанае — рускую і заходнюю кінематаграфічную традыцыю. Як бачыце, атрымалася.

— Самы значны для вас фільм…

— "Андрэй Рублёў". Гэта сапраўдная паэма свабоды. І тут мне блізкі погляд рускага філосафа Бярдзяева — "свобода тяжела, а рабство легко". У гледачоў паломніцтва на "Аватар", у якім, здаецца, раскрываецца гэта ж думка. Але навошта "Аватар", калі ёсць "Андрэй Рублёў"? Іншая справа, якую частку запытаў пакрывае "Аватар", а якую — "Андрэй Рублёў".

— Над чым вы працуеце цяпер?

— Не так даўно выйшла мая кніга і адбылася яе прэзентацыя ў Бялградзе. На рускую мову яна яшчэ не перакладзена, назва гучыць прыблізна так: "Смерць — гэта неправераная чутка". Задумаў складці ўласную біяграфію, але кніга ў выніку аказалася раманам. Працую над стужкай з трох частак пра тых, хто і сёння цэніць творчасць Дастаеўскага. Першая частка раскажа гісторыю маладога аўтара, які марыць зняць фільм пра вялікага пісьменніка. Ён прапануе чалавеку, які хоча набыць гатэль, укласці грошы ў стварэнне стужкі. Той згаджаецца, але з адной умовай — рэжысёр павінен забіць яго жонку.

Другая гісторыя — пра дзяўчыну з Бялграда, якая аднойчы вырашыла нарадзіць ад унука Дастаеўскага і прыязджае да яго ў Санкт-Пецярбург. Трэцяя гісторыя — пра Івана Карамазава, які стаў манахам. Па волі лёсу яму наканавана сустрэцца з гераіняю другой гісторыі… Спадзяюся, што фільм будзе прыняты і зразумеexisting ў Расіі і Беларусі.

Гутарыла Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

Фота Віктара Зайкоўскага

Маладзічок

Задаючыся пытаннем такога характару, мы цудоўна разумеем, што ў гаворцы з адным толькі пісьменнікам адказ на яго знайсці зусім не проста ці нават немагчыма. І ўсё ж прадастаўляем слова Генадзю Аўласенку, спадзеючыся, што адказаць на гэтае ж пытанне паспрабуюць і іншыя — пісьменнікі, педагогі, а мо і самі юныя чытачы. Словам, запрашаем да шырокай размовы на важную і няпростую тэму.

# Якой павінна быць дзіцячая кніга?



— Сёння, як сведчыць статыстыка, мала чытаюць. Асабліва моладзь. І разам з тым у Расіі, Швецыі, іншых краінах назіраецца ўздым дзіцячага кнігавыдання. Ці правільна гэта з вашага пункта гледжання?

— Сапраўды, сёння чытаюць менш, чым, скажам, у часы нашага з вамі дзяцінства. І пэўная доля "віны" за гэта ляжыць на "відзіках" і Інтэрнэце… Хоць, магчыма, слова "віна" тут не зусім падыходзіць. Тым больш, што зараз моладзь шмат чытае розных інтэрнэт-выданняў, а гэта, што ні кажы, таксама чытанне. Многія праз Інтэрнэт нават раманы за вечар-другі адольваюць, хоць я так не магу. Для мяне кніга павінна быць папяровай, праз Інтэрнэт жа шукаю звесткі па самых розных пытаннях, якія мяне цікавяць. Ну, яшчэ электронныя пісьмы атрымліваю ці дасылаю.

Так што, мне здаецца, папяровая кніга яшчэ сябе далёка не вычарпала. І гэта паказвае, як вы правільна адзначылі, рост кнігавыдання (у тым ліку і дзіцячага) у той жа Расіі, Швецыі, іншых краінах…

А першапачатковыя прычыны гэтага новага "ўсплёску" дзіцячага кнігавыдання, на мой погляд, у фенаменальным поспеху казачнай эпапеі пра Гары Потэра. Менавіта дзякуючы яму нават тыя школьнікі, якія не асабліва паважалі чытанне, узяліся за кнігу… і кніжны рынак на гэта імгненна адрэагаваў…

І вельмі добра, што гэтая тэндэнцыя пакрысе прыходзіць да нас.

— Вы пачыналі з дарослай літаратуры, першая кніга — вершаваны зборнік. А цяпер у большай ступені выяўляеце сябе як дзіцячы пісьменнік. Як так сталася, што прыярытэты змяніліся?

— Я, наогул, прыйшоў у літаратуру даволі позна: ужо ў больш чым сталым узросце. А першыя дзіцячыя творы з'явіліся і таго пазней. Нават не думаў тады, што менавіта дзіцячая літаратура стане для мяне адным з галоўных прыярытэтаў…

Наогул, калі ўспомніць гісторыю літаратуры, можна заўважыць, што мала хто з вядомых дзіцячых пісьменнікаў пачынаў менавіта як пісьменнік дзіцячы. Узяць, да прыкладу, Карнея Чукоўскага, які даволі доўга лічыўся літаратарам сур'ёзным, літаратуразнаўцам…

Чаму многія пісьменнікі пачынаюць пісаць для дзяцей не адразу, а ў больш сталым узросце, ужо праявіўшы сябе ў іншых літаратурных жанрах (дарослая проза, паэзія, драматургія), а значыцца, авалодаўшы ўжо ў дастатковай ступені навыкамі літаратурнай працы?

Можа, таму, што для дзяцей, як сказаў класік, "трэба пісаць, як для дарослых, толькі яшчэ лепш"? Ці таму, што разам з уласнымі дзецьмі (а потым і ўнукамі) наноўку перажываюць уласнае сваё дзяцінства? І не проста перажываюць, а адразу ж спяшаюцца гэтыя свае перажыванні выкласці на паперу (ці на экран камп'ютара)… Ці прычыны зусім у іншым?

Скажу шчыра, не ведаю. Проста пішу, і прызнанне дзіцячай аўдыторыі для мяне значыць больш нават, чым прызнанне аўдыторыі дарослай. Таму, што дзеці больш шчырыя ў сваіх сімпатыях і антыпатыях, і іх вельмі цяжка падмануць.

— Скразным героем для некалькіх вашых кніг з'яўляецца Ветрык з Вентылятара. Як ён нарадзіўся? Колькі кніг яму яшчэ жыць? Ці падказваюць чытачы, куды маленькаму Ветрыку ляцець, у які бок павінны рухацца падзеі ў вашых кнігах пра Ветрыка?

— Ветрык з Вентылятара — мой любімы казачны персанаж. Можа, таму, не жадаючы з ім развітвацца, я працягваю пісаць пра яго ўсё новыя і новыя казачныя гісторыі… А "нарадзіўся" мой маленькі Ветрык даволі даўно, яшчэ калі дачка Кацярынка хадзіла ў дзіцячы садок № 5. Аднойчы яна папрасіла мяне напісаць маленькую казачку пра вентылятар. Дакладней, гэта (праз дачку) мяне папрасіла загадчыца іх дзіцячага садка для нейкага мерапрыемства.

> Што ж да літаратуры дзіцячай, то там літаратурная крытыка адсутнічае па-ранейшаму. Ці амаль адсутнічае...

І я пачаў думаць. У выніку атрымалася першая гісторыя пра маленькага Ветрыка, які жыве ў Вентылятары ў дзіцячым садку нумар пяць. А дачка Кацярынка стала адной з гераінь гэтай гісторыі. Здавалася б, на гэтым гісторыя Ветрыка і скончыцца. Але Кацярынцы Ветрык вельмі спадабаўся, і яна запатрабавала працягу. Як вынік — новая казачная гісторыя з удзелам усё таго ж маленькага Ветрыка…

Але літаратурны шлях казачнага героя быў не з лёгкіх. Некалькі разоў я спрабаваў яго прапанаваць таму ці іншаму выдавецтву (ці рэдакцыі), і ўсё няўдала. Скончылася гэта тым, што я, махнуўшы рукой, адклаў Ветрыка на потым і заняўся іншымі літаратурнымі справамі…

Гэтае "на потым", як аказалася, працягнулася даволі шмат гадоў. І толькі дзякуючы РВУ "ЛіМ" Ветрык, нарэшце, пачаў сваё літаратурнае жыццё. Так што, калі мяне можна лічыць "бацькам" Ветрыка, то выдавецтва — ягоны "хросны бацька".

А колькі кніг яму яшчэ жыць?

Цяжка сказаць. Усё будзе залежаць ад таго, як успрымуць маленькага казачнага героя ягоныя такія ж маленькія чытачы. Магчыма, Ветрык будзе падрастаць разам з імі… Нядаўна ў "ЛіМе" выйшла другая кніга прыгод Ветрыка, рыхтуецца да друку трэцяя пад назвай "Ветерок и госпожа Зима". А ў наступнай кнізе, якая пакуль што існуе толькі ў задумках, маленькі Ветрык, хутчэй за ўсё, пакіне свой Вентылятар і пачне самастойнае жыццё, таксама поўнае прыгод і казачных здарэнняў.

— Цяпер амаль няма літаратурнай крытыкі ў галіне дзіцячай літаратуры. Была некалькі гадоў таму спроба "ЛіМа" распачаць дыскусію пра праблемы дзіцячай літаратуры. Ды, як мне падаецца, прайшла яна вельмі квола. Ці патрэбна вам асабіста ўвага крытыкаў?

— Дарэчы, зараз шмат нараканняў з боку пісьменнікаў і на крытыку літаратуры дарослай, дакладней, на яе амаль поўную адсутнасць. Бо нельга ж, згадзіцеся, лічыць крытыкай артыкулы ці, тым больш, простыя анатацыі на выхад таго ці іншага літаратурнага твора. Так што праблемы крытыкі — агульныя для ўсёй нашай літаратуры. Апошнім часам, праўда, штотыднёвік "ЛіМ" пачынае пакрысе запаўняць гэты прагал у нашай літаратуры, але гэта датычыць толькі літаратуры дарослай…

Што ж да літаратуры дзіцячай, то там літаратурная крытыка адсутнічае па-ранейшаму. Ці амаль адсутнічае...

Ці патрэбна мне асабіста ўвага крытыкаў? Вядома ж, патрэбна! На мой погляд, самы адмоўны крытычны артыкул пра твой твор куды лепш, чым поўнае замоўчванне крытыкай гэтага твора. Гэта гаворыць пра тое, хаця б, што крытыкі твой твор прачыталі…

— А ў школе настаўнікі абмяркоўваюць праблемы дзіцячай літаратуры?

— На жаль, я не настаўнік пачатковых класаў і не філолаг. Вядома ж, паміж сабой гэтыя настаўнікі абмяркоўваюць тыя ці іншыя аспекты дзіцячай літаратуры, а мы, біёлагі і хімікі, абмяркоўваем на сваіх пасяджэннях крыху іншыя праблемы. Але з гутарак з філолагамі і настаўнікамі пачатковых класаў можна зрабіць выснову, што іх вельмі непакоіць сучасны стан літаратуры. Дакладней, адсутнасць у многіх вучняў элементарнай цікавасці да чытання.

> Вучні чытаюць творы без усялякай цікаўнасці, часта пад прымусам. У выніку паступова выпрацоўваецца стойкае непрыманне літаратуры ў цэлым.

Прычын гэтага шмат, але, на мой погляд, адной з іх можа быць і тое, што творы для абавязковага чытання ў тым ці іншым класе (як па рускай, так і па беларускай літаратуры) не заўсёды адпавядаюць інтарэсам і ўзросту вучняў (яны альбо занадта дзіцячыя для дадзенага ўзросту, альбо, наадварот, занадта "дарослыя" для яго), і таму вучні чытаюць творы без усялякай цікаўнасці, часта пад прымусам. У выніку паступова выпрацоўваецца стойкае непрыманне літаратуры ў цэлым.

Я не хачу сказаць, што, замяніўшы адны творы ў падручніках іншымі, мы вырашым усе праблемы. Але, магчыма, штосьці зрушыцца…

— А ці ёсць стасункі дзіцячай літаратуры з педагагічным працэсам, з выхаваннем у школе?

— Вядома ж, ёсць, хоць, у першую чаргу, і пра гэта куды лепш маглі б расказаць настаўнікі-філолагі альбо настаўнікі пачатковых класаў. На маіх уроках біялогіі і хіміі такія стасункі выявіць куды цяжэй.

Але акрамя таго, што я настаўнік біялогіі і хіміі, я яшчэ і дзіцячы пісьменнік. І з гэтай нагоды мяне час ад часу запрашаюць на творчыя сустрэчы з дзецьмі ў тую ці іншую школу Чэрвеньскага раёна. Такія сустрэчы я люблю і таму ніколі не адмаўляюся ад запрашэнняў. На іх звычайна расказваю дзецям пра сваю творчасць, чытаю ўласныя вершы ці казкі… Ну, а яны потым задаюць мне пытанні, часта чытаюць свае вершы.

— Генадзь, а як ставяцца ў школе да дзіцячай перыёдыкі? Што выпісваюць? Ці бачаць дзеці "Бярозку", іншыя выданні?

— Так атрымалася, што я вось ужо дваццаць год працую ў маленькай вясковай школе.

Вядома ж, і сама школа, і бацькі вучняў выпісваюць тую ці іншую перыёдыку (я ўжо не кажу пра настаўнікаў). Ужо шмат год наша школа выпісвае дзіцячую газету "Юный спасатель", а некаторыя дзеці (дакладней, іх бацькі) — "Вясёлку" (у пачатковых класах), "Рюкзачок", "Зорьку", "Раніцу", іншыя дзіцячыя выданні. Але, на жаль, не ўсе бацькі разумеюць, што іх дзецям проста неабходна чытаць дзіцячыя газеты і часопісы. Глядзяць "відзікі" — і хопіць з іх!

Што ж датычыць "Бярозкі", то, вядома ж, дзеці добра ведаюць гэты часопіс, і многія хацелі б яго выпісваць, але… Тут усё вырашаюць бацькі, а не дзеці…

— Каго са сваіх калег — дзіцячых пісьменнікаў вы вылучылі б у сучаснай беларускай літаратуры? Чые творы параілі б прачытаць школьнікам?

— У першую чаргу — дзіцячыя вершы Уладзіміра Мазго. Вельмі цікавыя, займальныя і разнастайныя па тэматыцы, яны павінны падабацца дзецям. Таксама будуць вельмі цікавыя дзецям казачныя гісторыі Раісы Баравіковай і Алены Масла. Ды і апошнія кнігі пра беларускую прыроду Алеся Бадака я б таксама параіў дзецям для пазашкольнага чытання, тым больш, што я і сам біёлаг, і гэтая тэма мне асабліва блізкая…

Гутарыў
Кастусь ЛАДУЦЬКА

Ад "Кніжнага свету". Мы вырашылі надрукаваць інтэрв'ю менавіта ў "Кніжным свеце" яшчэ і з той мэтай, каб да ўдзелу ў размове спрычыніліся не адны пісьменнікі і педагогі, а яшчэ — выдаўцы, як арганізатары выдавецкай справы, так і рэдактары кнігі, мастакі, якія працуюць над афармленнем дзіцячай кнігі, а, магчыма, і іншыя зацікаўленыя асобы.

## Азбука Морзэ

● Сёння ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пройдзе прэзентацыя кнігі "Беларускае замежжа. Белорусское зарубежье", што выйшла ў выдавецтве "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі". Кніга, аўтарам-складальнікам якой з'яўляецца кандыдат гістарычных навук, сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі Наталля Голубева, узнаўляе гісторыю беларускага замежжа, у ёй сабрана інфармацыю пра суайчыннікаў, якія пакінулі радзіму ў розныя перыяды нашай гісторыі і рассяліліся ў іншых краінах.

— У 20-й мінскай гарадской бібліятэцы прайшла вечарына "На крылах натхнення", прысвечаная 80-годдзю з дня нараджэння Уладзіміра Караткевіча. Агульную танальнасць мерапрыемства перадвызначыла выступленне гасцей установы — прадстаўнікоў літаратурнага гуртка "Альтанка", створанага на базе філалагічнага факультэта БДУ паэтэсай Ірынай Багдановіч. Узнёслыя, хрысціянскія ідэі пра "пакліканне" і "апостальскую місію" У. Караткевіча знайшлі сваё ўвасабленне ў выступленнях маладых паэтаў, выкладчыкаў Мінскага суvoраўскага ваеннага вучылішча, якія прыйшлі ў бібліятэку разам са сваімі гадаванцамі.

● У Гомельскай абласной універсальнай бібліятэцы імя У. Леніна прайшла сустрэча прадстаўнікоў выданняў РВУ "Літаратура і Мастацтва" і работнікаў бібліятэк вобласці. Пра творчыя планы літаратурна-мастацкіх часопісаў "Нёман", "Маладосць", "Полымя", альманаха "Вожык", новыя праекты газеты "Літаратура і мастацтва" расказалі гасцям сустрэчы рэдактары аддзелаў гэтых выданняў Анатоль Казлоў, Вікторыя Ляйкоўская, Рагнед Малахоўскі, Казімір Камейша, Марына Весялуха. З кнігамі, што нядаўна пабачылі свет у РВУ, прысутных пазнаёміла намеснік дырэктара РВУ "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут.

— Пабачыў свет непадцэнзурны варыянт аповесці "Ладдзя роспачы" Уладзіміра Караткевіча. У кнігу ўвайшла фотакопія рукапісу, што захоўваецца ў Рыгора Барадуліна, кніжны тэкст, пераклад аповесці на рускую мову, зроблены Васілём Сёмухам, артыкул, у якім аналізуюцца праўкі, унесеныя цэнзарамі ў арыгінальны караткевічаўскі тэкст. Кніга мае 55 ілюстрацый, 27 з якіх друкуюцца ўпершыню. Першыя прэзентацыі выдання ўжо прайшлі ў Рагачове. У Мінску кнігу прэзентуюць 4 снежня ў магазіне "Кніжны салон".

● Упершыню выходзіць кніга пра расійскіх дызайнераў. Унікальнае выданне Аляксандры Саньковай з незвычайнай назвай "23" пабачыць свет у выдавецтве "ИндексМаркет". Пад адной кніжнай вокладкай сабраны інтэрв'ю з 23 вядомымі расійскімі дызайнерамі. Кожная гутарка з творцамі, як можна здагадацца, складаецца з 23-х аднолькавых пытанняў, але ніводны адказ на іх не падобны да іншага.

— Выпуск кніг у Расіі па выніках 2010 года рызыкуе зменшыцца на 5-10 працэнтаў. Паводле статыстычных дадзеных, на сярэдзіну лістапада расійскія выдаўцы выпусцілі менш як 100 тысяч найменняў кніжнай прадукцыі, у той час як у мінулым годзе аналагічны паказальнік быў дасягнуты ўжо ў канцы жніўня. Сярод асноўных прычын змяншэння колькасці выдадзеных кніг спецыялісты называюць эканамічны спад, узмацненне "дыгіталізацыі" (ролі электронных кніг) і недахоп дзяржаўнай падтрымкі.

● У Маскве ў Доме Пашкова былі аб'яўлены імёны пераможцаў пятага сезона самай буйной расійскай літаратурнай прэміі "Большая книга". Уладальнікам першай прэміі стаў Павел Басінскі, аўтар кнігі "Лев Толстой. Бегство из рая", прысвечанай апошнім дням жыцця класіка. Другую прэмію атрымаў Аляксандр Ілічэўскі за раман "Перс", трэцюю — Віктар Пелевін за раман "t". Спецыяльны прыз "За ўклад у літаратуру" быў прысуджаны Антону Чэхаву. Прызавыя грошы будуць перададзены ў Чэхаўскі фонд РАН і накіраваны на падрыхтоўку кніжнай серыі "Чеховиана", якая выходзіць у выдавецтве "Наука".

Падрыхтавалі Чэслава ПАЛУЯН
і Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Выдавецкія клопаты



# Тры «кіты» дзейнасці «Народнай асветы»

Калі бярэш у рукі прадукцыю выдавецтва "Народная асвета", адчуваеш своеасаблівы настрой. Рознакаляровыя, на высакаякаснай паперы, выдатна аздобленыя кніжкі вяртаюць да ўспамінаў школьных дзён. Прыгадваецца ўрачыстасць пачатак новага навучальнага года, хваляванне, з якім гарталі некалі новенькія падручнікі, што яшчэ не страцілі пах друкарскай фарбы, абяцанне цікавага падарожжа ў краіну ведаў...

## Для вучняў і настаўнікаў

Пра тое, чым сёння жыве гэты зладжана працоўны арганізм, расказвае яго дырэктар Ларыса Мінько: "Першага красавіка 2011 года споўніцца шэсцьдзесят гадоў, як створана выдавецтва. На працягу гэтага часу не спыняецца дзейнасць па выданні падручнікаў, навучальных дапаможнікаў, слоўнікаў, навукова-метадычнай літаратуры — словам, усяго неабходнага для забеспячэння навучальнага працэсу. Акрамя таго, выдаецца навукова-папулярная літаратура, кнігі для дзяцей і малодшага, і старэйшага школьнага ўзросту. Выдавецтва на добрым рахунку — пра гэта сведчыць кожны выйграны намі тэндар на выпуск новых падручнікаў.

За мінулы год пад грыфам "Народнай асветы" выдадзена каля 200 кніг. У цэнтры ўвагі па-ранейшаму — вучэбна-метадычны комплекс, які ўключае падручнік, метадычную літаратуру, дыдактычныя матэрыялы, зборнік задач, хрэстаматыю.

З выдавецтвам пастаянна працуюць цікавыя аўтары. Маем добрыя сувязі з Нацыянальным інстытутам адукацыі. Наша шматгадовая сумесная праца дапамагла без залішніх матэрыяльных і нервовых затрат своечасова забяспечыць падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі школьнікаў ва ўмовах пераходу на адзінаццацігадовы тэрмін навучання.

Некалькі гадоў таму пад шыльдай выдавецтва пачалі выходзіць кнігі для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця. Сёння рэдакцыя, якая рыхтуе кнігі шрыфтам Брайля, забяспечвае вучняў з парушэннямі зроку не толькі падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі (па заказе Міністэрства адукацыі), але і серыяй "Школьная бібліятэка" (па заказе Міністэрства інфармацыі). Трэба адзначыць, што ўпершыню ў рэспубліцы выдавецтва ажыццяўляе выпуск гэтай літаратуры з рэльефнымі малюнкамі на полістыролі. Наклады кніг серыі "Школьная бібліятэка" — 27 экзэмпляраў, падручнікаў — 46 экзэмпляраў. Дзякуй Богу, колькасць такіх дзетак невялікая, але яны не засталіся па-за ўвагай. (І гэта прамое сведчанне пра клопат дзяржавы пра падрастаючае пакаленне.)

Першым "кітом" з'яўляецца правільна выбраны вектар дзейнасці — на ніве асветніцтва. Новыя пакаленні павінны засвоіць пэўны пласт ведаў, без гэтага прагрэс немагчымы.

## Расклад на заўтра

Загадчык рэдакцыі тэматычнага планавання, рэдакцыйнай падрыхтоўкі выданняў Вера Бехціна: "Маем вялікія планы, знаходзімся ў пастаянным пошуку аўтараў. Дзеля таго, каб дзеці атрымлівалі веды ў цікавай форме, рыхтуем навукова-пазнавальныя серыі. Так, плённым стала супрацоўніцтва з аршанскімі аўтарамі Сяргеем і Галінай Трафімавымі, адрас якіх нам падказалі ў Міністэрстве адукацыі. Трафімавы згадзіліся працаваць з намі, нягледзячы на тое, што шмат выдаюцца ў Расіі. Біёлагі па адукацыі, яны распрацавалі кніжкі для серыі "Рассказы Деда Природоведа", самі назвы якіх ужо заахвочваюць узяць выданне ў рукі. Убачылі свет ужо 9 кніг "Рассказов...", на наступны год запланавана з'яўленне яшчэ шасці: "Капустные листочки" (пра тое, чаму капусту назвалі капустай, чаму жартуюць, што менавіта ў ёй знаходзяць дзяцей, які смак у "пальмавай капусты"), "Да здравствует солнце!" (пра таямніцы сонейка — адкуль на ім плямы, чаму ўзімку не прыпякае і як выглядае "сястрыца сонейка"), "Удивительная стрельба" (пра рыб, якія страляюць у насякомых кропелькамі вады, "пушечное дерево" і тысячы насельнікаў нашай планеты, якія ў крыўдзіцеляў страляюць кропелькамі... крыві), "Снежные причуды природы" (у гэтай кнізе адказ на пытанні, ці ўсе сняжынкі падобныя да зорачак, чаму снег белы і чаму ён ідзе), "Раз — кольцо, два — кольцо" (раскажа, чаму зараснікі крываўніку ў лузе маюць форму кола, што можна прачытаць на колцах рыбінай лускі, дзе і чаму знаходзіцца Вогненнае кальцо), "Про волосы обыкновенные и таинственные" (у гэтай кнізе хлопчыкі і дзяўчынкі знойдуць адказ на пытанні, як хутка растуць валасы, ці існуюць валасатыя жабкі і што такое "Валасы Пеле"). Ганарымся, што распрацаваная намі серыя зацікавіла балгарскіх калег. Нядаўна мы атрымалі ліст, у якім яны просяць дазволу на пераклад усіх выдадзеных кніг гэтай серыі на балгарскую мову.

(І ў аўтараў, і ў выдаўцоў агульны пагляд на выхаванне — чаму яшчэ дарослыя павінны навучыць, якія даць веды, каб з дзецьмі нічога дрэннага не здаралася. І гэта адказнасць — той самы другі "кіт". — В. П.) Заўважылі, што ў нашай краіне ёсць вольная ніша – няма папулярнай літаратуры, якая расказвала б малодшым школьнікам, як сябе паводзіць на дарогах. Трафімавы падрыхтавалі "Азбуку юного пешехода". Выдалі кнігу і зразумелі — мы не навучылі малых паводзіць сябе як пасажыраў. Таму наступнай кнігай, якая павінна ўбачыць свет у снежні, будзе "Азбука юного пассажира". У займальнай форме будуць выкладзены правілы паводзін на ўсіх відах транспарту — у метро, цягніку, аўтобусе, самалёце і г. д. Веды будуць падмацоўваца пытаннямі, на якія трэба даць адказы, і гульнямі, што дазволяць скарыстаць атрыманую інфармацыю і лепш засвоіць правілы.

Разглядаецца цікавая прапанова Анатоля Бярнацкага — серыя кніг з умоўнай назвай "Таинственное и невероятное". Адрасавана серыя старэйшым школьнікам і прызначана даць адаптаваныя для іх успрымання адказы на даволі складаныя пытанні. У наступным годзе плануецца выдаць кнігу "Тайны и загадки человеческого организма" (пра парадоксы нашага зроку і слыху, крывяносную сістэму і інш.), кнігу "Невероятный и парадоксальный мозг".

У выдавецтва паступіў рукапіс кнігі настаўніцы пачатковых класаў Ірыны Грышковай "Мир писателей от А до Я". Мяркуецца, што ў гэтай кнізе будзе з улікам узросту чытачоў выкладзена інфармацыя пра тых пісьменнікаў, творы якіх вывучаюць у пачатковай школе. Цікавыя факты з біяграфій пісьменнікаў, красворды, віктарыны, гульні-падарожжы, дзеля паспяховага ўдзелу ў якіх трэба пэўныя звесткі добра ведаць. Дзеці будуць лепей засвойваць прачытаны матэрыял, можа, узнікне жаданне вярнуцца да нейкіх твораў і перачытаць іх. Наша мэта — каб дзеці чыталі літаратуру, якая развівае, пазнавальную і разам з тым цікавую.

## Няхай будуць толькі ўсмешкі!

Трэці "кіт" выдавецкай дзейнасці — прадугледзець стрэсавыя сітуацыі. Друкаваная прадукцыя — не архітэктурнае збудаванне. Падручнікі, якімі даволі актыўна карыстаюцца няўрымслівыя школьнікі, могуць парвацца, і запэцкацца, і ўвогуле згубіцца. Што тады рабіць?

"Дакладна, бедаваць не давядзецца, — адказвае на гэтае пытанне загадчык сектара маркетынгу Канстанцін Плаўнік. — Выдаём падручнікі не толькі па заказе Міністэрства адукацыі, але і за ўласныя грошы, — дадатковым накладам, каб такія непрыемныя сітуацыі, калі вучань згубіць узяты ў бібліятэцы падручнік, не перараслі ў невырашальную праблему. Наяўнасць дадатковага накладу дазваляе спакойна набыць новы падручнік у кніжных крамах. Існуюць крамы – апорныя пункты выдавецтва. Такіх крам у Мінску чатыры: "Светоч", "Методическая книга", "Адукацыя", "Кнігарня "Эўрыка", ёсць яны ў Брэсце ("Асвета"), Віцебску ("Ровесник"), Гомелі ("Книжный мир"), Гродне ("Веды"), Магілёве ("Світанак"). Сталічная кнігарня "Светоч" можа выслаць патрэбнае выданне накладзеным плацяжом. А яшчэ можна звярнуцца напрамую ў выдавецтва, і яго супрацоўнікі паспяшаюцца аказаць дапамогу.

Такім чынам, трэці "кіт" — добрае веданне тых, для каго і працуе творчы калектыў выдавецтва.

Спадзяёмся, апора з "трох кітоў" надзейная і дазволіць "Народнай асвеце" адзначыць не адзін пачэсны юбілей.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: дырэктар выдавецтва "Народная асвета" Ларыса Мінько.

На рахунку выдавецтва:

Падзяка Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь працоўнаму калектыву выдавецкага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Народная асвета" за шматгадовую плённую асветніцкую дзейнасць, падрыхтоўку і выпуск новых якасных падручнікаў, вучэбна-метадычных дапаможнікаў і ў сувязі з 50-годдзем з дня заснавання.

Неаднаразова УП "Народная асвета" было ўзнагароджана дыпломам Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі" і атрымоўвала знак-сімвал "Залаты Фаліянт" у намінацыях "Лепшы падручнік года", "Лепшы вучэбны дапаможнік года".

Выдавецтва ўдзельнічае ў шматлікіх кніжных выстаўках і амаль заўсёды атрымоўвае дыпломы ў разнастайных намінацыях.






# Слоўка як зернейка

З аўтарам-укладальнікам тлумачальна-перакладнога слоўніка "Залатыя зярняты" ("Пачатковая школа", 2009 г.) Марыяй Верціхоўскай гутарыць вельмі цікава, дарэчы, як і з кожным чалавекам, які добра ведае сваю справу, любіць яе, адданы ёй усім сэрцам.

Трыццацігадовы вопыт працы ў школе дапамог ёй дакладна вызначыць: у захаванні роднай мовы найважнейшая роля адводзіцца слоўнікам. Яркія, прывабныя, з цытатамі з твораў класікаў і сучасных паэтаў, каб дзеці не толькі ўяўлялі прадмет, пра які ідзе гаворка, але і разумелі кантэкст, у якім тое ці іншае слоўца ўжываецца. З горыччу расказвае Марыя Іванаўна пра выпадак, калі абітурыентка педуніверсітэта не зразумела аж чатыры словы ў кароткай фразе. А праз пяць год, верагодна, яна прыйдзе працаваць настаўнікам малодшых класаў... Вось каб такіх выпадкаў не было, і створана гэтае выданне.

І хаця на вокладцы напісана, што гэта кніжка для другога класа, адрасавана яна значна большай колькасці чытачоў — самым маленькім, якія толькі разглядаюць малюнкі, седзячы на руках у бацькоў, гэтым самым бацькам, бабулям, дзядулям, выхавальнікам, настаўнікам, а найбольш карысная кніжка стане для тых, хто пачынае вывучаць беларускую мову, прагне зрабіць мову насычанай і ўзбагаціць свой слоўнікавы запас.

Непасрэдна работа над кнігай цягнулася два гады. І зноў непрыемнае ўражанне — выдатныя кніжкі, якія брала ў пошуках цытат для слоўніка ў буйных бібліятэках сталіцы Марыя Іванаўна, да яе выдаваліся ў лепшым выпадку двум-тром чытачам...

Ідэя стварэння тлумачальнага слоўніка была падтрымана выдавецтвам "Пачатковая школа". Марыя Іванаўна распрацавала аўтарскія курсы, з якімі ездзіла па ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі, вяла заняткі ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі.

Аднойчы мне давялося пачуць цікавую гісторыю. Ізраільцяне сутыкнуліся з такой праблемай: у старажытных пісьмовых тэкстах сустракаліся словы, сэнс якіх быў страчаны. Каб яны не загінулі канчаткова, лінгвісты дамовіліся надаць ім новае жыццё. Выбралі сучасныя рэаліі, якія гэтыя словы стануць абазначаць, і далі шырокай граматычнай. Толькі каб слова не знікла з ужытку...

Дзякуючы з'яўленню такіх кніжак, а "Залатыя зярняты", спадзяюся, будуць мець працяг, упэўнена, нам гэта не пагражае. Дарэчы, Марыя Іванаўна марыць пра перавыданне слоўніка, бо лічыць неабходным дапрацаваць некаторыя тлумачэнні, каб яны былі яшчэ больш зразумелымі.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

# Прыцягненне класікі




**Серыя “Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі” заснавана ТАА “Харвест” у 2007 годзе. Лагічна, што першымі пісьменнікамі, чые творы пабачылі свет у салідных зялёных (сініх) фаліянтах з “залатымі літарамі”, былі пачынальнікі нашай нацыянальнай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас. Пазней у гэтай жа серыі выйшлі кнігі выбраных твораў Петруся Броўкі, Івана Чыгрынава, Максіма Танка, Івана Шамякіна — пісьменнікаў, якія справядліва ўваходзяць у залаты фонд беларускай літаратуры. Сёння чытачоў “Кніжнага свету” мы знаёмім з кнігамі выбраных твораў класікаў беларускай літаратуры серыі “Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі”, а таксама з выданнямі, што пабачылі свет у межах праекта “Беларускі кнігазбор”, пры падтрымцы ТАА “Харвест”.**

## Прарок у сваёй Айчыне

“У кожнай нацыянальнай літаратуры ёсць імёны асабліва значныя і славутыя, якія найбольш поўна ўвабралі ў сябе вопыт перажытага, здабыткі папярэднікаў, сталі прызнанымі песнярамі свайго народа, яго гістарычнага лёсу. У славян гэта Аляксандр Пушкін, Тарас Шаўчэнка, Адам Міцкевіч… У іх сузор'і свеціцца і зорка Янкі Купалы. Ён ствараў такія мастацка-філасофскія, ідэйныя каштоўнасці, якія не маюць аналагаў у іншых народаў. Праз яго творы беларускі народ расказаў свету пра сваё жыццё і звычаі, гісторыю, прыроднае ўлонне, раскрыў свой светапогляд і норавы, прад'явіў, інакш кажучы, неабвержнае мастацкае сведчанне аб сваім існаванні на зямлі…” — піша ва ўступным артыкуле да кнігі Янкі Купалы “Вершы. Паэмы. П'есы” доктар філалагічных навук Уладзімір Гніламёдаў. У гэтым жа артыкуле вядомы літаратуразнаўца падрабязна аналізуе творчасць паэта, звяртае ўвагу на жыццёвыя калізіі, якія адбіліся на мастацкіх творах класіка.

У аснову выдання “Вершы. Паэмы. П'есы” пакладзены храналагічны прынцып, што дазваляе прасачыць станаўленне творчай індывідуальнасці класіка, заўважыць тэматычныя, ідэйныя і фармальныя змены, што ў розныя перыяды творчага шляху мелі месца ў вершаванай і празаічнай спадчыне народнага паэта Беларусі. У кнігу ўвайшлі ўсе вядомыя вершы, паэмы, драматычныя паэмы і п'есы Купалы.

## Пясняр нашага народа

Імя Якуба Коласа, народнага паэта Беларусі, празаіка, драматурга, крытыка, публіцыста, перакладчыка, вучонага, педагога, грамадскага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў сучаснай беларускай мовы і літаратуры заўсёды стаіць побач з імем Янкі Купалы. Народжаныя ў адзін год, яны і па жыцці, і па творчым шляху заўсёды ішлі поруч, але на гэтым шляху, заканамерна, рабілі розныя адкрыцці, распачыналі розныя кірункі нашай літаратуры. У адрозненне ад рамантычна настроенага Купалы-бунтара, Колас у сваёй творчасці прытрымліваўся рэалістычнага светапогляду, імкнуўся да праўдзівага адлюстравання беларускай рэчаіснасці.

Выданне твораў Якуба Коласа «Вершы. Паэмы. Апавяданні. Аповесці. Трылогія “На ростанях”», што пабачыла свет у серыі “Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі”, уключае найбольш вядомыя вершы, апавяданні беларускага песняра, а таксама аповесці “Дрыгва”, “На прасторах жыцця”, паэмы “Новая зямля”, “Сымон-музыка”, трылогію “На ростанях”. У зборнік увайшоў і цыкл алегарычных казак “Казкі жыцця”.

Як піша ў прадмове да кнігі выдатны літаратуразнаўца Міхась Мушынскі, гэтае выданне “не прадугледжвае знаёмства з усёй літаратурна-мастацкай спадчынай Якуба Коласа, выключна багатай і разнастайнай у жанрава-стылёвых адносінах… Але і змешчанае ў кнізе дае дастаткова поўнае, яскравае ўяўленне пра выдатнага мастака і яго выключную ролю ў развіцці беларускага прыгожага пісьменства і далучэнні яго да лепшых узораў сусветнай літаратуры”.

## Шматгранны і багаты талент

Народны паэт Беларусі Пятрусь Броўка, а яшчэ, апроч таго, — драматург, празаік, публіцыст, вучоны-асветнік, акадэмік, пакінуў багатую літаратурную спадчыну. І няхай не ўсе творы, напісаныя класікам, з-за асаблівасцей светаўспрымання аўтара, адбіткаў часу, што маюць месца ў паэзіі, ды і прозе, могуць быць адэкватна ўспрыняты сучаснікамі, знойдуцца ў творчай спадчыне Петруся Усцінавіча і прыклады сапраўды высокай лірыкі. Да вершаў, што заўсёды будуць уражваць шчырасцю, чысцінёй і прыгажосцю вобраза, можна смела аднесці неўміручы і заўжды папулярны (у тым ліку і ў песенных варыянтах, створаных Лявонам Вольскім, гуртамі “Далі” і “Litvintroll”) “Пахне чабор”, балады ваенных гадоў “Надзя-Надзейка”, “Кастусь Каліноўскі”. Ва ўсе часы чытача будзе кранаць боль, якім напоўнены кожны радок, бадай, самага лепшага твора Петруся Броўкі — паэмы “Голас сэрца”.

Збор твораў Петруся Броўкі “Вершы, паэмы, апавяданні, аповесці, раман “Калі зліваюцца рэкі”” уключае ўсе вядомыя творы аўтара. За раман “Калі зліваюцца рэкі” (прататыпамі яго герояў сталі будаўнікі электрастанцыі на возеры Дрысвяты: беларусы, літоўцы, латышы) пісьменнік атрымаў прэмію імя Якуба Коласа. Кнігу адкрывае ўступны артыкул літаратуразнаўцы Міхаіла Пратасевіча, у якім прыведзены аналіз творчасці аўтара.

## Майстра філасофскай лірыкі

“У гісторыі айчыннай паэзіі XX ст. Максім Танк па праву лічыцца заканадаўцам у плане глыбокага і арыгінальнага духоўна-філасофскага, сацыяльна-маральнага асэнсавання складаных і супярэчлівых падзей рэчаіснасці, своеадметнага мастацка-стылістычнага, паэтыка-версіфікацыйнага выяўлення багатага і шматстайнага жыццёвага матэрыялу, душэўна-псіхалагічнага свету лірычнага героя, тых змен, якія ў ім адбываліся”, — піша ў прадмове да збору твораў Максіма Танка крытык Мікола Мікуліч. Творчасць Максіма Танка — гэта цэлы свет: дзівосны, багаты, непаўторны, напоўнены глыбокімі роздумамі, перажываннямі за лёс беларускай зямлі і чалавецтва ў цэлым, яркімі, непаўторнымі пейзажамі.

У “Збор твораў” Максіма Танка ўвайшлі ўсе вядомыя вершы і паэмы класіка, што калісьці пабачылі свет у зборніках “На этапах”, “Журавінавы цвет”, “Пад мачтай”, “Праз вогненны небасхіл”, “Каб ведалі”, “На камні, жалезе і золаце”, “У дарозе”, “След бліскавіцы”, “Мой хлеб надзённы”, “Глыток вады”, “Перапіска з зямлёй”, “Хай будзе святло”, “Дарога, закалыханая жытам”, “Прайсці праз вернасць”, “За маім сталом”, “Збор калосся”, а таксама рэдкія сёння (у бібліятэках іх складана знайсці асобнымі выданнямі) паэтычныя кнігі “Мой каўчэг”, “Errata”, а таксама вершы, не ўключаныя ў зборнікі.

## Праўдзівы мастак

Раманы Івана Чыгрынава, прысвечаныя тэме Вялікай Айчыннай вайны, займаюць асаблівае месца ў беларускай літаратуры. Яшчэ Максім Танк падкрэсліваў, што ў творах Івана Гаўрылавіча “праўда вайны і змагання з ворагам выяўлена глыбінна, на філасофскім узроўне думкі і мастацкага пісьма”.

У кнігу “Выбраныя творы” Івана Чыгрынава ўвайшлі раманы, шырока знаёмыя шматлікай аўдыторыі чытачоў: “Плач перапёлкі”, “Апраўданне крыві”, “Свае і чужынцы”, “Вяртанне да віны”, “Не ўсе мы згінем”. Яны і склалі своеасаблівую эпапею пра Вялікую Айчынную, пра тое, як жылі беларусы ва ўмовах нямецкай акупацыі, як змагаліся супраць фашыстаў, уносячы свой уклад у перамогу над гітлераўцамі. У іх аўтар незвычайна драматычна апісвае Вялікую Айчынную вайну і глыбока даследуе характары герояў, паказвае іх змаганне і непахісную веру ў перамогу над ворагам. Гэты таленавіты пісьменнік заявіў аб сабе і ў вобласці крытыкі, публіцыстыкі і літаратуразнаўства. Творы Івана Чыгрынава перакладзены на многія мовы свету і выдаюцца за мяжой.

## У цэнтры ўвагі: Купала і Колас

Класіка з'яўляецца не толькі добрым чытвом, актуальным ва ўсе часы, але і ўдзячным матэрыялам для навуковага прачытання, даследавання і інтэрпрэтацыі. Нездарма ж навукоўцы розных пакаленняў звяртаюць увагу на першаасновы нашай літаратуры — творчасць Янкі Купалы і Якуба Коласа.

У кнізе даследчыка Валерыя Максімовіча, чыя ўвага скіравана на беларускую літаратуру пачатку XX ст., “Нацыянальны космас класікі: дыялог традыцый і наватарства ў творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа” на матэрыяле творчасці Янкі Купалы і Якуба Коласа даследуецца механізм узаемаабумоўленасці і ўзаемадапаўняльнасці класічных літаратурных традыцый і эстэтычных інавацый, нацыянальнага і ўніверсальнага. Валерый Аляксандравіч нацыянальную класіку разглядае як найважнейшую састаўляючую стратэгіі захавання духоўнай бяспекі народа ў сістэме маральна-філасофскіх, эстэтычных і грамадска-ідэалагічных каштоўнасцей і прыярытэтаў сучаснасці.

Дадзенае выданне можа быць карысным літаратуразнаўцам, выкладчыкам і студэнтам вышэйшых навучальных устаноў, усім, хто цікавіцца праблемамі развіцця беларускага класічнага мастацкага слова.



## Паэтычная Сяліба

Пяцьдзясят пяты том кніжнага праекта “Беларускі кнігазбор”, які не так даўно пабачыў свет, склалі выбраныя творы лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы Васіля Зуёнка. Кніга “Выбраныя творы” ўключае вершы паэта, напісаныя ў розныя перыяды творчасці аўтара (многія з іх упершыню пабачылі свет на старонках газеты “Літаратура і мастацтва”, часопісаў “Бярозка”, “Полымя”, “Маладосць”), паэму “Маўчанне травы” (адна з пяці паэм кнігі “Пяцірэчча”), празаічныя элегіі, да якіх аўтар звярнуўся ў 1990-х, эсэ, эцюды і літаратурна-крытычныя артыкулы.

Аўтарка прадмовы і каментарыяў да выдання Наталля Заяц справядліва адзначае: “…В. Зуёнак у літаратуры стварыў свой непаўторны мастацкі свет, па-гаспадарску, рупліва збіраючы словы, узвёў уласную — паэтычную — Сялібу… Каб судакрануцца з багатым набыткам гэтай Сялібы, з нязменна глыбокімі, таленавітымі, па-майстэрску дасканалымі лірычнымі вершамі, паэмамі, празаічнымі творамі, варта ўсяго толькі адгарнуць кнігу, дзе на вокладцы пазначана “Васіль Зуёнак”. У гэтую “паэтычную Сялібу” мы і запрашаем чытача.

## Пакліканы эпохай

“Яго паклікала ў навуку сама эпоха — бурныя часы шырокага антыфеадальнага руху ў Еўропе і звязанае з ім нацыянальнае адраджэнне большасці славянскіх народаў канца XVIII — першай паловы XIX стагоддзяў. Каб асвятліць нацыянальныя асаблівасці кожнага славянскага народа, трэба было дайсці да каранёў, зазірнуць у самыя вытокі развіцця яго культуры — у часы агульнаславянскай супольнасці. Гэтую надзвычай цяжкую задачу і паставіў перад сабой Зарыян Далэнга-Хадакоўскі (сапр. Адам Чарноцкі), які па праву лічыцца піянерам славяназнаўства”, — так распачынае свой аповед пра нашага слыннага земляка, якога Аляксандр Пушкін называў “известным любителем древностей” і якога высока цаніў Мікалай Гоголь, Адам Міцкевіч і іншыя вядомыя дзеячы культуры, Леаніла Мілаш — укладальнік кнігі, перакладчык польскамоўных тэкстаў З. Далэнгі-Хадакоўскага.

Кніга “Выбранае” Зарыяна Далэнгі-Хадакоўскага пабачыла свет у межах кніжнага праекта “Беларускі кнігазбор” у серыі II “Гісторыка-літаратурныя помнікі”. У выданне, якое ўпершыню знаёміць беларускага чытача са спадчынай славутага славяназнаўцы, увайшлі яго гістарычныя творы, лісты, фальклорныя запісы. Змяшчае кніга і дадатак — успаміны пра З. Далэнгу-Хадакоўскага і лісты, што пісалі яму В. Анастасевіч, В. Красінскі, І. Лабойка, С. Рамаnoўскі.

## Ад Кірылы Тураўскага да Сымона Полацкага

Старабеларуская літаратура ў сваім развіцці і існаванні вельмі моцна была знітавана са з'явамі, што мелі месца ў тагачасным грамадстве, гістарычнымі падзеямі, рэлігійнымі ідэаламі. Як адзначае ў прадмове да выдання “Старажытная беларуская літаратура (XII — XVII стст. )”, што выйшла ў серыі “Мастацкая літаратура” праекта “Беларускі кнігазбор” даследчык Іван Саверчанка: “Паводле паэтыкі, зместу, жанравых формаў і стылёвых рысаў старабеларускае пісьменства належыць да пісьменства хрысціянскага тыпу. Генезісам, паходжаннем яно знітавана з хрысціянскімі — заходнімі і ўсходнімі традыцыямі… Акрамя таго, што літаратура існавала як форма прыгожага пісьменства, у даўнія часы яна выконвала і важныя грамадскія функцыі: праз рукапісное і друкаванае слова чалавек старажытнай Беларусі пазнаваў сябе, сваю зямлю і свой край, іншыя народы і шырокі свет. Адшліфаваныя майстрамі слова мастацкія формы выпрацоўвалі густ, фармавалі ўяўленне аб прыгожым, эстэтычным. Гуманістычны змест твораў выхоўваў мараль і этыку”. А “вызвальнікі словам” (Кірыла Тураўскі, Ігнат Смалянін, Грыгоры Цамблак, Францыск Скарына, Мікола Гусоўскі, Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, іншыя творцы) і сёння ўражваюць талентам, афарыстычнасцю пісьма, сілай уздзеяння словам, якія і цяпер могуць стаць прыкладам для многіх творцаў.

Юзэфа ВОЎК

# Навінкі кнігавыдання

## Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам

### Арганічная хімія

Каток, Я. М. Органическая химия: задачи и упражнения: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений по специальностям 1-75 01 01 «Лесное хозяйство», 1-75 02 01 «Садово-парковое строительство», 1-25 01 07 «Экономика и управление на предприятии», 1-25 01 08 «Бухгалтерский учет, анализ и аудит», 1-26 02 02 «Менеджмент», 1-26 02 03 «Маркетинг», 1-36 01 08 «Конструирование и производство изделий из композиционных материалов», 1-43 01 06 «Энергоэффективные технологии и энергетический менеджмент» / Я. М. Каток, О. Я. Толкач; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2010. — 166 с. — 450 экз. — ISBN 978-985-434-981-7.

### Навукі аб Зямлі. Геалагічныя навукі. Гідрасфера. Агульная гідралогія

Вода, изменение климата и здоровье человека = Water, climate change and human health: материалы докладов международного молодежного форума (Минск, 25–26 ноября 2009 г.) / [редколлегия: Т. А. Савицкая и др.]. — Минск: Вараксин А. Н., 2010. — 275 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — 70 экз. — ISBN 978-985-6929-74-1.

### Біялагічныя навукі

Биология: весь школьный курс в таблицах / [составитель Елкина Лариса Владимировна]. — 3-е изд. — Минск: Современная школа: Кузьма, 2010. — 416 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-539-032-0 (Современная школа). — ISBN 978-985-453-330-8 (Кузьма).

Биохимия: учебное пособие для студентов высших учебных заведений / Коневалова Н. Ю. [и др.]; под редакцией Н. Ю. Коневаловой; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — 2-е изд. — Витебск: ВГМУ, 2010. — 689 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-466-399-9.

Борщевская, Е. В. Мир культурных растений: 7-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / Е. В. Борщевская ; Национальный институт образования. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2010. — 147 с. — 3600 экз. (1-й з-д 700). — ISBN 978-985-471-397-7.

Гричик, В. В. Занимательный мир животных: 8-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / В. В. Гричик, М. Ю. Немчинов; Национальный институт образования. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2010. — 99 с. — 3600 экз. (1-й з-д 750). — ISBN 978-985-471-399-1.

Камлюк, Л. В. Биология: 7-й класс: ответы на вопросы учебного пособия «Биология. 7 класс» под редакцией В. Н. Тихомирова / Л. В. Камлюк. — Минск: Юнипресс, 2010. — 110 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-532-267-3.

Лисов, Н. Д. Биология: пособие для подготовки к централизованному тестированию / Н. Д. Лисов. — 3-е изд. — Минск: Аверсэв, 2010. — 639 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-529-495-6.

Лисов, Н. Д. Тетрадь для лабораторных работ по биологии: 8-й класс: приложение к учебнику «Биология» для 8-го класса общеобразовательных учреждений (авторы: Л. В. Камлюк, Е. С. Шалапенок) / Н. Д. Лисов, З. И. Шелег. — 6-е изд. — Минск: Аверсэв, 2010. — 27 с. — 17000 экз. — ISBN 978-985-529-436-9.

Лисов, Н. Д. Тетрадь для практических заданий и лабораторных работ по биологии для 8 класса: приложение к учебнику «Биология» для 8-го класса общеобразовательных учреждений (авторы: Л. В. Камлюк, Е. С. Шалапенок): пособие для учащихся учреждений, обеспечивающих получение общего среднего образования, с русским языком обучения / Н. Д. Лисов, З. И. Шелег. — 6-е изд., переработанное. — Минск: Аверсэв, 2010. — 142 с. — 27000 экз. — ISBN 978-985-529-435-2.

Лісаў, М. Дз. Сшытак для практычных заданняў і лабараторных работ па біялогіі для 8 класа: дадатак да падручніка «Біялогія» для 8-га класа агульнаадукацыйных устаноў (аўтары: Л. В. Камлюк, А. С. Шалапёнак): дапаможнік для вучняў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, з беларускай мовай навучання / М. Дз. Лісаў, З. І. Шэлег. — 4-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 142 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-529-437-6.

Мартыненко, Л. П. Тестовые задания по биологии для самоконтроля знаний: пособие для слушателей факультета профориентации и довузовской подготовки / Л. П. Мартыненко; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — Витебск: ВГМУ, 2010. — 218 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-466-396-8.

Методы исследования в микробиологии: учебно-методическое пособие: [для студентов / Ж. Г. Шабан и др.]; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра микробиологии, вирусологии, иммунологии. — Минск: БГМУ, 2010. — 122 с. — 75 экз. — ISBN 978-985-528-216-8.

Хруцкая, Т. В. Сшытак для лабараторных работ па біялогіі для 7 класа: дадатак да падручніка «Біялогія» для 7-га класа агульнаадукацыйных устаноў (пад рэдакцыяй В. М. Ціхамірава): дапаможнік для вучняў устаноў, якія забяспечваюць атрыманне агульнай сярэдняй адукацыі, з беларускай мовай навучання / Т. В. Хруцкая. — 4-е выд., перапрацаванае. — Мінск: Аверсэв, 2010. — 61 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-529-439-0.

Экологические проблемы Полесья и сопредельных территорий: материалы VI Международной научно-практической конференции, Гомель, октябрь 2004 г. / [редколлегия: А. Н. Кусенков (ответственный редактор) и др.]. — Гомель: ГГУ, 2004. — 289 с. — 100 экз.

Экологической науке – творчество молодых: материалы II Региональной научно-практической конференции ведущих специалистов, аспирантов и студентов, Гомель, апрель 2002 г. / [редколлегия: А. Н. Кусенков (ответственный редактор) и др.]. — Гомель: ГГУ, 2002. — 99 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз.

### ПРЫКЛАДНЫЯ НАВУКІ. МЕДЫЦЫНА. ТЭХНАЛОГІЯ
### Медыцынскія навукі

Актуальные вопросы современной медицины и фармации: материалы 62-й итоговой научно-практической конференции студентов и молодых ученых университета, 22–23 апреля 2010 г. / [редколлегия: С. А. Сушков (председатель), Н. Г. Луд, С. Н. Занько]. — Витебск: ВГМУ, 2010. — 474 с. — Часть текста на белорусском языке. — 120 экз. — ISBN 978-985-466-390-6.

Белорусский государственный медицинский университет (Минск). Труды молодых ученых, 2010: сборник научных работ / Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет; под общей редакцией С. Л. Кабака. — Минск: БГМУ, 2010. — 162 с. — Часть текста на английском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-528-220-5.

### Анатомія. Анатомія чалавека. Параўнальная анатомія

Амвросьева, С. П. Скелет и его соединения. Биомеханика суставов: пособие: [для студентов] / С. П. Амвросьева, Б. В. Лысый; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка. — Минск: БГПУ, 2010. — 79 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-501-886-6.

Анатомия человека: учебно-методический комплекс для студентов специальности 1-03 02 01 «Физическая культура»: в 2 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет; авторы-составители: К. Д. Михайлова, А. Н. Ильницкий. — 2-е изд. — Новополоцк: ПГУ, 2010. — 60 экз. — ISBN 978-985-531-088-5.

Ч. 1. — 230 с. — ISBN 978-985-531-089-2.

Ч. 2. — 219 с. — ISBN 978-985-531-090-8.

Гладышева, М. К. Читаем тексты по анатомии: учебно-методическое пособие: [для студентов факультета иностранных учащихся] / М. К. Гладышева, Н. Н. Людчик; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра белорусского и русского языков. — Минск: БГМУ, 2010. — 85 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-528-218-2.

Пивченко, П. Г. Портокавальные и каваковальные анастомозы и их клиническое значение: учебно-методическое пособие: [для студентов] / П. Г. Пивченко, В. В. Руденок, Т. В. Сахарчук; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра нормальной анатомии. — Минск: БГМУ, 2010. — 14 с. — 130 экз. — ISBN 978-985-528-219-9.

### Фізіялогія. Фізіялогія чалавека. Параўнальная фізіялогія

Нормальная физиология: курс лекций для студентов лечебно-профилактических и стоматологических факультетов медицинских вузов / В. И. Кузнецов [и др.]; под редакцией В. И. Кузнецова; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Витебский государственный медицинский университет. — 3-е изд. — Витебск: ВГМУ, 2010. — 612 с. — 90 экз. — ISBN 978-985-466-398-2.

Рогожников, О. Н. Физиологические и гигиенические аспекты здоровья человека: 9-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / О. Н. Рогожников; Национальный институт образования. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2010. — 118 с. — 3600 экз. (1-й з-д 750). — ISBN 978-985-471-401-1.

Синелева, М. В. Обмен веществ, пищеварение, питание: учебно-методическое пособие по курсу «Нормальная физиология»: [для студентов] / М. В. Синелева, Л. Г. Блиняева ; Министерство образования Республики Беларусь, Международный государственный экологический университет им. А. Д. Сахарова, Факультет экологической медицины, Кафедра экологической медицины и радиобиологии. — Минск: МГЭУ, 2010. — 35 с. — 58 экз. — ISBN 978-985-6931-36-2.

### Гігіена ў цэлым. Асабістая гігіена і здароўе

Белоногов, И. А. Гигиена труда в парках и мастерских: учебно-методическое пособие: [для курсантов] / И. А. Белоногов, В. И. Дорошевич, Д. И. Ширко; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусский государственный медицинский университет, Кафедра военной эпидемиологии и военной гигиены. — Минск: БГМУ, 2010. — 27 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-528-208-3.

Все для новорожденных: справочник-навигатор / [редактор Елена Таборова]. — Минск: Туринфо, 2010. — 46 с. — 6000 экз.

Круз, Х. Отличное здоровье и снижение веса за 8 минут в день / Хорхе Круз; [перевел с английского В. М. Боженов]. — Минск: Попурри, 2010. — 271 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1197-2.

Тело требует красоты / [перевод с английского выполнила Ю. Е. Андреева]. — Минск: Попурри, 2010. — 175 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1171-2.

Те, Р. Растяжка для здоровья = Five minute stretch: 5 минут в день / Роберт Те; [перевод с английского – А. В. Фурман]. — Минск: Попурри, 2010. — 106 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1182-8.

### Грамадскае здароўе і гігіена. Санітарыя. Засцярога ад няшчасных выпадкаў і іх папярэджванне

Бурдукевич, В. А. Права и гарантии молодым специалистам: методические рекомендации / [Бурдукевич В. А., Купрейчик Н. И.]; Белорусский профсоюз работников здравоохранения, Республиканский комитет. — Минск, 2010. — 51 с. — 5000 экз.

Загвоздкина, Т. В. Экстремальные ситуации и правила поведения при их возникновении: 9-й класс: пособие для учащихся общеобразовательных учреждений с белорусским и русским языками обучения / Т. В. Загвоздкина, Н. Н. Яковлева; Национальный институт образования. — Минск: Асар, 2010. — 50 с. — 4500 экз. — ISBN 978-985-6711-71-1.

Интегрированные системы безопасности: основные понятия, термины и определения: учебное пособие: [для курсантов и слушателей] / Министерство по чрезвычайным ситуациям Республики Беларусь, Гомельский инженерный институт, Кафедра «Пожарная аварийно-спасательная техника»; [составитель Ю. А. Волков]. — Минск: Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности МЧС Республики Беларусь, 2010. — 64 с. — 110 экз. — ISBN 978-985-6956-02-0.

Лихтарович, Е. Е. Основные фонды организаций здравоохранения: анализ и эффективность использования: учебно-методическое пособие / Е. Е. Лихтарович, О. А. Кульпанович; Министерство здравоохранения Республики Беларусь, Белорусская медицинская академия последипломного образования, Кафедра экономики и бухгалтерского учета в здравоохранении. — Минск: БелМАПО, 2010. — 57 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-499-424-6.

Маврищев, В. В. Радиоэкология и радиационная безопасность: пособие для студентов вузов / В. В. Маврищев, А. Э. Высоцкий, Н. Г. Соловьева. — Минск: ТетраСистемс, 2010. — 207 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-536-077-4.

Пожарная безопасность в строительстве: учебно-методический комплекс для студентов строительных специальностей / Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет; составление и общая редакция Н. С. Дмитриченко. — 2-е изд. — Новополоцк: ПГУ, 2010. — 339 с. — 87 экз. — ISBN 978-985-531-071-7.

Пожарно-техническое и аварийно-спасательное оборудование: учебное пособие для курсантов и слушателей высших учебных заведений по специальности «Предупреждение и ликвидация чрезвычайных ситуаций»: в 2 ч. / [Б. Л. Кулаковский и др.]; под редакцией Б. Л. Кулаковского; Командно-инженерный институт МЧС Республики Беларусь. — Минск: Республиканский центр сертификации и экспертизы лицензируемых видов деятельности МЧС Республики Беларусь, 2009–2010. — ISBN 978-985-90175-5-1.

Ч. 2. — 2010. — 296 с. — 609 экз. — ISBN 978-985-6956-01-3. — ISBN 978-985-901-755-1 (ошибоч.). — ISBN 978-985-685-601-3 (ошибоч.).

У Мінску адбылася прэзентацыя эксклюзіўнага арт-праекта — перакіднога насценнага календара на 2011 год "Мастакі Беларусі". Ён рэалізаваны групай сучасных айчынных мастакоў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Цэслера і пры садзейнічанні ААТ "Беларускі народны банк". Каляндар быў задуманы як нагляднае падвядзенне вынікаў работы банка па падтрымцы беларускага мастацтва на працягу гэтага года. Сярод такіх мерапрыемстваў былі дапамога ў арганізацыі выступлення ў Палацы Рэспублікі Грузінскага нацыянальнага балета "Сухішвілі", падтрымка выхаду літаратурна-мастацкага ілюстраванага выдання "Маналог", удзел у арганізацыі сумеснай выстаўкі "Толькі асабістае" грузінскага і беларускага фотамастакоў Арчыла Кікодзэ і Уладзіміра Парфянка…



# Змяняецца месяц — мяняецца стыль!

Па прапанове кіраўніка праекта Уладзіміра Цэслера ў стварэнні календара былі задзейнічаны дванаццаць знакавых для культурнай прасторы Беларусі мастакоў. Падчас прэзентацыі У. Цэслер падкрэсліў, што да ўдзелу былі запрошаны адны з лепшых айчынных самабытных мастакоў, розных па ўзросце і стылістыцы. Бо хацелася ахапіць як мага больш відаў і жанраў мастацтва. Творца спадзяецца, што не будуць крыўдаваць тыя, хто не трапіў у каляндар. Уладзімір Цэслер падзякаваў кіраўніку банка, які, у адрозненне ад айчынных бізнесменаў, выяўляе пастаянную цікавасць да беларускага мастацтва, гатовы не толькі падтрымліваць разнастайныя праекты ў гэтым кірунку, але і прапаноўваць да рэалізацыі свае ўласныя ідэі.

Кожны з мастакоў прадстаўляе месяц года, у які ён нарадзіўся. Удзельнікі праекта адабралі для яго па адной са сваіх работ. Гэтыя творчыя аб'екты выкарыстоўваліся ў афармленні старонак, адпаведных месяцу нараджэння аўтара. У дадатак Уладзімір Цэслер распрацаваў унікальную каляндарную сетку для кожнага з дванаццаці месяцаў, якая дазволіла аб'яднаць усе работы ў адно цэлае.

Да ўдзелу ў праекце былі прыцягнутыя аўтары, якія працуюць у самых розных кірунках сучаснага мастацтва — ад традыцыйных пейзажаў Івана Дмухайлы да экспрэсіўных абстракцый Зоі Луцэвіч, ад зграбна-далікатных лялек Ганны Балаш да тэхнагенных фантазій Аляксандра Некрашэвіча. На адваротным баку кожнай старонкі пададзена творчая біяграфія мастака, якому прысвечаны той ці іншы месяц. У выніку каляндар выступае своеасаблівым кароткім "гідам" па сучасным беларускім мастацтве. У адпаведнасці з месяцамі года тут прадстаўленыя наступныя творцы: Ігар Корзун, Руслан Вашкевіч, Зоя Луцэвіч, Уладзімір Цэслер, Ганна Балаш, Вольга Сазыкіна, Дзмітрый Сурыновіч, Аляксандр Ксяндзоў, Іван Дмухайла, Аляксандр Некрашэвіч, Зоя Літвінава і Вячаслаў Дубінка.

Генеральны дырэктар Беларускага народнага банка Канстанцін Цэрэтэлі зазначыў: "Ніводная з дванаццаці старонак календара не пакідае гледача абыякавым, нараджаючы ў яго эмоцыі, ацэнкі і параўнанні — davoлі разнастайныя і, магчыма, не заўсёды адназначныя. Так дасягаецца галоўная мэта, якую мы паставілі перад сабой, — паказаць сучаснае беларускае мастацтва ва ўсёй яго шматграннасці і складанасці і тым самым зламаць стэрэатыпныя ўяўленні пра яго. Я вельмі ўсцешаны, што сярод беларускіх мастакоў мы сустрэлі такую колькасць аднадумцаў, і выказваю ўдзячнасць кожнаму з іх за ўдзел у праекце. Таксама вельмі прыемна, што падчас работы над календаром нарадзілася вялікая колькасць цікавых ідэй, якія мы спадзяёмся рэалізаваць у будучыні ў выглядзе новых сумесных праектаў".

Тыраж календара абмежаваны — 500 экзэмпляраў, што ўжо цяпер дазваляе казаць пра яго як пра калекцыйную рэдкасць. На дадзены момант стаць уладальнікам эксклюзіўнага выдання могуць толькі пастаянныя кліенты і партнёры Беларускага народнага банка. Канстанцін Цэрэтэлі зазначыў, што не плануецца друкаваць каляндар дадатковым тыражом, бо пры масавасці губляецца каштоўнасць.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: Уладзімір Цэслер прэзентуе каляндар "Мастакі Беларусі"; Вячаслаў Дубінка "Курка і кураняты"; Ганна Балаш "Лялечка"; Вольга Сазыкіна "Злоўлены вецер"; Аляксандр Некрашэвіч "Чужая"; Зоя Літвінава "Балеро".

Фота аўтара











## Радуемся разам

У нашай сталіцы да 10 снежня праходзіць Пяты Міжнародны конкурс піяністаў "Мінск-2010". Удзельнічаюць у ім музыканты ва ўзросце ад 16 да 30 гадоў. Урачыстае адкрыццё конкурсу адбылося 25 лістапада ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, якім дырыжыраваў Андрэй Галанаў, і салістка, наша госця — народная артыстка Казахстана Жанія Аўбакірава выканалі Першы канцэрт мі мінор Фрыдэрыка Шапэна для фартэпіяна з аркестрам.



Гродзенскі мастак Алесь Суровы стварыў інсталяцыю "Сівая легенда. Прысвячэнне Уладзіміру Караткевічу". Яна ўразіла наведвальнікаў выстаўкі "Тэхна-Арт", якую зладзіла сталічная мастацкая галерэя "Універсітэт культуры" ў межах рэспубліканскага праекта "Зямля пад белымі крыламі".

Вядучая салістка НАВТ оперы і балета Беларусі Тамара Глаголева ў свой юбілейны вечар выступіла ў спектаклі "Баль-маскарад", выканаўшы партыю Амеліі. Сярод іншых "зорных" партый, у якіх раскрыўся багаты вакал і драматычны талент заслужанай артысткі Беларусі Т. Глаголевай, — вядома ж, Абігаіль у "Набука" Дж. Вердзі.



"Звычайна гэтак" назваў Валянцін Губараў выстаўку сваіх новых работ, што экспанавалася спачатку ў Баранавічах, затым у сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, а ўрэшце назаўжды з'ехала ў Францыю, дзе з 1994 года жывапісец мае эксклюзіўны кантракт з галерэяй "Les Tournesols". Наш знаны мастак, член БСМ і ганаровы член нямецкай мастацкай асацыяцыі "Шэдэўр" шмат гадоў супрацоўнічае з галерэямі Швейцарыі, Германіі, Францыі, ЗША, паспяхова ўдзельнічае ў вядомых замежных аўкцыёнах. А беларуская публіка не надта часта мае магчымасць убачыць творы В. Губарава. Тым больш уражвае герой яго карцін: шчырых, працятых і цеплынёй, і мяккай іроніяй, і шматзначным філасофскім сэнсам, — просты "маленькі" чалавек, з якім усё ў жыцці адбываецца так, як ва ўсіх звычайных людзей.

Прэм'ера спектакля Беларускага рэспубліканскага ТЮГа "Крыху пяшчоты" паводле п'есы італьянскага драматурга А. Нікалаі адбылася на сцэне сталічнага Дома літаратара. Пастаноўку, вызначаную як "карнавал на дзве дзеі без антракта", ажыццявілі рэжысёры У. Савіцкі, У. Забэла, мастак Л. Рулёва. Вірлівае жыццё, што паводле сюжэта п'есы разгортваецца ў доме састарэлых, дае магчымасць з новай сілай і напоўніцу раскрыцца акцёрскім індывідуальнасцям старэйшых тюгаўцаў: Л. Горцавай, В. Кавалеравай, Б. Барысёнка, І. Шрубейкі...

Лана ІВАНОВА

На здымках: інсталяцыя Алеся Суровага; Валянцін Губараў "Урок сальфеджыа".

Фота аўтара

# «Маё кіно» Анатоля Красінскага

Даследчыку гісторыі беларускага кіно і сучаснага кінапрацэсу, доктару мастацтвазнаўства Анатолю Красінскаму споўнілася 80. Яго імя для нас не толькі асацыіруецца са значным перыядам гісторыі беларускай культуры, з грунтоўнымі старонкамі калектыўных манаграфій ці аўтарскімі кнігамі пра кіно. Яго імя вызначае для нас годны ўзровень айчыннага кіназнаўства і мастацкай крытыкі ў "ЛіМе" другой паловы мінулага стагоддзя. Эрудзіраваны, інтэлігентны спецыяліст, адораны дасціпным і вобразным мысленнем, назіральны і разважлівы вучоны з творчым дарам эмацыянальнага і тонкага рэцэнзента — такому чалавеку проста наканавана было стаць нашым аўтарам! Анатоль Віктаравіч, які пачаў друкавацца ў перыёдыцы з 1952 года, супрацоўнічаў з "ЛіМам" на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, пісаў для нас, па просьбе рэдакцыі, нават размяняўшы восьмы дзясятак. Мы, маладзейшыя, зважалі толькі на яго досвед, майстэрства, жвавасць думкі, культуру пісьма і не цікавіліся біяграфіяй. Не цікавіліся — пакуль у 1986 годзе не выйшаў з друку трэці том "ЭліМБел": убачылі там знаёмае прозвішча і прачыталі, што Анатоль Красінскі, ураджэнец Кругляншчыны, атрымаў бліскучую прафесійную адукацыю, скончыўшы ў 1955-м славуты ВГІК — Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. Папрацаваўшы пару гадоў на "Беларусьфільме", пайшоў у навуку, з часам узначаліў сектар кіно Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі... Сёння шаноўны юбіляр адказвае на пытанні нашага карэспандэнта.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, рэдактар аддзела мастацтваў



— Паважаны Анатоль Віктаравіч, з нагоды вашага юбілею варта прыгадаць асноўныя вехі мінулых гадоў.

— Мне здаецца, у жыцці чалавека, пакуль ён існуе, усе вехі галоўныя. Што ж датычыць лёсу, дык, відаць, вылучаюцца тыя гады, якія можна аднесці да яркіх, незабыўных, вызначальных. Гэта навучанне ў 50-я гады ў інстытуце кінематаграфіі ў Маскве, абарона там жа кандыдацкай і доктарскай дысертацый, удзел у працы Вучонага Савета па абароне дысертацый у гэтым жа інстытуце, сувязь — зблізку і "ўпрыглядку" — з многімі нешараговымі асобамі, спрычыненымі да мастацтва. Многае ў гэтым сэнсе звязана з маёй грамадскай працай у Саюзе кінематаграфістаў БССР у якасці сакратара праўлення, затым яго старшыні, члена праўлення СК СССР.

— Людзі, якія паўплывалі на ваш светапогляд, здзівілі, уразілі, змянілі жыццё?

— Першым апанентам маёй кандыдацкай дысертацыі быў легендарны Леў Куляшоў, рэжысёр, які наогул належыць да заснавальнікаў кінематографа як мастацтва. Гэты факт звычайна выклікае здзіўленне, бо сведчыць не толькі пра тое, як даўно гэта адбывалася, але выклікае і недавер: чаму, маўляў, вялікі кінамайстар сусветнага маштабу зацікавіўся нейкім навуковым даследаваннем малавядомага беларускага кінамастацтва? Скажу, у той час нічога дзіўнага ў такім учынку не было, бо панаваў шырокі погляд на ролю кінамастацтва як з'яву ўсесаюзную. Гэта датычылася і кіназнаўства. Сярод людзей, якія аказалі на мяне дабратворнае ўздзеянне, безумоўна, Юрый Тарыч, сустракаліся з ім неаднаразова, педагогі Расціслаў Юрэнеў, Іосіф Далінскі.

— Галоўныя кнігі, якія напісалі, — гэта…

— Сумесна з калегамі створана гісторыя кіно ў Беларусі. Спадзяюся, што ў цэлым яна выкладзена аб'ектыўна. І розныя спробы прадставіць яе чытачу, і ў розныя часы, выліліся ў чатыры ёмістыя тамы.

— Раскажыце, калі ласка, пра падзеі, удзелам у якіх вы асабліва ганарыцеся.

— Па маёй просьбе кіраўніцтва СК СССР камандзіравала мяне ў Манголію з мэтай даведацца пра ўнёсак нашага Юрыя Тарыча ў станаўленне кінематаграфіі Манголіі. Факт быў вядомы, але не хапала падрабязнасцей дзейнасці рэжысёра. Там я сустрэўся з маім сябрам па кінаінстытуце Джорпаламам і з яго дапамогай наладзіў кантакты з тымі, хто непасрэдна працаваў з Тарычам. Цікавая старонка творчай біяграфіі майстра.

Цешу сябе надзеяй, што мой неаднаразовы аналіз (у дакладах, выступленнях, кіназнаўчых працах) творчай дзейнасці нашай кінастудыі ў нейкай ступені станоўча ўплываў на тое, што гучна завецца кінапрацэсам. Таленавітых людзей часам даводзілася адстойваць — з поспехам і без поспеху. Лічу сваёй заслугай, што сусветна вядомы кінематаграфіст Уладзіслаў Старэвіч, і маімі намаганнямі, нарэшце заняў трывалае месца сярод славутых творцаў — нашых суайчыннікаў. Хопіць ужо "абзываць" беларуса Старэвіча то французам, то рускім, то палякам, то літоўцам.

— Чаго, на ваш погляд, не хапае сучаснаму беларускаму кінематографу?

— Апошнім часам Нацыянальная кінастудыя "Беларусьфільм" жыла імкненнем пашырыць вытворчасць мастацкіх фільмаў з мэтай дасягнення ў гэтай справе колькасных поспехаў лепшых мінулых часоў. Тут ёсць свае вынікі. А што да якаснага боку, г.зн. творчага, тут прыкметныя з'явы знайсці цяжкавата, калі не сказаць больш катэгарычна. Хваля разбурэння 1990-х выплюхнулася і ў гады нулявыя. Вытворчыя магчымасці пакуль наяўна не стасуюцца з творчымі. Наогул, з адыходам з кінасцэны тых, каго мы называлі "дзецьмі вайны" (прыкладам, рэжысёры-пастаноўшчыкі: В. Тураў, Б. Сцяпанаў, І. Дабралюбаў, В. Чацверыкоў, В. Рубінчык, В. Рыбараў, В. Нікіфараў, зразумела — М. Пташук, кінадакументаліст В. Дашук), з усёй відавочнасцю выявіўся вялікі творчы недахоп сучаснага беларускага кінамастацтва. Наша сённяшняя манера раз-пораз узнагароджваць пасрэдныя кінастужкі ўсялякімі прызамі на Бярдзянскім і іншых кінафестывалях, а па тэлебачанні адносіць некаторыя з іх да так званай "Залатой калекцыі "Беларусьфільма", скажаюць сапраўдную сутнасць справы. Глядач гэта адчувае, таму мясцовае кінамастацтва, будзем справядлівымі, не мае аўтарытэту ў народзе. Людзі не лічаць яго сваім, у тым самым вялікім сэнсе, што яно менавіта маё, роднае, з майго краю. Гэтае адчуванне "маё кіно" нясуць многія дакументальныя стужкі аб'яднання "Летапіс", іграваое кіно — не. Фільмаў высокай творчай пробы амаль няма. А такія рэдкія ўдачы, як, скажам, ужо даволі даўняя, сумесная з расійскімі кінематаграфістамі кінапастаноўка "У жніўні 44-га" М. Пташука ці новая карціна "Ваўкі" А. Колбышава, не выводзяць за дужкі надзвычай актуальную праблему — нізкі творчы ўзровень сучаснага беларускага кінамастацтва. У параўнанні з няроўнымі, але маладымі 1960-мі ці 80-мі гадамі сённяшняе наша мастацкае кіно паўторнае, другараднае. Яшчэ ў 90-я гады адзначалася: прыйшла, маўляў, эпоха рэжысёраў другасных (другарадных). Відаць, гэтая паравіна ў нашым мастацкім кіно працягваецца. Мы з вамі нярэдка з'яўляемся міжвольнымі сведкамі "гульні на павышэнне". Іншымі словамі, ніжэйшае часта выдаецца за вышэйшае. Каштоўнасная мяжа вельмі размытая.

Але хачу зноў вярнуцца да фестывальных гульняў у суправаджэнні "Залатых калекцый". Наогул, кажучы шчыра, такога кшталту кінавясёласці на пустым месцы заслугоўваюць сатырычнага пяра ў духу незабыўнага Салтыкова-Шчадрына. Але тут жа спрабую аднесці гэта да ўласнай старэчай капрызлівай пераборлівасці. Усё мне не так, а няхай жа людзі весяляцца, калі ёсць падстава. Але зноў жа скубе думка: маўляў, займацца падтасоўваннем нядобра, падсоўваючы гледачу недабраякасны тавар пад выглядам высакаякаснага… Пачынаю тут жа займацца самакрытыкай, успамінаючы некаторыя сітуацыі: прамаўчаў жа і тады, і тады, калі, адпаведна сумленню, трэба было б назваць рэчы сваімі імёнамі: сцэнарыста — графаманам, рэжысёра — дзялком, дзялягам, г.зн. — "творцамі", якім трэба займацца нечым іншым, а не мастацтвам. А як жа быць з "правилами хорошего тона"?

— Як вы ахарактарызуеце сённяшні дзень Саюза беларускіх кінематаграфістаў?

— Ад нашага Саюза кінематаграфістаў засталіся толькі назва і ўспаміны. Сёння саюз, у адрозненне ад мінулых гадоў, калі ён быў складнікам арганізацыі ўсесаюзнай і яго дзейнасць значна ўплывала на творчасць і побытавы бок жыцця кінематаграфістаў, ледзь ліпее. Ці можна яго ўзнавіць у сённяшніх умовах? Цяжкае пытанне. Чаму рашэнне стварыць у Мінску Дом кіно звялося, па сутнасці, да атрымання кінатэатрам "Партызан" новай назвы? Усім зразумела, што Дом кіно павінен належаць кінематаграфістам, а гэта значыць іх саюзу. Сітуацыю можна вывесці з тупіка, падключыўшы сродкі кінапракату. У яго, як вядома, на галоўным месцы амерыканскае кіно, даходы ад якога самыя вялікія. Французскія ўлады, як сведчыць друк, нейкі працэнт з прыбытку ад паказу заакеанскіх кінастужак накіроўваюць на патрэбы свайго нацыянальнага кінамастацтва. Чаму ж нам не пераймаць такі вопыт і скіраваць хоць самы маленькі крок на падтрымку кінематаграфічнага саюза, зрабіць яго паўнаўладным гаспадаром Дома кіно? Зразумела, тут непазбежныя ўсялякія фармальнасці. Але, мяркую, іх можна пераадолець, калі такое рашэнне будзе прынята на ўрадавым узроўні.

— Што хацелі б перайначыць, калі б была магчымасць вярнуцца "на машыне часу" ў мінулыя гады?

— Вельмі складанае пытанне. Зразумела, многае з мінулага, дзякуючы вялікаму жыццёваму досведу, сёння выглядае па-іншаму… У кожнага часу, у кожнага ўзросту свая логіка паводзін, учынкаў. Людзі, дасведчаныя ў маёй біяграфіі, часам пытаюцца, чаму не застаўся ў Маскве, у кінаінстытуце, бо такая магчымасць была, — прапанова рэктара. Лічу, і заўсёды лічыў, напрамак на родную Беларусь быў абраны правільна.

— Над чым працуеце сёння?

— Мяне калегі і сябры ўсё падштурхоўваюць заняцца мемуарамі. А сёння мора такіх выданняў, хто толькі ні выпускае кніжак успамінаў. Праўда, і мы, старэйшыя кінематаграфісты, час ад часу займаемся чымсьці падобным па запрашэнні тэлебачання. Магчыма, ваша пытанне прымусіць мяне больш уважліва паставіцца да гэтай праблемы.

Гутарыла Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымку: доктар мастацтвазнаўства Анатоль Красінскі.

# Калядаваць... па-опернаму



З 7 па 12 снежня ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі пройдзе першы Мінскі міжнародны Калядны оперны форум. Яго заснавальнікі — Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт, Міністэрства культуры краіны, НАВТ оперы і балета.

У аматараў высокага мастацтва ёсць шанц накалядаваць поўны мех святочнага настрою, свежых і выбітных эстэтычных уражанняў, прыемных знаёмстваў. А ці можа быць інакш, калі новы творчы праект збірае на мінскай сцэне вядучых айчынных салістаў і сусветных оперных зорак, абяцае выбітную праграму шасці музычна-тэатральных вечароў, творчыя сустрэчы з гасцямі нашай краіны. І нават — "круглы стол" з удзелам беларускіх ды расійскіх музычных і тэатральных крытыкаў, журналістаў, у ліку якіх — Алена Траццякова, Гюляра Садых-задэ, Марына Гайковіч, Андрэй Усцінаў, Дзмітрый Марозаў...

Вядома ж, нашых чытачоў перадусім цікавіць змест афішы Мінскага міжнароднага Каляднага опернага форуму. Што ж, звярніце ўвагу і рабіце выбар, калі толькі не плануеце пакалядаваць напоўніцу і наведаць усе шэсць вечароў у Вялікім тэатры.

Такім чынам, 7 снежня — мінская пастаноўка "Набука" Дж. Вердзі. Поруч з нашымі салістамі Станіславам Трыфанавым (Набука), Кацярынай Галаўлёвай (Абігаіль) ды Аксанай Волкавай (Фенэна) выступіць выбітны спявак з Сербіі Браніслаў Яціч (Захарыя) ды знакаміты іспанскі тэнар Хорхе Пердзігон (Ізмаіл). Спектакль пройдзе пад кіраўніцтвам знанага літоўскага маэстра Гінтараса Рынкявічуса. Наступным вечарам — "Кармэн" Ж. Бізэ. Таксама знаёмая нам пастаноўка, лепшыя беларускія выканаўцы, але ў галоўных партыях — госці: салістка Маскоўскага акадэмічнага Музычнага тэатра імя К. С. Станіслаўскага і У. І. Неміровіча-Данчанкі Ларыса Андрэева (Кармэн), саліст Марыінскага тэатра з С.-Пецярбурга Ахмед Агадзі (Хазэ), саліст Марыінскага тэатра і Вялікага тэатра Расіі Уладзіслаў Сулімскі (Эскамільё), а за дырыжорскім пультам — расіянін Фелікс Корабаў. А далей — сузор'е беларускіх салістаў у нядаўняй мінскай прэм'еры "Тоскі" Дж. Пучыні, пад кіраўніцтвам госця з Азербайджана Ялчына Адзігезалава. Вердзіеўская "Травіята" — спектакль Латвійскай Нацыянальнай Оперы. "Севільскі цырульнік" Дж. Расіні ў версіі Маскоўскага тэатра Новая Опера імя Я. Колабава — з беларускім дырыжорам Вячаславам Волічам.

Магутным апафеозам форуму прагучыць 12 снежня гала-канцэрт зорак сусветнай опернай сцэны. Праграму, у якой значацца такія гучныя імёны, як Маквала Касрашвілі, Зураб Саткілава, Людміла Шамчук, Аваз Раджабаў (усіх не пералічыць!) праўдзе галоўны дырыжор нашага тэатра Віктар Пласкіна.

Лана ІВАНОВА

На здымку: салістка Маскоўскага акадэмічнага Музычнага тэатра імя К. С. Станіслаўскага і У. І. Неміровіча-Данчанкі Ларыса Андрэева ў партыі Кармэн.

Загадка паэзіі (а сапраўдная паэзія заўсёды — загадка), магчыма, палягае ў тым, што яна характарызуецца і адметная не толькі значэннем, семантыкай слова, але ў аднолькавай ступені і гучаннем верша ў гармоніі сэнсавага вобраза і гучання радка. Загадка паэзіі, магчыма, у тым, што як літаратурны жанр паэзія — гэта гукасэнсавая з'ява. Загадка паэзіі Максіма Багдановіча здзіўляе новымі вобразамі з адбіткам патаемных пачуццяў і жаданняў, самых інтымных перажыванняў. У ёй — хвалюючыя радкі, заўсёды новая, геніяльная камбінацыя слоў, што здзіўляе сваёй прыгажосцю, наўздзіў выключным эмацыянальным багаццем і ў той жа час — пластычнасцю метафар, музычнасцю рытму. Можна з вялікай пэўнасцю сцвярджаць, што далёка не кожны перакладчык здольны не разгубіцца перад такімі радкамі: іхняя чароўнасць адразу спыняе нават спрактыкаванага і віртуознага майстра. І тым не менш…

# Узнаўленне гармоніі гукаў


Малюнак Алесі Ісы.

Возьмем найвыдатнейшы Багдановічаў "Раманс", які стаў даўно па-сапраўднаму народнай песняй, калі хочаце, беларускім гімнам каханню. Услухаемся ў гучанне "Раманса" на балгарскай мове:

Кротко Венера
изгря над земята,
в спомени светли
душата замря...
Помниш ли — срещнах се с теб,
и в тъмата
кротко Венера изгря.

Гучыць "Раманс" Максіма Багдановіча... У сафійскай мансардзе, пад дахам высокага дома на вуліцы Эдысона. Гучыць на іншай мове, над іншай зямлёй "узыходзіць" зорка Венера Максіма Багдановіча...

Гэтак жа, як і ўрачысты харал, хвалюючы ўзвышана, светла і сумна, раманс ірвецца ў неба, гукі яго зліваюцца, быццам душы закаханых, у паднябессі. І заміраюць... Здаецца: штосьці нябачнае і моцнае, чароўнае падымае цябе аж да неба, і сам станавішся гукам гэтай урачыста харальнай гармоніі нябеснага песняспеву, які ўваскрашае самыя да кволасці далікатныя і самыя патаемныя пачуцці чалавечага сэрца...

Такое новае жыццё набыў "Раманс" Максіма Багдановіча ў новым нацыянальным асяроддзі.

Седзячы ў гэтай утульнай сафійскай мансардзе-кабінеце Хрыста Папова, балгарскага перакладчыка Максіма Багдановіча, у якой разам з чароўнымі гукамі "Раманса" пасяліўся дух беларускага паэта, я зразумела: няма найвышэйшай пахвалы для перакладчыка, як тая, што яму ўдалося пераўвасобіць твор іншамоўнага паэта (прычым такога рангу, як Максім Багдановіч) так, што яго пераклад гучыць як арыгінал, і гэтак жа, не парушаючы дасканалую гармонію гукаў, яго можна спяваць на іншай мове, як сапраўдны раманс.

Не кожны можа быць перакладчыкам такога твора, як Багдановічаў "Раманс", сімвал узвышанага кахання, паэтычны гімн беларускай нацыянальнай душэўнасці, паэтычная святыня беларусаў. І не толькі смеласць тут патрэбна, не толькі сталае майстэрства, але і зусім асаблівы дар інтэрпрэтатара-віртуоза, здольнасць пранікаць у глыбінную сутнасць іншай нацыянальнай культуры, іншай чалавечай душы, уменне спасцігнуць, зберагчы і пераўвасобіць "магію" слова.

Якім жа чынам удалося зрабіць гэта Хрыста Папову?

У перакладчыцкім "кодэксе" ёсць свае законы. Французскі літаратуразнаўца Эцьен Дале лічыць, што першым законам для перакладчыка з'яўляецца набліжэнне да аб'ектыўнай рэальнасці арыгінала, што "толькі авалодаўшы ўсімі сродкамі выразнасці, можна дасканала перадаць сэнс і матэрыю твора".

Што такое "аб'ектыўная рэальнасць арыгінала"? Гэта і ёсць "сэнс" і "матэрыя" твора, што перакладаецца. Адно з першых і самых галоўных патрабаванняў да перакладчыка — гэта сэнсавая дакладнасць перадачы арыгінала. Прасочым, наколькі дасягнуў гэтага балгарскі перакладчык.

Звернемся да так званых "сэнсавых адзінак":

У Багдановіча:

/1/ Зорка /2/ Венера /3/ ўзышла /4/ над /5/ зямлёю, /6/ Светлыя /7/ згадкі /8/ з сабой /9/ прывяла... /10/ Помніш, /11/ калі /12/ я /13/ спаткаўся /14/ з табою, /15/ Зорка /16/ Венера /17/ ўзышла.

Колькі іх захавалася ў балгарскім перакладзе Хрыста Папова?

/1/ Кротко /2/ Венера изгря /3/ над /4/ земята, /5/ в спомени /6/ светли душата замря... /7/ Помниш ли — /8/ срещнах се /9/ с теб — и в тъмата кротко /10/ Венера /11/ изгря.

Як бачна, з сямнаццаці сэнсавых адзінак арыгінала ў перакладзе перададзены толькі адзінаццаць. Замест прапушчаных шасці перакладчык дадаў сем: зорка — кротко; з сабой, прывяла — в, душата, замря; калі, я — и, в тъмата; зорка — кротко.

Не кожны можа быць перакладчыкам такога твора, як Багдановічаў "Раманс", сімвал узвышанага кахання, паэтычны гімн беларускай нацыянальнай душэўнасці, паэтычная святыня беларусаў. І не толькі смеласць тут патрэбна, не толькі сталае майстэрства, але і зусім асаблівы дар інтэрпрэтатара-віртуоза, здольнасць пранікаць у глыбінную сутнасць іншай нацыянальнай культуры, іншай чалавечай душы, уменне спасцігнуць, зберагчы і пераўвасобіць "магію" слова.

Выходзіць, не зусім "дакладна" перакладчык перадаў сэнс арыгінала.

Тут якраз да месца прывесці адзін з рускіх варыянтаў "Раманса":

/1/ Зорка /2/ Венера /3/ взошла /4/ над /5/ землёю, /6/ Воспоминанья /7/ с собой /8/ привела, /9/ Помнишь, /10/ при нашем знакомстве /11/ с тобою, /12/ Зорка /13/ Венера /14/ взошла.

Пераклад Б. Спрынчана

Рускаму перакладчыку ў нечым пашанцавала, ён перадаў больш сэнсавых адзінак, апусціўшы толькі тры з іх. Але зорка ў рускай мове мае зусім інакшае значэнне, і таму перакладчыку давялося тлумачыць сэнс гэтага беларускага слова дадаткова, у зносцы, што само па сабе ўжо сведчыць пра недасканаласць перакладу. Ці варта гаварыць і пра тое, што згубіліся Багдановічавы адценні і ў наступных перакладчыцкіх заменах: при нашем знакомстве с тобою замест калі я спаткаўся з табою, воспоминанья замест светлыя згадкі. Альбо: Буду в далеком краю на Венеру / С грустью смотреть я... Любовь затаю... В сердце лелеять надежду и веру. Перакладчыку спатрэбілася двойчы скарыстаць шматкроп'е, прапусціўшы дзве вельмі важныя сэнсавыя адзінкі нудзіцца і ў сэрцы. І хаця перакладчыцкія рыфмы Венеру — веру, затаю — краю нясуць, трэба сказаць, значную эмацыянальную нагрузку, кампенсаваць гэтым страты пры перадачы Багдановічавай танальнасці ў рыфме нудзіцца — дзівіцца цяжка. І, нягледзячы на ўсё гэта, "всходит зорька Венера" над зямлёю, але недзе, так няўлоўна, не хапае Багдановічавай душэўнасці, парушана мяккая, трапяткая танальнасць раманса.

Варта дадаць, што ў другім, перапрацаваным варыянце рускі перакладчык паправіў Зорка Венера... на Ярко Венера… Ужо, значыць, няма неабходнасці тлумачыць рускаму чытачу, што такое па-беларуску зорка, але, з другога боку, "ярко" не дае ўяўлення пра тое, як узыходзіць гэта зорка надзеі. Да таго ж, для М. Багдановіча не характэрныя яркія фарбы, тым больш у гэтым рамансе.

Але вернемся ізноў да балгарскага перакладу. Ці ўдаецца Х. Папову кампенсаваць "згубленыя" сэнсавыя адзінкі? У яго Венера ўзыходзіць кротко. Можна было б на балгарскую перакласці проста і адпаведна сучаснаму маўленню — звезда Венера, прычым не згубіўшы дзвюх сэнсавых адзінак. Над гэтым вобразам (відаць, не проста вобразам, а вобразам-сімвалам) Х. Папоў, па яго ж прызнанні, разважаў доўга. Можна было б выкарыстаць: ярко, светло, рано, късно (я наўмысна не перакладаю гэтыя словы на беларускую мову, яны — агульнаславянскія, розніца хіба толькі ў вымаўленні, праўда, на апошнім можна спыніцца: късно азначае позна). Але не. Венера ў Багдановіча, па яго ўяўленні, — разважае перакладчык, — можа ўзысці толькі менавіта кротко (г.зн. лагодна, ціха, рахмана).

Перакладчык тут успрымае слова не толькі як асобную сэнсавую адзінку, а наогул усю дынаміку яго ўзаемадзеяння з

У паняцце "сэнс твора" ўваходзіць не толькі слова як "сэнсавая адзінка", але і аўтарскае бачанне свету, выказанае словам, а ў паняцце "матэрыя твора" — не толькі гукавая арганізацыя маўлення, не толькі метрыка і рытміка, рыфміка і строфіка, але і штосьці іншае, што складае сапраўды таемнасць паэзіі: славесная і музычная стыхія, спантаннасць паэтычнага слова, яго гучанне ў думках і гуках адначасна, экспрэсіўнасць усёй сістэмы выяўленчых сродкаў — усё тое, што завецца магіяй, цудам мастацкага слова.

іншымі сэнсавымі адценнямі твора. Да прыкладу, ён мяняе важную сэнсавую адзінку ў арыгінале з сабой прывяла на іншую, на першы погляд, далёкую — душата замря. Гэта значыць — душа замерла ад успамінаў, светлых згадак. Сапраўды ж, яна замірае ў самога паэта.

У паэзіі, як вядома, існуе сувязь паміж значэннем слова і яго гучаннем. Таму глянем цяпер на гэты бок — гукавы. Як жа ў перакладзе пераўвасоблена тая асаблівая, непераймальная музычнасць шэдэўра беларускай паэзіі, яго гукавая аранжыроўка ці тое, што літаратуразнаўцы называюць гукапісам. Уласна кажучы, гэтая тэма — якраз размова пра "матэрыю твора", пра якую гаварыў згаданы Эцьен.

Звернемся ізноў жа да першага чатырохрадкоўя і паглядзім, як у агульнай сістэме эўфаніі (гукавая арганізацыя маўлення) размешчаны гукі ў паслядоўных гукарадах — бяром тыя гукі, якія паўтараюцца ў пачатку ці ў канцы слова і ў націскным складзе.

Арыгінал:

З - р - а - р - а - з - а - а – з / с - з - з – с / о - и - и - т - т - о / з - р - а -р - з - а

Пераклад:

к - р - к - р -а -з -а - а - з / с - и - с - и - а - а - а - а / и - и - е -е - е - и -а - а / к - р - к - р - а - з

Параўноўваючы арыгінал і пераклад, бачым колькаснае супадзенне ці несупадзенне пэўных гукаў: з — 7-4, р — 4-4, а — 6-8, с — 2-3, о — 2-0, т — 2-0, к — 0-4, н — 0-4.

Чытач, відаць, тут даруе. Тэорыя вершаскладання наогул любіць такія вось канкрэтныя падлікі. Каб не падацца надта педантычнымі з такой "матэматыкай" і паказаць, што ўсё гэта нездарма, трэба заўважыць наступныя акалічнасці.

У агульнай сістэме гармоніі верша гукі надзвычай актыўна ўдзельнічаюць. Напрыклад, гук з у слове зорка ўтварае ў першым двухрадкоўі анафару (зорка... узышла... зямлёю... згадкі... з сабой). Пераклад, заўважым, тут — поўны эквівалент арыгіналу, хаця слова зорка адсутнічае: изгря... земята... замря.

Гук а ў слове зорка ізноў жа ў першым двухрадкоўі ўтварае эпіфару (зорка Венера ўзышла... прывяла). Прычым у слове ўзышла — стык галосных а (узышла над). У перакладзе, дарэчы, гук а ў слове Венера ўтварае ў адным двухрадкоўі два стыкі (Венера... над, душата замря) і эпіфару (Венера... земята, душата).

Гэтак жа можна было б прааналізаваць перадачу і іншых гукаў. Выснова была б адзіная: пераклад, калі ён удалы, у асноўным паўтарае гукапіс арыгінала, а калі нешта нельга перакласці без страт, дык перакладчык ці паблізу, ці ў іншым месцы пэўным чынам знаходзіць замену менавіта раўнацэнную.

Найбольш складанай, напрыклад, лічыцца перакрыжаваная сістэма алітэрацыі і асанансу, калі спачатку з'яўляецца адзін гук, потым другі, трэці і г.д. і зноў паўтараецца першы, другі... У тым, што М. Багдановіч часта звяртаецца да гэтай складанай, але асабліва прыгожай і зграбнай эўфаніі, няцяжка пераканацца на прыкладзе многіх яго вершаў. А як жа перакладчык дабіваецца адэкватнасці гучання, аўтарскай славеснай інструментоўкі? Звяртаючыся ізноў да канкрэтнага аналізу, бачым гэту сапраўды перакладчыцкую віртуознасць. У арыгінале ў першым гукарадзе ідзе з-р-а, потым ізноў яны паўтараюцца трохі ў інакшым парадку — р-а-з.

У перакладзе: спачатку з'яўляецца к, потым р-к-р, пасля гэтага ідзе а-з-а-з-а, к-р, а-з-а. Возьмем другі гукарад. У арыгінале: с-з-з-с. У перакладзе: и-и-е-е-и. Трэці гукарад: у арыгінале — о-и-и-о, у перакладзе — и-и-е-е-и. Такім чынам, перакладчык у асноўным захоўвае аўтарскую сістэму эўфаніі: усе чатыры перакрыжаваныя сугуччы ў перакладзе захаваны; анафарныя — па дзве ў арыгінале і перакладзе; эпіфарныя — таксама ёсць у перакладзе; стыкі — у арыгінале адзін, у перакладзе два; ронда — у арыгінале адно, два ў перакладзе.

Падагульняючы гаворку пра пераклад вершаванага твора, не лішне, відаць, заўважыць, што кожнае мастацтва мае два бакі: тэхнічны і творчы. Мастацкі пераклад як адна з разнавіднасцей творчасці таксама дваістага характару: гэта не толькі пераклад з адной мовы на іншую, дзе патрабуецца дакладнае веданне слоўнікавых адпаведнасцей моўных адзінак, але і "пераклад" з адной нацыянальнай культуры на іншую.

Вось чаму ў паняцце "сэнс твора" ўваходзіць не толькі слова як "сэнсавая адзінка", але і аўтарскае бачанне свету, выказанае словам, а ў паняцце "матэрыя твора" — не толькі гукавая арганізацыя маўлення, не толькі метрыка і рытміка, рыфміка і строфіка, але і штосьці іншае, што складае сапраўды таемнасць паэзіі: славесная і музычная стыхія, спантаннасць паэтычнага слова, яго гучанне ў думках і гуках адначасна, экспрэсіўнасць усёй сістэмы выяўленчых сродкаў — усё тое, што завецца магіяй, цудам мастацкага слова.

...Гучыць "Раманс" Максіма Багдановіча. Гучыць па-балгарску, як па-беларуску, чароўна, задушэўна. Гучыць у сафійскай мансардзе, пад дахам высокага дома на вуліцы Эдысона. Над балгарскай зямлёй узыходзіць зорка Венера Максіма Багдановіча... Гэта значыць, што ў Балгарыю прыйшла ягоная паэзія, што яна арганічна ўвайшла ў нацыянальную паэтычную скарбніцу братняга народа.

Роза СТАНКЕВІЧ,
доктар філалагічных навук
г. Плоўдзіў (Балгарыя)

## Георгій Папоў

# Старонкі з дзённіка

## (гісторыя публікацыі ў «Нёмане» ліставання А.Твардоўскага і М.Ісакоўскага)

(Заканчэнне. Пачатак у № 45)

15 студзеня 1976 г.

На жаль, усё куды цяжэй, чым падавалася Макаёнку, Кузьміну і Кажэўнікаву.

На наступны дзень я патэлефанаваў Вользе Аляксандраўне, каб дамовіцца аб сустрэчы. Мне хацелася перадаць ёй тое, што прасіў данесці Осіпаў. Добра, яна папросіць бабулю (маці мужа) пасядзець з Андрэем і выйдзе. З Андрэем? Андрэй штосьці крыху захварэў, яго выпускаць нельга.

Аднак калі я праз колькі часу вырашыў патэлефанаваць, каб нагадаць, пачуў:

— На жаль, не магу… Бабулі тэлефанавала — няма дома… Напэўна, некуды сышла…

— Добра. У такім разе выслухайце мяне па тэлефоне. Намеснік галоўнага рэдактара часопіса "Знамя" Осіпаў прасіў перадаць вам наступнае… — І я, коратка, у двух словах, пераказаў учарашнюю размову з Осіпавым. Прозвішчаў, зразумела, не называў, але сказаў, што пытанне, звязанае з публікацыяй ліставання, наколькі я зразумеў, абмяркоўвалася ў аддзеле культуры ЦК КПСС. — Зразумейце мяне правільна: я не хачу націскаць на вас, я проста перадаю тое, што мяне прасілі перадаць, і больш нічога.

— Я разумею, — чую ў слухаўцы голас Вольгі Аляксандраўны.

— І яшчэ… Я лічу гэта справай трэцяй, нават, мабыць, дзясятай… Аднак, зноў жа, мяне прасілі вам паведаміць… Размова ідзе пра грошы… У рэдакцыі часопіса "Знамя" абмяркоўвалі гэтае пытанне і вырашылі даць Марыі Іларыёнаўне за ўступ і ўсім нашчадкам за лісты па вышэйшай стаўцы, якую яны толькі могуць даць.

— Ну, гэтая справа нават не дзясятая, а тысячная, — перапыняе мяне Вольга Аляксандраўна. — Так, тысячная, — паўтарае яна. — Калі б "Нёман" апублікаваў ліставанне і не заплаціў нам ні капейкі, мы і тады не мелі б да вас прэтэнзій.

Усё. Размова скончана. Дамаўляюся, што патэлефаную ў панядзелак, 12 студзеня, ужо з Мінска, і кладу слухаўку. Адчуваю, што гэта амаль што адмова. Не "Нёману", а "Знамени", але без "Знамени" не можа друкаваць і "Нёман". Так вырашылі Марцэлеў, Кузьмін і Шаура. І смешна і сумна. І больш усё ж такі сумна.

У той жа дзень а пятай вечара ўваходжу ў рэдакцыю "Знамени". Валянцін Осіпаў сустракае, вітае, пачынае распытваць аб размове з дачкой Твардоўскага. У мяне складаецца ўражанне, што ён нешта ведае і аб чымсьці здагадваецца. "А што яна сказала? Як адносіцца да "Знамени"? Чаму вагаецца?" Я адказваю няпэўна. Маўляў, у іх, у Твардоўскіх, прынята такія справы вырашаць разам. Валянціны Аляксандраўны зараз няма ў Маскве — яна адпачывае ў Малееўцы, — ды і сама Марыя Іларыёнаўна на лецішчы. Збяруцца разам, абмяркуюць і тады скажуць сваё слова.

— Наогул яны нічога не маюць супраць "Знамени"? — зноўку запытваецца Осіпаў.

— Здаецца, нічога не маюць… — я пацiскаю плячыма.

Пераводзім размову на справы часопіса. Я кажу, што нядрэнна было б "Знамени" хоць зрэдку заглядаць у перыферыйныя часопісы, мабыць, рэцэнзаваць нешта… На жаль, гэтая думка не сустрэла падтрымкі. У рэдакцыі "Знамени" і сваіх клопатаў хапае. Пасля я развітваюся і сыходжу. Осіпаў просіць тэлефанаваць, трымаць у курсе. Я пытаюся, калі рэдакцыя здае ў набор чацвёрты нумар. Аказваецца, пятага лютага. Ну, кажу, да пятага лютага ўсё вырашыцца.

І вось я ў Мінску. Тэлефаную Макаёнку. Той не разумее. І паўтарае тое, што казаў, калі вучыў мяне на дарогу: "Кажэўнікаў — адно, часопіс — другое!". У панядзелак тэлефаную ў Маскву, Твардоўскім. Да тэлефона падыходзіць Вольга Аляксандраўна. На жаль, яшчэ нічога не вырашана. Маці на лецішчы, тэлефоннай сувязі з ёй няма, а з'ездзіць туды не атрымалася — муж вярнуўся з камандзіроўкі, — таму давайце адкладзём размову да серады. У сераду тэлефаную зноў. І зноў слухаўку бярэ Вольга Аляксандраўна. На гэты раз яна выказвае цвёрдае агульнае (усіх Твардоўскіх) меркаванне: "Не! Кажэўнікаў — не той варыянт! Мы будзем шукаць іншы часопіс. Думаю, гэта не зойме шмат часу. Патэлефануйце ў панядзелак… Дарэчы, калі вы здасце ў набор пяты нумар?". Я называю дату. Вольга Аляксандраўна запэўнівае, што ўсё вырашыцца значна раней.

"Дай бог!" — думаю я.



На з'ездзе Саюза пісьменнікаў БССР: Ул. Карпаў, М. Аляксееў, Г. Папоў.



Г. Папоў і А. Макаёнак з пісьменнікамі з г. Данецка М. Граўцовым і А. Краўчанкам (у цэнтры).

17 верасня 1976 г.

Гісторыя з ліставаннем двух паэтаў не скончылася, як мы чакалі.

Часопіс "Дружба народов" апублікаваў у трох нумарах (7, 8, і 9) большую частку. Прычым, самую цікавую частку.

Але Марыі Іларыёнаўне гэтага падалося мала. Яна скардзіцца на "Нёман". Чаму не стрымаў абяцанне надрукаваць усё ліставанне, як дамаўляліся?

Наведалася ці патэлефанавала ў сакратарыят ЦК КПСС. Тав. Бяляеў, у сваю чаргу, патэлефанаваў у наш ЦК. І — закруцілася кола.

Двойчы тэлефанаваў мне Г. М. Конанаў, намеснік загадчыка аддзела прапаганды, папрасіў усё ліставанне для азнаямлення. Перш чым даваць, мы супаставілі з публікацыяй "Дружбы народов" і пазначылі лісты, што не ўвайшлі ў публікацыю. Карціна атрымалася сумная. Масквічы прапусцілі толькі 76 лістоў, большая частка з іх — гэта лісты Ісакоўскага, пустыя, беззмястоўныя. Ды і лісты Твардоўскага (што не ўвайшлі ў публікацыю) амаль не лепшыя.

Што рабіць? Пытанне павінна вырашыцца на днях. Ад першага варыянта — перадрукаваць усё з "Дружбы народов" — мы адмовіліся адразу, і ў ЦК (у прыватнасці, Г. М. Конанаў) з намі пагадзіліся. Засталося яшчэ два варыянты: не друкаваць зусім ці, калі гэта будзе немагчымым, — надрукаваць усё ліставанне, цалкам, як яно было падрыхтавана намі год таму. Я пры гэтым настойваў, каб друкаваць мы пачалі (калі без гэтага нельга) не раней, чым з другога (лютаўскага) нумара будучага года. У ЦК з гэтым усе пагадзіліся. У тым ліку і Кузьмін.

Шчыра кажучы, гісторыя з ліставаннем ператварылася ўжо ў анекдот. Хто вінаваты ў гэтым? Цяжка сказаць… У размове з Макаёнкам я сказаў, што ў мінулы раз баязліва павёў сябе А.Т.К., гэта значыць Кузьмін. Макаёнак запярэчыў. Па яго словах, вінаваты не А.Т.К., а Шаура, які ў гэтым пытанні займаў хісткую, няпэўную і па-сапраўднаму баязлівую пазіцыю.

27 верасня 1976 г.

Тэлефанаваў Твардоўскім. Марыя Іларыёнаўна была на лецішчы. Размаўляў з Вольгай Аляксандраўнай. Паведаміў, што будзем усё ж такі друкаваць ліставанне, і папрасіў фотаздымкі. Абяцала даслаць, калі знойдзе.

27 студзеня 1977 г.

Пакуты з публікацыяй ліставання Твардоўскага і Ісакоўскага працягваюцца.

Здавалася б, усё зразумела. Указанні апублікаваць цалкам сыходзяць з вярхоў, ад Зімяніна. І тут — у нашым ЦК — чыталі заўзята: і Петрашкевіч з аддзела культуры, і Конанаў з аддзела прапаганды… Аднак не! Дайшло да Галоўліта, да даражэнькай Марыны Канстанцінаўны, і справа зноўку спынілася. У сакавіцкім нумары выразалі дзесяць (!) часопісных старонак, галоўным чынам лісты Міхаіла Ісакоўскага.

Галоўліту (ці яшчэ каму, не ведаю), бачыш, не падабаецца, што вялікі рускі паэт у гады вайны, калі жыў у Чыстопалі, меў патрэбу ў грошах, у хлебе надзённым і г.д. Твардоўскаму было прасцей — ён знаходзіўся ў Дзеючай арміі, атрымліваў грашовае забеспячэнне, якое і перасылаў сям'і, да таго ж шмат пісаў і выдаваўся. А Ісакоўскі быў у нястачы. Адсюль і незлічоныя скаргі ў лістах да сябра.

У гэтым, я ўпэўнены, няма ніякай заганы, якая б прыніжала наш лад. Калі народу цяжка — і паэту цяжка. Інакш паэт — не паэт, а медная бразготка, якую вешаюць на шыю збродлівым каровам. Аднак Галоўліту якая да гэтага справа? Таварышы з Галоўліта бачаць сваю задачу ў адным: трымаць і не пушчаць!.. Чаго б гэта ні каштавала, трымаць і не пушчаць!

3 красавіка 1977 г.

Нарэшце скончылі публікацыю ліставання Твардоўскага і Ісакоўскага.

Баязлівасць мясцовага кіраўніцтва (у першую чаргу Кузьміна) прывяла да таго, што ўсё скарацілі, скамечылі. Па сутнасці, мы паўтарылі тое, што дала "Дружба народов", вось і ўсё. Будучыя гісторыкі літаратуры будуць вымушаны звяртацца да архіва, куды, напэўна, М. І. перадасць арыгіналы лістоў.

А нам застаецца толькі ўздыхнуць з палёгкай. Кожны з трох нумароў, дзе публікаваліся лісты, давялося пераверстваць. У выніку гэтыя нумары атрымаліся не такімі, якімі нам хацелася іх бачыць, — у іх нехаця трапілі выпадковыя матэрыялы. Ды і перад Твардоўскімі (асабліва перад М. І.) нялёмка. Марыя Іларыёнаўна справядліва хацела бачыць усё ліставанне, як штосьці цэласнае і закончанае. На жаль, здзейсніць гэтае сціплае жаданне было немагчыма.



Сустрэча Першага сакратара ЦК КПБ П. Машэрава з беларускімі пісьменнікамі.

Пераклад Алеся КРАСІЦКАГА

Публікацыя Алены ПАПОВАЙ



**У Баранавічах жыве сям'я мастакоў Уладзіміра і Вольгі Рамейкаў. Іх творы цікавыя, незвычайныя. І самі мастакі — асобы яркія. Дый ці можа быць інакш? Шараговыя людзі не могуць пісаць цікавыя карціны. Гэта сапраўдныя інтэлігенты, у якіх адзін з тых рэдкіх дамоў у горадзе, дзе натуральна і арганічна гучыць добрая беларуская мова, дзе і да ўнукаў звяртаюцца па-беларуску… Сядзім ва ўтульнай гасцёўні над майстэрняй, гутарым.**



# З жыццём у сааўтарстве

— У вас за плячыма немалы мастакоўскі шлях. Як бы вы вызначылі сваё творчае крэда?

Уладзімір Рамейка. Творчасць, на мой погляд, вымагае праявы асобы аўтара, яго ацэначнай пазіцыі. Мастак павінен зарыентаваць думку свайго гледача ў пэўным напрамку, зрабіць яго не проста суразмоўцам, але і сааўтарам, дапамагчы заўважыць найбольш важнае або даць адчуць свае адносіны да выяўленага і такім чынам прымусіць згадзіцца ці спрачацца.

Вольга Рамейка. Для мяне крыніца натхнення — радасць ад свету, захапленне, шчырасць, якая мяжуе з наіўнасцю. Гэтымі адчуваннямі хачу падзяліцца з іншымі, а карціны — пасрэднікі ў гутарцы мастака і гледача.

У. Р. А калі гаварыць пра пачатак творчага шляху… Адпраўная і канечная кропка — Баранавічы. Тут прайшло пасляваеннае дзяцінства і юнацтва, тут жыву па сённяшні дзень. Ад'язджаў толькі вучыцца ў Мінск. Спачатку скончыў там мастацкае вучылішча, а затым, у 1965 годзе, — Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, дзе атрымаў дыплом мастака-жывапісца. Я люблю сваю прафесію. Яна дае мне магчымасць несупынна вучыцца ў мастакоў мінулага і ў сучаснікаў, шукаць, эксперыментаваць, знаходзіць уласныя падыходы. Галоўнае для мяне — не абмяжоўваць сабе жывапісам. Я займаюся кніжнай графікай і манументальнымі работамі, ганаровымі медалямі і вялікімі аб'ектамі з металу. У горадзе ёсць створаныя мной вітражы з літага каляровага шкла, чаканнае пано з алюмінія, зграфіта плошчай 100 кв. метраў, шыльды і малыя скульптуры.

В. Р. Гадоў 30 таму муж узяў мяне з сабой на пленэр у Польшчу. У творчай атмасферы, якою там было літаральна насычана паветра, узнікла пытанне да самой сябе: а чаму я не магу? Сядзела на балконе ў гатэлі. Узяла фарбы, пэндзлі і даволі ўпэўненай рукой намалявала краявід, які бачыла. Муж, убачыўшы "садзеенае", сказаў, што я геній. Успрыняла гэта як жарт. Але ж работу купілі. Гэта надало ўпэўненасці і творчага запалу. З таго часу я многаму і шмат вучылася і вучуся. У вялікіх майстроў і на выстаўках сучаснікаў. Пішу ўсё, што западае ў душу.

— У вашай творчасці ёсць пэўныя тэматычныя цыклы. Чым абумоўлены выбар тэмы?

У. Р. Мае графічныя і біяграфічныя серыі работ — у пяці альбомах "Графіка Рамейкі" — ствараліся пераважна ў другой палове 1980-х гадоў. Не было спецыяльных задумак, планаў, канцэпцый. Яны ўзнікалі спантанна, а стымулам стаў кінатрыпціх Т. Абуладзэ "Пакаянне". Гэты фільм прымушаў мяне зноў і зноў разважаць пра наш час, пра трагічныя рэаліі ў жыцці краіны і ў чалавечых лёсах. З глыбінь памяці выплывалі малюнкі жыцця маіх бацькоў: разбураны энкавэдыстамі дом, высечаны калгаснымі актывістамі сад і вывернутыя, парушаныя імі ж пчаліныя вуллі; а яшчэ — доўгі шлях у вагонах для скаціны ў Сібір; ваенныя траншэі, танкі, галоднае пасляваеннае дзяцінства, бязногія інваліды, што спявалі з надрывам пад гармонік пра свой лёс, пра каханне, пра вернасць і здраду. Над усімі такімі ўспамінамі, увасобленымі ў графічных вобразах, навісаюць груганамі асобы жорсткія, магічныя, страшныя і вялікія. Вось Сталін, які гуляе паравозікамі-дамавінамі то ў Сібір, то назад. Вось легендарны Жалезны Фелікс, наш зямляк. Ён у трох асобах, як Янус трохаблічны, а яго аксесуары — плаха, сякера і калючы дрот.

Невыпадковы і мой чарнобыльскі цыкл. Для нас, беларусаў, з цягам часу чарнобыльскі боль не паменшаў. Ён проста спруцянеў. "Пад заслону Памяці Чарнобыля", "У Лету", "Любоў на новым вітку" — гэта ўсё чарнобыльская тэма. Можа, камусьці страшна ці балюча разглядаць гэтыя малюнкі — і нецікава, і непрыгожа, і на сцяну ў пакоі не павесіш. Але гэта наш час і наша вялікая трагедыя. Таму і малюю жалобныя стужкі з нацыянальным арнаментам, і загінулыя дрэвы, і мёртвых птушак, і пустыя рамы для чыіхсьці ненапісаных палотнаў, і агромністыя крыжы, пад якімі плыве людское мора і над якімі ўзвышаюцца страшныя пачвары. А "Любоў на новым вітку" — гэта мая надзея на тое, што толькі любоў выратуе свет.

Безумоўна, з лёсамі маёй зямлі так ці інакш пераплялося і маё асабістае жыццё, у якім таксама было нямала драм і трагедый. Адсюль цэлая серыя "Асабістае": "Хаос", "Памяці мамы", "Раздваенне", "Браслаўшчына"… І я хачу, каб у маіх трагічных на першы погляд работах прачытваўся заклік да духоўнасці і дабрыні.

В. Р. Часцей за ўсё серыі маіх работ нараджаюцца без папярэдняй задумы. Напрыклад, цэлы год хварэла, не магла хадзіць. Дзеці прыносілі букеты кветак — і я пісала нацюрморты. Надышла восень, і я захапілася яблыкамі — шмат пісала яблыкаў! Мяне захапляе сам працэс творчасці. Навакольны свет, людзей бачу ў танцы, у руху, усё існае ўспрымаю як тэатральнае дзейства.

— Новае тысячагоддзе, ведаю, стала пэўным рубяжом у жыцці і дзейнасці многіх. А што прынесла яно вам?

У. Р. Даволі доўга я ішоў да таго, каб адмовіцца ад уласцівых мне рэалістычных сродкаў выразнасці. Мне захацелася размаўляць з гледачом іншай мовай: нешта закрэсліць, нешта ўзмацніць і нават гіпербалізаваць, а на нешта проста намякнуць. Так нарадзіўся праект "Дыялогі". Гэта мой роздум пра вечнае: пра высокую Духоўнасць, Гармонію, Прыгажосць, пра творчае Натхненне, пра лёс Мастака і Чалавека. У кожным сюжэце — сімвалы, алегорыі, метафары, гіпербалы… Амаль на кожным палатне вы ўбачыце фігуру Мастака або проста Чалавека — то ў роздуме, то ў захапленні, то ў роспачы, то ў задуменнасці. Перад ім часцей за ўсё — вобраз Жанчыны. Гэта не толькі маё ўяўленне пра жанчыну як чалавека, як увасабленне Жаноцкасці, гэта яшчэ абагульнены вобраз Прыгажосці і, калі хочаце, вобраз Сусвету — такога вялікага, прыгожага, неабдымнага, які заўсёды, ва ўсе часы хвалюе нас, кліча да вечнага творчага пошуку. Спадарожнік Чалавека — Воран — гэта і староннi наглядальнік, і дзейная асоба, і сімвал Вечнасці ды Мудрасці. Вы заўважыце, што мае карціны суправаджаюцца вершаванымі назвамі. Яны дапамогуць зразумець некаторыя мае думкі, скіраваныя на філасофскія абагульненні і адначасова на жыццёвыя штодзённыя трактаванні. Гэтая частка праекта выканана маёй жонкай Вольгай, якая і з'яўляецца сапраўдный сатворцай: яе паэтычныя і мае выяўленчыя вобразы складаюць важкі аргумент для самой назвы: "Дыялогі". І яшчэ — гэта мой дыялог з самім сабою: я — чалавек і я — мастак. Гэта мой дыялог і з гледачамі.





— Вас добра ведаюць у мастацкім асяроддзі. Толькі за мяжой за апошнія 25 гадоў вы правялі больш як 40 выставак — у Польшчы і Заходняй Германіі, летась ладзілася экспазіцыя ў Мінску, у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва… У Баранавічах працуе некалькі дзясяткаў мастакоў. Іх ведаюць далёка не ўсе гараджане, а вось прозвішча Рамейкаў на слыху ў многіх. Гэта, у першую чаргу, звязана са стварэннем у нашым горадзе першай прыватнай мастацкай майстэрні і першай прыватнай мастацкай галерэі. Як узнікла ідэя і як адбывалася ўвасабленне?

У. Р. На стварэнне першай у СССР і ў Беларусі прыватнай мастацкай майстэрні з галерэяй відавочны ўплыў зрабілі перабудовачныя працэсы гарбачоўскай эпохі, новыя павевы часу. Хацелася адысці ад "саўковых" формаў і ў творчасці, і ў працы, хацелася свабоды і самастойнасці.

В. Р. Дзевяць месяцаў пайшло толькі на тое, каб зарэгістравацца, бо не было тады яшчэ законаў пра малое прадпрыемства. Я сама распрацавала схему эканамічных разлікаў для структуры, якую мы прыдумалі (дзеля гэтага давялося скончыць бухгалтарскую школу). Аднак ідэя адкрыць пастаянна дзеючы культурна-мастацкі цэнтр, вакол якога існавала б поле прыцягнення для кожнага чалавека, што імкнецца да прыгожага, надавала сілаў і апантанасці. У нас усё атрымалася. Сёння мы працуем у майстэрні разам з дзецьмі і ўнукамі, займаемся рэкламай, металапластыкай, жывапісам, графікай і ўсім, што падабаецца нам і ў чым маюць патрэбу людзі.

— Вы адны з першых беларускіх мастакоў, якія пачалі выстаўляцца ў еўрапейскіх краінах. Што вымусіла "прабіваць акно ў Еўропу"?

У. Р. Хацелася пабачыць свет. Хацелася параўнаць сябе з замежнымі мастакамі.

В. Р. Наогул, усё адбылося выпадкова. У Брэст з горада-пабраціма Равенсбурга, з Германіі, прыехала 10 мастакоў, якім было цікава бліжэй пазнаёміцца са сваімі беларускімі калегамі, таму яны папрасіліся пажыць у мастакоўскіх сем'ях. Дзве мастачкі жылі ў нас. Пасябравалі. Неўзабаве яны даслалі запрашэнне — пагасцяваць у іх. Вось з гэтага ўсё і пачалося.

— Якімі творчымі планамі вы захопленыя сёння?

У. Р. У планах — вялікая выстаўка графікі. У першую чаргу — у Баранавічах, а потым — у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску.

В. Р. Пакуль жыву і мыслю, буду займацца творчасцю. Мару ткаць габелены. Хачу напісаць нататкі пра свайго мужа…

Вольга ЖЫГАР,
г. Баранавічы

На здымках: Вольга і Уладзімір Рамейкі; работа У. Рамейкі "Успаміны дзяцінства" і твор з серыі "Дыялогі"; В. Рамейка "Зялёнае на чырвоным".

# Малявацьnbsp;… настрой

У першыню ў сталічнай галерэі "Мастацтва" ладзілася персанальная выстаўка жывапісу Ігара і Алены Бархатковых. Яны знакамітыя не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Пераехаўшы жыць з Мінска ў вёску, у загарадчай майстэрні сам-насам з прыродай яны з насалодай пішуць родныя матывы. Іх работы атрымалі высокую ацэнку і прызнанне не толькі на радзіме, але і ў Брусэлі, Амстэрдаме, Парыжы, Фларэнцыі…



Ігар Бархаткоў, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, годна працягвае справу свайго бацькі — сапраўднага майстра пейзажнага жывапісу Антона Бархаткова. Яго карціны захопліваюць знешне простымі, немудрагелістымі, але такімі пранікнёна блізкімі для кожнага сюжэтамі, выклікаючы пачуццё судакранання з непаўторнымі вобразамі нашай зямлі.

Алене прынеслі вядомасць пленэрныя нацюрморты, якія свецяцца шчасцем, нерастрачанай свежасцю адчуванняў і трыумфам жыцця. Шчодра адораная вобразнакаларыстычным бачаннем, яна піша толькі з натуры, акцэнтуючы ўвагу на складаных святла-паветраных рэфлексіях.

Адкрываючы выстаўку, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца адзначыў, што вельмі часта сярод яго калег узнікае дыскусія: чым можа здзівіць мастацтва? Бо ў наш час мастацтвам можна назваць усё, што заўгодна. Галоўнае, як гэта падаць і напісаць. Цяпер межы прафесіяналізму і мастацтва размытыя канчаткова, як, зрэшты, і маральныя абмежаванні. І гэта велізарная праблема. Парваная газета ці мех цэменту ў выглядзе арт-аб'екта пад пэўным нумарам не ўражваюць, не здзіўляюць і не будуць здзіўляць. Усе ўжо досыць нагледзеліся гэтага дабра. Пройдзе яшчэ колькі гадоў, і тое, што лічылася рэалізмам, нават анахранізмам, стане эксклюзівам, які ніхто не ўмее рабіць, акрамя адзінак.

Ігар і Алена Бархатковы дэманструюць абсалютна эксклюзіўныя работы, бо гэтак пісаць ужо мала хто ўмее. Больш за тое, яны захоўваюць традыцыі, таму што нічога людскага без традыцый не робіцца. Не трэба, безумоўна, быць іх рабом. Гэта ёсць факт, што той, хто забывае пра свае традыцыі, ніякіх перспектыў не мае: ні ў палітычным, ні ў грамадскім, ні ў мастацкім жыцці. Збудуйце, прыкладам, дом без традыцый, без фундамента, пачніце яго будаваць з коміна ці вокнаў. І што ў выніку атрымаецца?.. Той, хто шчыры, сумленны, трымаецца свайго шляху, той надзейным і належным чынам адпрацоўвае боскае заданне. Тое, што мы ўмоўна называем талентам.

Таксама слова бралі народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі, Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Чэхіі ў нашай краіне Йіржы Карас, дырэктар мастацкай галерэі "ЛаСандр-арт", мастацтвазнаўца Ларыса Бортнік, сябры і калегі Ігара ды Алены Бархатковых. Выступоўцы адзначалі пранікнёнасць, сціпласць, праўдзівасць і пераканаўчасць класічных карцін творцаў. Пейзажы і нацюрморты напоўненыя эмоцыямі, мажорныя, радасныя.

Са слоў Ігара Бархаткова (дарэчы, ён адзін прадстаўляў сумесную выстаўку, бо Алена не вельмі любіць такія мерапрыемствы), яны па кантракце некаторы час працавалі за мяжой, выстаўляліся, але заўсёды жадалі, каб гэта ўсё адбывалася на радзіме. Вярнуўшыся ў Беларусь, Ігар і Алена вельмі шкадуюць, што такія нашы мастакі, як А. Задорын, Р. Заслонаў, І. Цішын, Н. Залозная засталіся ў замежжы, з-за чаго наша краіна творча збяднела.

Ігар і Алена паўстаюць як адно цэлае ў выяўленчым мастацтве. Яны пішуць сваё, рэальнае, што іх атуляе ў паўсядзённым жыцці, не з рэпрадукцый або манітора камп'ютара, як цяпер робяць некаторыя мастакі. Бо, жывучы за горадам, адчуваюць сябе арганічна з прыродай, бяруць у яе сюжэты для сваіх работ. Бархатковы валодаюць рэдкім дарам — умеюць напісаць… паветра. Рэалістаў, якія малююць прадметы, дастаткова. Але ў Алены і Ігара не сам прадмет з'яўляецца самакаштоўным, а ледзь улоўнае паветра вакол яго. З такім жа майстэрствам яны пішуць і сонца, і вецер, і дыханне прыроды, адмыслова перадаючы ўсе поры года.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: работы Ігара і Алены Бархатковых.

Фота аўтара









# Дыялог па-над часам

Зіма, Віцебск, Міжнародны фестываль імя І. Салярцінскага, запачаткаваны 21 год таму. Выбітныя камерныя канцэрты. Сустрэчы ў гасцёўні, адметныя жывой думкай, атмасферай навукі, асветы і творчасці: тут вядуць дыялог, дыскутуюць, сінтэзуюцца розныя віды мастацтва, дакументальная гісторыя, суб'ектыўныя ўспаміны, гіпотэзы... Памятаю, як на адны з першых фестывальных чытанняў, дзе гаварылася пра "карнавальны" дух віцебскага рэнесансу 1920-х (Малевіч, Шагал, Салярцінскі, Малько, Юдзіна, Бахцін!..), завітала мастацтвазнаўца Людміла Налівайка і зрабіла даклад пра мастака з дзівосным прозвішчам Ахола-Вало і не менш дзівосным лёсам.



Сціплая працаўніца Л. Налівайка, на зайздрасць многім навукоўцам, зрабіла сапраўднае даследчыцкае адкрыццё. Менавіта яна адшукала ў Фінляндыі 91-гадовага А. Ахола-Вало, пабывала ў яго дома і праз стасункі з гэтым унікальным беларуска-фінска-шведскім мастаком і філосафам сабрала, увёўшы ў сучасны культурны ўжытак, багаты матэрыял па гісторыі нашай графікі 1920-х. У 1995-м равеснік ХХ стагоддзя А. Ахола-Вало наведаў гарады сваёй маладосці Мінск і Віцебск: прафесар Адам Мальдзіс, нястомны збіральнік імёнаў выдатных суайчыннікаў, як прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў запрасіў тады Аляксандра Пятровіча (ён, дарэчы, памятаў беларускую мову!) на Першы кангрэс беларусаў свету...

Мінула 110 гадоў з дня нараджэння А. Ахола-Вало (1900 — 1997). Гэтая дата адзначана сёлета і публікацыямі ў перыёдыцы (гл. "ЛіМ" за 22.01. 2010 г. — "Сонечны Прамень творчасці" В. Архіпавай), і выстаўкамі. Падрыхтаваная нядаўна з гэтай нагоды ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі экспазіцыя "Прамень" атрымалася камернай, ды канцэптуальна ёмістай і арыгінальнай.

Як вядома, творчы росквіт мастака звязаны з беларускім перыядам (1920 — 1930). Да свайго прозвішча Ахола (па-фінску "паляна") мастак дадаў "Вало" (па-фінску "прамень"). Назву "Прамень" атрымала творчае аб'яднанне, што было арганізавана па яго ініцыятыве ў Мінску ў 1927 г. і праіснавала да 1932-га (тады мастак, які зрабіўся яркай асобай у асяроддзі творчай інтэлігенцыі Беларусі, быў выселены з СССР). Прамень усеахопнай творчай фантазіі, глабальнай думкі, касмічнай ментальнасці А. Ахола-Вало нібы сягае па-над часам, лучыць сваім святлом крэатыўныя ідэі мастакоў новай эпохі, выклікае на дыялог з мінулым, якое цесна спакроўлена з рэаліямі новага дня...

Выстаўка ў НММ прадставіла не толькі творы самога А. Ахола-Вало (ад грандыёзнага канструктывісцкага плаката "Кастрычнік" 1925 г. з выявай зямнога шара, рэалістычных партрэтных замалёвак і сатырычнай графікі — да кветкавых нацюрмортаў 1990-х) і яго паплечнікаў-праменеўцаў: Мікалая Гусева, Паўла Гуткоўскага, Генадзя Змудзінскага, Аскара Марыкса, Валянціна Ціхановіча. Арганічна ўвайшлі ў экспазіцыю работы Людмілы Налівайкі (роспісы па шкле, шоўку, пастэль; публікацыі пра А. Ахола-Вало) — даследчыцы гэтага рэпрэсаванага і "забытага" ў савецкі час перыяду айчыннай культуры, а таксама разнажанравыя ўзоры выяўленчай творчасці яе калег-мастацтвазнаўцаў Міхася Баразны, Валерыя Жука, Уладзіміра Рынкевіча, Рыгора Шауры, Яўгена Шунейкі...

На вернісажы выступілі дырэктар НММ Уладзімір Пракапцоў, доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс, рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхась Баразна, Пасол Швецыі ў нашай краіне Стэфан Эрыксан, мастацтвазнаўца Яўген Шунейка ды Людміла Налівайка (яна, дарэчы, прымала віншаванні з уласным юбілеем). Шчыры, без пафасных слоў, дыялог аднадумцаў быў найлепшым сведчаннем таго, што спадчына беларускіх мастакоў даследуецца, гісторыя іх жыццяў папаўняецца новымі фактамі, і асоба А. Ахола-Вало застаецца тым промнем, які яднае творчых людзей па-над часам.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: кандыдат мастацтвазнаўства Л. Налівайка; П. Гуткоўскі "Гумно", 1921 г. (уласнасць НММ Беларусі); праект герба БССР, 1924 г., — аўтар Г. Змудзінскі (уласнасць НММ Беларусі); вокладка часопіса "Плуг" за 1926 г. — аўтар А. Ахола-Вало (уласнасць музея мастака ў горадзе Хямеэнліне, Фінляндыя).

Фота аўтара





